# ЗУЁНАК

# *Гронка цішыні*



Мінск «Мастацкая літаратура» 1996

# Недзе слова шукае мяне...

Васіль Зуёнак — паэт ад зямлі. Мушу адразу патлумачыць, што паняцце зямнога разнаякае. І прыземленае, калі зямлю адчуваць на ўзроўні плуга, й акрыленае, калі зямлю прымаць за гнездзішча думкі, якая разумее зоры. Думка, толькі яна мае сілу адарвацца ад зямлі, узняцца над зямлёй, над усім прыземленым, побытавым. У паэзіі думка, як страла пер'ем, акрыляецца пачуццём. Зямля дала паняцце ўзлёту, бо ад зямлі адштурхоўваецца думка. Назіраць зоры лепей за ўсё, цвёрда стоячы на зямлі. Ад зямлі, ад грунту — грунтоўнасць, угрунтавацца.

Прыйшоўшы на зямлю, чалавек знаёміцца з наваколлем, зямным светам, узіраецца ў кожную драбніцу, запамінае кожную рыску, бо са спаткання з зямлёю адначасова пачынаецца й расстанне з ёю. Першае знаёмства, яно ж і першы ўспамін, які душа перадасць наступніку, што вернецца з ёю на зямлю ў новым аблічча.

І праз усю паэзію Васіля Зуёнка «залатою лініяй дажджу» праходзіць пачуццё знаёмства й развітання з зямлёй, каб потым было што ўспомніць душы. Па прыклады далёка хадзіць не трэба. У сваёй, можна сказаць, праграмнай, светапогляднай паэме «Маўчанне травы», дзе выявіліся й факты біяграфіі паэта, й нават карані ягонага рахманага, вонкава абыякавага характару, цэлыя старонкі як бы даведнікавага, энтаграфічнага кшталту.

Дзе драч згубіў сем дудак і сто песень, —
Такія травы параслі густыя;
І сухадол, дзе скрыпень ціха скрыпаў,
Дзе лісахвост ірваўся ўверх трубою,
Дзе рабацінкі казялец рассыпаў
На шчэці белазорага падбою;
Збуялае дзядоўнікам стажар'е,
Лажок, дзе пурпурова да крыніцы
Ятрышнік, як раз'ятраны пажарнік,
Без вёдзер па ваду штодня імчыцца;
Блакітнага званца шкляную крохкасць,
Рамонкаў белых бясклапотны россып,
Лісцё капытніка, дзе конь зялёны лёгка —
Расы не збіў — наўскапыта пранёсся.

Гэта нечым перагукваецца з Коласавай «Новай зямлёй», Данелайцісавымі «Чатырма паравінамі года». Тут памкнецца, перабіраючы гаючыя й жывучыя травы, як ружанец дапаганскі, узнесціся думкай высока. А ў «Новай зямлі» Якуб Колас смачна апісвае блін, а ты бачыш яго ў небе, бо правобразам бліна гэтага было й ёсць сонца, вока Ярылава.

Паэзія Васіля Зуёнка мае эпічны пачатак. Невыпадкова ён не ў лад сваім аднагаснікам у паэзіі, так званым шасцідзесятнікам, пачынаў фактычна з паэм свой асноўны творчы шлях. Не без уплыву паэм Юстынаса Марцінкявічуса, які ва ўмовах татальнага вынішчэння ўсяго

нацыянальнага напамінаў літоўцам, нашым крэўным суседзям, пра карані вальналюбства, пісаў Васіль Зуёнак паэму «Лукам'е». У паэме зноў жа грунтоўнае веданне матэрыялу. (Быў сведкаю, колькі часу сядзеў паэт у Нацыянальнай бібліятэцы, вывучаў архівы, натаваў, нітаваў падзеі.) І трэба было шмат вычытаць, выпісаць, узважыць радком, каб дакладна легла ўсё сценамі рыфмаў і рытмаў у сутарэнне паэмы:

З борцяў — васковы падатак і мёдны,
Стаўпчыну — з рыбнай лускі ў невадах,
Потым — пасошны, падымны, пабродны...
А пры вяселлі — паёмпчыну здай.

Здаецца, адчыніўся куфар, адкуль зноў на свет глянула старадаўпчына дарагая, забытая. Сутарэнне паэмы бліскавічна праціпаюць лірычныя адступленні, трапна ўбачаныя дэталі. І тады гучаць радкі: «У лёце страла даганяла стралу», «Князь без дружыны — без лука страла».

У паэме «Сяліба» пераплятаюцца, як сосны каранямі, мінуўшчына, паганшчына й сучаснасць, надзённая пад час напісання паэмы. І зноў дакладнасць дэталі, шчодрая ашчаднасць малюнка:

Дзве ракі,
Як дзве рукі,
Сялібу абдымалі.
З лукі —
тугія стрэлы — шчупакі
Ў гаршчок на юшку самі заляталі.

Цнатліва-гарэзная ўсмешка тут нялішняя:

...бягляк-язычнік...
з ліцвінкаю бялявай
Абжыў за ноч глухую старану.

І як бы само сказалася, каб паяднаць дол з нябёсамі, дым з аблокамі, шаргунец з дугою:

Цвіло пралескай вока Багародзіцы.

У лірычных вершах Васіль Зуёнак прайшоў шлях сваіх аднагодкаў. І набываў,і страчваў разам з паэтамі-пасляваеннікамі. (Для даведкі можна нагадаць, што нарадзіўся Васіль Зуёнак 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішча на Халопеншчыне.) Але варта адзначыць, што Зуёнкавы вершы выгодна вылучаліся сярод голапафасных, задужа аптымістычных хваласпеваў у гонар светлае будучыні й сучаснікаў на рыштаваннях гэтае будучыні. Гэта за кошт канкрэтнасці, разважлівасці, традыцыйнага беларускага пакеплівання з усяго й нават з самога сябе. Зуёнак імкнуўся ўвесці ў паэзію й элемент навуковага спазнання свету, найноўшыя адкрыцці ў розных галінах ведаў. І гэта розніла ягоную паэзію з агульнапрынятай, якую ў асноўным жывіў сум па росных сцежках (пісалі паэты якраз па росных, не чуючы быццам, што сугучча адносіцца болей да частай гераіні баек, якая рохкае, калі й паросная), па роднай вёсцы, ад якой іх адарваў халодны горад.

Як сын свайго часу трапляў і Зуёнак у капкан надзённасці. Модна было славіць касманаўтаў (амаль усе паэты тае пары заглынулі гэтую нажыву), асабліва калі героі ваенна-прамысловага комплексу былі ўраджэнцамі Беларусі. Маленькі парадокс ніхто не хацеў заўважыць: працавалі касманаўты на мір на зямлі і ў боскае гасподзе, а зоркі

асыпаліся на вайсковыя пагоны. Зразумела, калі ў космас паляцеў Кавалёнак, самы блізкі зямляк Зуёнка (нават прозвішчы рыфмуюцца), паэт напісаў паэму «Прыцягненне» з падзагалоўкам: «Дванаццаць сеансаў касмічнай радыёсувязі з неабходнымі адступленнямі». У сваю чаргу хочацца зрабіць адно адступленне. Паэзія пойдзе насуперак задумы паэта, задумы, пабудаванай з добрымі намерамі правільна, пойдзе насуперак і скажа, што ў падсвядомасці паэта было. Так і ў «Прыцягненні»:

О, не тварыце нам імён —
Бывае слава, як праклён,
Калі — маленькая — здаля
У вочы вам глядзіць зямля.

Зямля, любімая паэтам, глянула яму ў душу, каб сказаць, чаго варта на справе слава касманаўтаў.

Апошняе дзесяцігоддзе, пазначанае зменамі ў грамадскім і духоўным жыцці не абышло бокам паэзію Зуёнка. З'явіліся вершы-водгукі на падзеі, якія маюць уплыў на долю нацыі. Яшчэ выразней прабіўся боль за свой народ, за родную мову, зрэшты, за сябе самога. Паглыбеў роздум пра вечнае. Узрост і вопыт зусім не ружова бачаць заўтрашні дзень.

І дні ідуць за днямі,
А памяць — за труной...

Некалі малады паэт слаў свае слова ў абарону лесу. І ранні жаўранак нацыі Уладзімір Караткевіч у славутай «Зямлі пад белымі крыламі» прыводзіў як узор свайго захаплення радкі Зуёнка, дзе гучала пытанне: «О сосны, хто прыдумаў вам Майданак?» Па часе паэту бачыцца,

Што сасною было —
Стала белай труною...

Гэтулькі фактаў, гэтулькі праўды, што жалезабетонна, як пад чарнобыльскім саркафагам, ахоўвалася ад людзей, навалілася на ўсіх сягоння, аж паэт у роспачы ўскрыквае:

Праўда голая — як голая жанчына, —
Хочацца хоць чым-небудзь прыкрыць...

Хоць сцверджанне дужа спрэчнае, як і само параўнанне. Гэта, як каму, у якім узросце, у якім стане. Вядома, не трэба браць пад увагу такую заўвагу. Паэт спрабуе разабрацца, што ў жыцці адбываецца, што да чаго. Па-ранейшаму вока паэтава зоркае. Аж хочацца цытаваць:

Усё ў заснежаным здранцвенні,
Усё ў закутай ціпыні,
Забыліся галінак цені,
Што ёсць на свеце карані.

Паэт углядаецца ў наваколле, углядаецца ў неба, углядаецца ў сябе. Гады ідуць, і нас не заўважаюць. Настае час, калі трэба прыкінуць, узважыць, што зрабіў, што набыў, што мог бы. І тады:

Як знак пытання, паміж зор
Плач у бясконцасці згубіўся:
Ці я даўным-даўно памёр,
Ці я — яшчэ не нарадзіўся?..

У пытанні й прага жыцця, й шкадаванне змарнаваных гадоў, якіх не затрымаць, не вярнуць. На пытанне гэтае нават час не адкажа некалі,

потым. На пытанне гэтае толькі сам можа адказаць паэт. Бо падсвядома кожны адчувае, чаго ён варты, што можа, што мог, што не здзейсніў. І ад штодзённае мітусні, ад штодзённае, кажучы словамі Бібліі, лоўлі дзьмушак, хочацца туды, у край маленства, дзе:

Не спайманы ў агурках,
Па аблоках, як па выгане,
Ходзіць хлопчык на руках.

Аблокі — той выган, дзе раскашуецца летуценне, дзе кожны можа пасвіць думкі свае, не баючыся, што яны забрыдуць у шкоду. Кожнаму свой лёс уяўляецца ў розных аблiччах, у розных постацях, ён кожнаму можа прысніцца, праявіцца праяваю, як у песні велікоднае. Зуёнак кажа:

...з глыбіні падкарэннае
Мой лёс выплывае, як сом.

Ці не таму, што паэтава радзіма ў азёрах і рэках некалі кунежылася. Да меліярацыі. І пасля вандровак у далёкія заморскія краіны, пасля пагасцінаў у блізкіх суседзяў Балтыі, у сяброў у Балгарыі, адкуль прывозіў нізкі вершаў (асацыяцыя з грыбамі, дзе ў нізцы не толькі адны белыя грыбы, але й іншыя), паэт зрабіў «Падарожжа вакол двара» (так ахрысціў паэму), каб дайсці да сумнае высновы:

Мы як прышэльцы на сваім двары,
Мы бежанцы ў сваёй уласнай хаце...

Часта ўсё-ткі самабежанцы самі сябе гналі са сваіх котлішчаў, бо здавалася, што недзе ў горадзе, як і ў чужых руках, кавал хлеба таўсцейшы. З гадамі прыходзіць сталасць, каб неўзабаве назвацца старасцю, з гадамі прыходзіць умельства разам са страхам, апошнім надзейным сябрам, прыходзіць і сум — бацька роздуму, айчым захаплення. І радзей, глушэй гучыць «Зорка Венера», часцей і настойлівей гучаць Багдановічавы радкі «У жыцці нашым многа дарог...». І настроем па-зямляцку перагукваюцца радкі Зуёнка з Багдановічавымі, бо яны пра непазбежнае:

Будзе ўсё, як было, — замятаецца сцежка зямная,
І ніхто не заўважыць, як ты ў гэтай стыні згарыш.
Ды пачуе віну, што камусьці яшчэ замінае,
І драўлянай рукой сам сабе перакасціцца твой крыж...

Драўлянаю рукою ксціцца шмат хто з сённяшніх вернікаў, якія веру прынялі не душою, а болей агульнай, хай Бог даруе за такое слова, модай. Цяжка Бога выганялі з душы прыслужнікі камуністычнага д'ябла. Яшчэ цяжэй вярнуць Бога ў душу. Не просьбай, а малітвай, малітвай шчырай. І нашая паэзія ў лепшай сваёй меншыні старасцца вярнуць Бога ў душы беларускія. І паэзія Зуёнка пэўным чынам.

Верны падданец наскага, крывіцкага слова Васіль Зуёнак трывожна чуе:

Недзе ходзіць слова маё,
Недзе слова шукае мяне...

Пакуль паэт баіцца размінуцца са сваім словам, якім ён выкажа сябе, пакуль чакае сустрэчу са словам сваім, матчыным, спадчынным, датуль паэт жывы, датуль жыве ягоная паэзія. А гэта цепліць надзею, што слова паэтава дасць плён.

*Рыгор Барадулін*

* * *

З вайны сустрэлі мацяркі сыноў
І выглядалі-радзілі нявестак.
А сын яе дадому не прыйшоў.
Прыйшло кароткае:
«Прапаў без вестак...»

Сябры пасмуткавалі, землякі,
Слязу змахнула ўпотайкі дзяўчына:
Не вернецца... Знаць, лёс яе такі...
Ды толькі сын для маці не загінуў.

Знаходзіць маці тысячы прычын,
Чаму так доўга сын яе ў дарозе,
Чаму не йдзе разгладзіць ёй маршчын
І высушыць на родным твары слёзы.

Яна між рэчаў самых дарагіх
Кашулі сына беражна хавае,
Святочным днём падоўгу каля іх
Стаіць,
гамоніць з імі,
плача і ўздыхае...

І ёй успамінаецца тады,
Як сын казаў: «Вярнуся, не загіну,
Чакай мяне... Чакай!..»
Ідуць гады,
І кожны дзень чакае маці сына.

*1955*

## Студэнцкі чамадан

Можа, хто і пасмяецца з верша:
Вось хлапец —
знайшоў здзівіць чым свет!
Толькі ж гэтак я кажу не першы:
— Чамадан мне — як курцу кісет.
Паглядзі — чаго няма ў ім толькі:
Тут Купалы кніжка і Бальзак,
Тут буфет студэнцкі мой,
паколькі
Без яго не пражывеш ніяк.
Праўда, як стыпендыя знікае,
І буфет тады пусцее ўміг,
Бо ніхто у нас не замыкае
Чамаданы ад сяброў сваіх.
А калі машынай спадарожнай
Я дамоў імчу на пару дзён, —
Хіба ж мне без чамадана можна?
Да зарэзу тут патрэбен ён.
Па дарозе дрогкай «газік» скача —
Чамадан мой крэслам можа быць...
Тут і пашанцуе мне, няйначай,
Месца сваё дзеўчыне ўступіць.
А дамоў прыедзь — хлапчук бялявы
Завіхацца ля яго пачне —
Самы заклапочаны і жвавы —
Каб у ім знайсці што пасмачней...
Так заўжды, дарогаю б якою
Ты, студэнцкі лёс, мяне ні вёў —
Гэты чамадан вазьму з сабою,
Як багацце першае сваё.
Не бяда, што крыху абшарпаны,
Але ж служыць ён не толькі мне.
І на бляск пузатых чамаданаў
Я яго не прамяняю, не!..

*1955*

# Пачатак

Яго лічу не з той пары, калі
Я ад калыскі да стала праклыбаў,
Калі ўсе сцюжы для мяне былі
Малюнкам хітрым — шэранню на шыбах...
Мой шлях жыццёвы ў той пачаўся дзень,
Калі дала мне маці пляшку з квасам
І, агуркоў паклаўшы у кішэнь, —
Каб не ўпадаў у грады самапасам —
Сказала перад гуртам малышоў:
«Шануйся, — працаўнік цяпер ты ў хаце...»
І з гонарам нязвыклым я пайшоў
За статкам зброддлівым галёкаць і ганяцца...
Ну і паганы ж бог гусей стварыў!..
Во папасці б яму сваю «жывёлу»!
На неба сёмае уцёк бы без пары,
Падпаскаў прыхапіўшы ўсіх — анёлаў...
Так думаў я... А восень неўпрыкмет
На покуць сядзе, весела даводзіць:
«І ўсё ж твой Бог памазгаваў як след:
Чаму не жыць са скваркаю у згодзе?..»
Даўно было ўсё...
Сталасць настае...
Я знаю Бога!
Я — малюся
Ўсясільнай працы, хлебу на стале,
Рукам мазолістым —
Малюся!

*1956—1962*

## Паэзіі

З табою не спраўлялі мы заручын,
Сватоў не засылаў я.
                    Ты сама
Прыйшла аднойчы песняю нягучнай...
І з хвілі той спакою мне няма.

Я слову, помніш, першаму паверыў —
Пра салаўя, пра квецень у садах...
Аматар-крытык шчодра мне адмераў —
І за радкі, і так, авансам, даў.

Я — уцякаў. А ты ішла за мною.
У думак стоеных крышыліся ілбы.
Гукала ты і клікала з сабою,
Нібы Яна — каму няверны быў.

І я вярнуўся...
                    Чую — суцяшаеш:
«Ці мала што бывае на вяку...»
Не трэба слоў, не трэба, дарагая...
Прабач мне, блуднаму. Падай руку.

*1962*

## Успамін

Мачулішча...
Відаць, і пры Ярыле
Ільны ў нас сеялі,
Вымочвалі ў Мачыле.
Бель-кужаль пралі, ткалі, вышывалі,
Кашулі ў кайстры
Напамінкам клалі.
...Спадаюць ручаінкі —
Дзве дарожкі:
Блакітны лён і васількі-валошкі —
Узор няхітры,
Вышыты табою,
Што дзень і ноч не ведала спакою...
Завіхалася ды шчыравала,
Абдымала ды мілавала...
О рукі,
Рукі ў ільняной старонцы, —
Духмянасць поля і гарачнасць сонца.
Мачулішча — блакіт палёў —
Нябёс —
Блакіт вачэй — блакіт туманны
Слёз.

*1962*

* * *

Збірайся, Мароз,
Туды, дзе ўзрос,
Хопіць стаяць на якары.
Кроплі са стрэх
У пульхны снег
Мякка замякалі.

Плача зіма:
Паратунку няма.
Глотку дзярэ:
«Памрэ! Памрэ!» —
Варона на даху прастуджана.
Хмарка з вераб'ём
Б'юць крылом —
Купаюцца ў лужыне.

Пупышка наўсхруст
пацягнулася:
Сонца ў пупышцы прачнулася.
Кожнае дрэва —
У вясны на прыгрэве.
Дзіва чакаюць бярэзнік, ліпоўнік.
Праз нейкі тыдзень
Над лесам узыдзе
Зялёная поўня.

*1962*

## Размова

Смерць! Ты пытаешся:
Прыйсці па мяне калі?
Пачакай, не спяшайся.
Дай адгрукаць усё на зямлі.

Дай узняцца мне ў высі
Дарогай ракетнай, прамой,
Дай на зорных красалах высеч
След вогненны мой.

Дай пазнаць мне глыбіні
Акіянаў і сэрцаў людскіх.
Дай у глебу зярняты кінуць,
Каб рунелі з лёгкай рукі.

Дай дагледзець палетак,
Колас дай даспяліць,
Дай паболей мне дзетак
Ускарміць, успаіць...

Ну, а потым прыходзь. Калі ласка.
І сустрэнься — з пагардай маёй.
Смерць! Зубамі не ляскай.
Я ад гэтага часу не твой!

Не памру!
Мае вочы блакітам,
Бачыш, ззяюць з нябёс,
З маіх мускулаў дуб адліты,
Што над рэчкай узрос.

Метэорам мой дух нясецца —
Там, дзе зоркі гурмою.
Маё сэрца — у жыце б'ецца
Перапёлчыным боем.

*1962*

* * *

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвецццем —
Ля Халопеніч,
на Беларусі.
Ніхто не пачуў —
Ні людзі,
ні травы,
ні вецер...
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся...

*1963*

* * *

Бо наваліўся б лістабой у маі.
І кветкі б адцвіталі, не зацвіўшы,
Вясёлак спіны неба не ўтрымалі б,
І зоркі б палі ніц начною цішай,
І сэрцы б супыніліся ад жалю
У мужных перад бітваю гарачай, —
Запісана сынамі на скрыжалях:
«Не, маці,
вы не ўсё павінны
бачыць...»

*1963*

## Помнік

— Што ж ты, бярэзінка, сокам гаючым
Не акрапіла іх раны?..
— Позна я,
позна ўзрасла па-над кручай:
Хлопцы даўно пахаваны...

— Што ж ты, матуля, слязьмі не размыла
Жвір гэты, смутак чорны?..
— Доўга я,
доўга ішла да магілы —
Слёз не данесла,
Слёз не хапіла,
Слёзы ссушыла мне гора...

— Што ж ты, матуля, гневам пякельным
Жвір тады не спапяліла?..
— Гнеў скамяніўся мой...
З гневам каменным
Так і стаю над магілай...

*1963*

# Цішыня

З ёю выйшаў сустрэцца я,
З такой — хоць рукамі бяры —
І, як рыбіна, затрапечацца
Яна ў хвалях світальнай зары.
Заклінаю рыбачае шчасце штоночы,
Зацягваю брадзяні —
Зноў і зноў...
                    Выварочваю —
Няма цішыні...
Дзе ж яна,
                у якіх яна тонях?..
Зялёныя вочы глядзяць:
Адны —
            немата з глухатою —
У самай карме сядзяць...
І тут!..
            Прыслухаўся я:
Песні далёкай ніць...
Злавіў!
Звініць цішыня!
Звініць!..

*1963*

* * *

Ралля — аснова,
Зерня ўток няспынна
Кідаю я рукою агрубелай, —
І тчэцца, тчэцца мудрая тканіна —
Жыццё...
На золаку нясмела
Праклюнуцца зярняты, дол свідруюць,
Узор — зялёны з чырванню —
бярэцца,
Яднае сонца сілу незямную
З зямною сілаю —
і тчэцца,
Тчэцца вечная тканіна:
Зямля — аснова,
Сонца ўток кідае
Праменны...
Наліваюцца зярняты...
І з песняй жніўнай —
спелым караваем —
Прыходзіць хлеб у хаты.
Ён ад зямлі,
а з ім усё —
гасціны,
Заручыны,
вяселлі,
парадзіны,
І геній, што ў стагоддзях уваскрэсне,
І думкі лад у пошуку бяссонным,
І слёзы —
ад зямлі,
і гнеў,
і песня,
І вогненны палёт насустрач сонцу...
Зямля —
мая аснова...

*1963*

## Соль

На зямлі шахцёрскія душы —
Рыбы на сушы.
На зямлі шахцёрам не цесна,
На зямлі —
　　　　　прэсна.
Не ад сонца ідзём у глыбіні —
Па сонца ідзём.
Сонца гіне:
У кайданы крышталёў закута —
Ляжыць у падземных закутках.
Ідзём —
　　　　магутныя —
Вызваліць брата
З-за кратаў.
Шахцёркі гарань над галовамі,
　　　　　　　　　　　　нібы —
Німбы.
Ідзём! —
　　　　Сілай настоены
Мускулы нашы ў штольнях.
Варочаем,
　　　　　узнімаем пластамі
Сонца, што камянела вякі.
Смялей ступайце над намі,
Смялей,
　　　　землякі!..
Калі зямля набатам
Гудзе ад вашых ног —
Шахцёр весялей працуе,
За трох!
Соль, соль у клецях
Ляціць з-пад зямлі.
Салянца нашы душы,
Салянца нашы плечы,
Нашы палі!

*1963*

* * *

У гэты міг,
                    што Геніем здабыты,
Я — ўзлёт і хуткасць...
Выбухне сустрэчны:
Зямля —
            Венера —
                        Марс —
                                Сатурн —
                                        Юпітэр —
Вагоны з Сонцам счэпленыя вечна...
І толькі там, у бездані галактык,
Адкуль гукнеш — адказу не пачуеш,
Адкуль не ўбачыш родных ніў і трактаў, —
Там бласлаўлю любоў тваю зямную.
Яна са мной. Я ўзяў яе па праву,
Хоць ведаў добра, што ў хвіліну старту
(Аб гэтым Геній і не думаў нават!)
Яна зямнога прыцягнення варта.
Яна са мной. Мне курсам не змыліцца,
А давядзецца ў метэорным градзе
На рубяжах чужых упасці ніцма —
Яна не кіне,
                    не збяжыць,
                                не здрадзіць.

*1963*

* * *

Прыбой ліловы — цвет-прываба:
Чмялёў басы і восаў звонь,
А ад узятку пчол аслаблых
Апошні джалісты агонь.

Мёд верасовы
заварыўся!
Датлелі смолкія карчы,
На кадзях поўных раздаліся
Арэхавыя абручы.

І загуло ў бары вяселле!..
Я госцем быў там. Верасы
Падносілі ў карцах мне зелле —
Трапляла ў рот і на вусы.

Па барадзе цякло таксама, —
Усё, як водзіцца здаўна!..
Звон!
Звон стаіць над верасамі,
Льюць верасы пітво спаўна —

Усім, усім...
А мне — тры меры:
Тых частаваць,
хто не паверыць.

*1963*

## Чырвоныя ветры

Бывай,
          маё лета,
Бывай,
          мая песня!
Чырвоныя ветры
Гуляюць па лесе.

Сядлаюць пры зорах
Стаеннікаў-коней.
Галёкнуць,
                    прышпораць —
Мароз не дагоніць!

І я не трымаю:
Нясіце па свеце
Надзею —
                    аб маі
І песню —
                    аб леце...

*1963*

## Гуслі

Збіралі гукі,
насілі,
Хавалі ў азёрнай сіні...
Як стала на цэлую песню —
Ўзляцелі
да паднябесся.
Зайгралі,
зайгралі гуслі...
Шчаслівай дарогі,
гусі!..

*1963*

* * *

Час абнаўлення, час вяртання...
Гаючы дождж спякотным днём,
Вязьмо праменняў над ляднём,
Павеў далёкага спаткання...
І я —
          між родных сэрцу ніў...
Сягоння сілы адгукаць,
Сягоння сілы адшукаць
Не маеш, сталасць:
                              у агні
Згарэў я!
У агні тых дзён,
Што цудам выплылі з бяздоння —
З віроў тваіх.
                    І можа, сёння
Я толькі сам сабе відзён...
Вачмі званочкаў сініх-сініх,
Вачмі загадак даўніх —
                                    зор,
Вачмі крыніц, што б'юць з-пад гор,
Гайдаюць цэлы свет у плынях,—
Я на сябе гляджу...
                              Акрас
Не патрабую.
                    Гэтак, пэўна,
Глядзіцца —
                    з радасным здзіўленнем —
Дзіця ў люстэрка
                         першы раз...

*1964*

## Вясновая казка

Гэтак спалася добра!..
Сп'янелы, ляжу на гарышчы.
І вераб'і —
падпілі, падобна:
Ладзяць ігрышча.
Жаўранак кінуўся ў просінь:
Кроплю глынуў — звініць!
Ластаўкі п'юць і просяць:
— Піць-піць, піць...
П'юць вясну, п'юць усе —
Без конавак, шклянак.
П'юць, не дзелячы пакрысе!

Гэткі быў ранак!
Ляжу на гарышчы, сп'янелы.
Акенца — маленькім экранам,
На ім — хмаркі белыя-белыя.
Плывуць удаль летуценна.
Адна толькі стала штосьці...
У акенца глядзіць...
Ну, пэўна, —
Да мяне хоча ў госці!
— Дык заходзь! — не ідзе... А можа —
Уцякла летуценніца гэта,
Бо ад роднай зямлі ў падарожжа
Не схацела імчацца з ветрам?
Можа, кроплямі лепш упасці
На лугі, на лясы, на нівы,
Чым шукаць далёкае шчасце
І быць нешчаслівай?..

Раптам сціхла ўсё, знямела:
Шпак на хмарцы! — прысвіснуў, заляскаў...
...Дзякуй, яблынька, дзякуй, белая,
За казку.

*1964*

## Добры прыезд

Гудзе, як брук: павысмяг глей на грэблі,
Над жытам вісне пыльная смуга,
А сонца паліць,
смаліць, непатрэбнік,
Не тоўпіцца духоцце ў берагах.

Дзядзькі ў трывозе, і зямля ў трывозе:
Па небе аж другія саракі
Дажджы не ездзяць на грымотным возе,
Не п'юць вясёлкі гнуткія з ракі...

І каб сябе, і каб дзядзькоў усцешыць,
Я самазвана грамавержцам стаў
І выклік небу кінуў: даўні грэшнік —
Я дождж у свой прыезд наканаваў!

Збаялася? Паслухала стыхія? —
Я не шукаў на радасцях прычын.
Прагнозаў аднастайнасці сухія
За ноч дашчэнту лівень размачыў!

І забуяла радасцю зямля ўся,
І землякі-дзядзькі навесяле
Гукаюць мне:
— З прыездам добрым, Вася!
І я хаджу прарокам на сяле.

*1964*

* * *

Я сябра кожнай птушцы,
Ва ўсіх —
            наперахоп:
Заве глушэц у пушчу,
Бакас — на расцяроб,
А салаўі — на спеўку,
А жаўранкі — у рунь.
Прыходжу я знячэўку,
Ніхто не мчыцца ўгрунь.
П'ю з жураўлямі піва,
З драздом — свішчу дразда...
Я свой тут.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
              Ды імкліва
Зрываюцца з гнязда,
Куляюцца наседкі,
Адманьваюць, вядуць...
Тут
     не патрэбны сведкі.
Прабачце. Я пайду.
Я крыўдаваць не стану,
За недавер судзіць...
Я знікну, ўміг растану,
Каб гнёзд не астудзіць.

*1964*

## Кнігаўкі

Вы чайкамі ўзляталі з рыжых купін —
Мой карабель праводзілі ў дарогу...
Вярталіся — і свой жа клопат рупіў, —
«Кі-гі» тужлівае гайдаючы над логам.
Я разумеў вас, кнігаўкі:
начамі —
Праз нетры, праз вякоў напластаванні —
Вы морам трызнілі.
Аб купіны з адчаем
Вы біліся, прачнуўшыся уранні.
Над чортавымі вокнамі, стаўкамі,
Як перад штормам, голасна крычалі
І, нібы ў мора,
кідаліся каменем —
Трыццатае калена белых чаек...
Я разумеў вас, кнігаўкі...
І вы мне
Ключы далі да ўсіх сваіх сакрэтаў.
І толькі аднаго я ў вас не выменяў,
І аднаго я не спасціг дагэтуль:
Ад сілы вашай і ад вашай веры,
Ад памяці — глыбокай і бяскрайняй —
Дзе ключ хаваецца? Дзе тыя дзверы?..
Скажыце... Я не выдам тайны...

*1964*

# Ідуць дажджы

> В последний раз —
> опомнись, старый мир!
>
> А. Блок

Ідуць дажджы.
А травы жухнуць,
Грыбы хаваюцца ў зямлю.
Ідуць дажджы злавесна, глуха,
Рунь заганяюць у раллю.
Ідуць дажджы.
А птушкі млеюць
І нема падаюць на дол.
Ідуць дажджы...
І ліст лілеі
Над смерцю рыб — хаўтурны стол.
Ідуць... І стронцыю удары
Цвікі ў дамоўкі б'юць і б'юць...
А ў небе хмары,
хмары,
хмары...
Ідуць дажджы...
Дажджы ідуць...

*1964*

* * *

Я са шляхоў далёкіх і цяжкіх
Дамоў гасцінцаў прывязу такіх:
З паклонам бацьку —
Мужнасць і адвагу;
Братам — па-брацку:
Да палётаў прагу;
На завушніцы для малой сястрычкі —
Дзве зіхатлівыя
Смяшынкі-знічкі;
Ласкавай жонцы —
Зорак на каралі;
Сынам — сто сонцаў
Неадкрытых
І сто даляў...
І кожны будзе ў захапленні, мусіць...
...Дзень добры, мама,
                    вось і я,
                              вярнуўся...

*1964*

* * *

— На Начы?
— На Начы.
— З паўпуда?
— Няйначай?..

...Сяджу і рыбачу...
То клюне,
То плюне
Ды ўглыб
Нырне
І плёткі між рыб
Пляце пра мяне...

Над Начай,
                над Начай
Гайдаецца кладка.
— Дзень добры!
— Дзень добры...
— Не ловіцца?
— Гладка...

А слова
          да слова —
Гатова
          размова...
Гуляе улоў мой,
Цікуе і судзіць...
І клёву сягоння
Няма
І не будзе.

Вісяць над вадою,
Сумуюць вудоўі...

*1964*

* * *

Абяцаю ночы бяссонныя,
Дні
пахмурныя і бяссонцыя,
Абяцаю крутыя дарогі,
Абяцаю чаканне,
трывогі,
І вялікую веру,
І шчырую вернасць —
абяцаю.
А шчасце?..
Не знаю.

*1964*

* * *

Нахіляўся, як дзікі лясун...
Ап'янялася
вуснаў спеласцю,
А ў вачах —
адданасць і сум,
Перабаўлены хмельнасцю,
Просьба спозненая —
у вачах,
У ружовасці шчок —
надзея...
...Сонца нізка...
Вячэрні час
Вёў з нядзелі
у панядзелак.

*1964*

## Стары цецярук

Нотным кавалерам
Ходзіць па чысціку,
Ля малодкі шэрай
Сцелецца лісцікам:
— О з цяцер цяцера,
Перад боем
Прысягаю пер'ем:
Станеш маёю!
Быў і буду Богам я
На такавішчы.
За цябе — любога
Спляжу,
знішчу.
А яна, шэрая, —
З цяцер цяцера:
«Квох» ды «квох» —
не веру я.
«Квох» — не веру...
«Квох» ды «квох», —
смяялася —
Нарабіла сораму...
Сэрца ўзбушавалася
Пад крылом чорным!
І сышлася сіла —
Грозныя саперпікі.
Захвасталі крылы,
Як у лазні венікі.
За адзін золак
Перамог
такі ўсе,
Урачыста-голы
Перад Ёй з'явіўся...
Ні штаноў, ні фрака...
Дзе краса былая?..
— Хто ты, небарака?
Знаць цябе не знаю!

— Гэта ж я!..
З бойкі!.. —
Цецярук клянецца.
А яна
як войкне,
Як засмяецца,
А яна,
шэрая, —
З цяцер цяцера:
«Квох» ды «квох» —
не веру я.
«Квох» — не веру.

*1964*

* * *

Калі б нараджэння не знаў я,
Дык стаў бы, напэўна, нарогам
І поле ўзараў бы.

Жытнёвым бы зернем упаў я
У цёплую, ціхую глебу
І рунню б узяўся.

На ніву сасмяглую
летам
Праліўся б гаючай, жывучай
Вадою.

Сярпом з гартаванай насечкай
Пад корань бы —
сам сябе —
Зрэзаў.

Агнём бы успыхнуў!
Да духу трыццатага
печы
Нагрэў бы,
напёк
Караваяў.
І стаў бы тады
Чалавекам.

Духмяных бы лустаў накроіў:
Прыходзьце —
Усе,
хто не снедаў,
Хто полудзень меў у прыглядку,
Хто ноч сустракае нішчымна, —
Прыходзьце.

*1964*

* * *

Калі б так проста
кахалася,
Калі б так проста
раджалася,
Калі б так проста
жылося...
Калі б так проста
спявалася,
Калі б так проста
ўзляталася,
Калі б так проста... —
Навошта...
Навошта б тады
і крылы,
Навошта б тады
і песня?..
Навошта б тады
каханне,
Навошта б
і нараджэнне,
Навошта б
жыццё?..

*1964*

* * *

Над зямлёю
                шугае верасень —
Восені ветразь...
І плывуць у блакіце чыстым
Ключы галасістыя...
Цеплыня адплывае,
                крылом узмахнуўшы аслаблым —
Летам бабіным...
Не трымайце ж мяне сягоння,
Сцены хат,
                у лагодным палоне:
Над зямлёю шугае верасень —
Восені ветразь!..
Не шукайце, сябры і родныя,
Не гукайце на сцежках пройдзеных...
Не сустрэнемся — слёз не ліце.
«Ён жа быў летуценнік, — скажыце, —
Ён таксама паплыў
                        пад вераснем,
Ён —
        пад ветразем...»

*1964*

* * *

Ноч весняю мембранаю трымціць,
Пад небам — толькі ты і толькі я...
Ды ў лазняку надрэчным, у трысці,
Трывожна б'ецца песня салаўя...
Чаму,
          чаму так лічыцца ў людзей,
Нібыта шчасцю ён — найпершы брат,
А песня ж салаўіная — з надзей,
І шчасця ў салаўя — зусім не шмат...
Сакрэт пазнаў я! І аберагу —
Як ён — тваё каханнс і красу.
Цяпер я ўсё,
                    усё як ёсць,
                                        магу —
Я песню салаўіную нясу.

*1965*

* * *

Тры вышыні,
тры сілы знаю ў лесе:
З камлёў — сталёвая,
дзе мох бароды звесіў;
Другая —
песняй звонкай —
пасярэдзіне,
Дзе сонца захлынасцца ад медзі;
А ля аблок —
у гойданцы зялёнай —
Жыцця пачаткі
правяць цуд штодзённы...
З камлёў тугіх
спрадвек вянцы вязалі,
З балоняў
звонкія цымбалы выразалі,
Ўзляталі думкай да вяршынь
паэты —
Пазнаць
імгнення і жыцця
сакрэты...
Такім я знаў цябе...
А тут жахнуўся:
Не ўцяміў — дзе я...
І не ўцямлю, мусіць:
Рабрыстыя — ў падсочках,
нібы здані, —
О сосны,
хто прыдумаў вам Майданак?!
Хто цвёрдаю рукой падрэзаў жылы,
Жывіцу цягне з вас —
жывую сілу?..
Знайду!
І перад вашым, сосны, вечам,
На тым судзе —
лясным і чалавечым —

Спытаю гнеўна —
хай адказ трымае:
Чаму
дух смольны з нашых хат знікае
І гніль вянцы бярэ?
І гэтак вяла
І глуха так
чаму пяюць цымбалы?
Чаму ў паэтаў паніжэлі думы,
Не вырвуцца ніяк з пустога тлуму?..
І калі ён змаўчыць,
дык вы — крычыце!
Крычыце, сосны,
сосны, не маўчыце...

*1965*

* * *

У прымыльніку — мыліцы
і пратэз,
Нага са скрыпам хромавым...
Не пусціў гаспадар, без яе палез
На палок дубовы, стагромавы.

Сячэ гаспадар — то па левай, то па...
І раптам венік зрывасцца...
Дваццаць год,
як на дзве гаспадар не ступаў,
Дваццаць год — памыляецца.

Паслухай, пратэз, не крыўдуйся, брат:
Хоць ты служака і верны —
Не лезь у вочы, калі на палку салдат:
І без цябе душу пераверне.

*1965*

* * *

Мільёны год,
мільёны год
Да сонца
З цемені ірвуся.
Мільёны год,
мільёны год
Іду.
Іду —
І не спынюся.
На ніве смерці і жыцця
Мне вечна
юным быць аратым,
Бо ўсіх пачаткаў
я —
працяг
І ўсіх працягаў
я —
пачатак.

*1965*

* * *

А чаму без аркестраў сталіца?!
Сёння ж свята ў нас.
Лугавое!
На стале дыміцца кісліца
Роснай зеленню веснавою.
Сын і я над паўнюткім рэшатам
Нахіляемся —
два язычнікі:
Мы святкуем вясну!
А зрэшты,
Свята тое —
з прыцмокам выклічнікі.
Мы кісліцу перабіраем.
Па лістку, па лістку —
да жмені...
...Год блакадны.
Маршы іграюць
Там, дзе чуць іх жадаў бы найменей.
І каб музыкі той пазбыцца —
Толькі ў рэкі сняжніцу згоніць —
Я шукаў цябе, цётка-кісліца,
Каб сустрэцца ў жывых сягоння...
...На стале лугавіну гартаем,
Ні травінкі марна не знішчым:
На свістульку прыдасца вунь тая,
А вось гэтая пойдзе на пішчык...
Гамана,
шчабятанне ў хаце:
Мы кісліцу перабіраем...
«Мы» ды «мы»...
Як глянула маці —
Пачала нам умольна раіць:
Зварым шчаўе,
пашлём зайчаняткам,
Бо аскому наб'юць сырамяткай...

*1966*

* * *

Прыйдзі аднойчы
ў вечаровы час,
Калі плывуць дымы, як верасы,
Да кургана пясчанага,
што нас
Разлучыць назаўжды, —
Прыйдзі, мой сын.
Павер хвіліну нейкую, што я
Жывы стаю між трапяткіх бяроз
І слухаю:
у праведных баях
Што ты здабыў?
Што ў сэрцы ты прынёс?..
Прыйдзі —
як ветру жніўнага павеў,
Каб нада мною дыхалі палі
І колас той звінеў — не адзвінеў,
Што к сонцу на руках ты ўзняў спяліць.
Прыйдзі —
як песня,
што табе збярог
Бацькоўскі край
і дбайна перадаў.
Прыйдзі —
як рэха з тысячы дарог,
Дзе голас мой твае сцягі гайдаў.
Прыйдзі —
як думкі вогненнай усплёск,
Як гром ракет, што ўзлёт твой акрыляў...
Прыйдзі,
мая надзея і мой лёс, —
І лёгкай будзе
для мяне
зямля.

*1966*

## Сон

Ноч не збавенне —
толькі забыццё...
Засну —
а ў грудзі ломяцца трывогі,
І сэрца пад рукой бяссільнай б'ецца,
Пакуль не вырвецца...
Імклівае, ляціць
І, нібы спадарожнік, шле сігналы
З далёкага дзяцінства,
з хаты той,
Што побач з новай
стала хлеўчуком
І грэе Лыску,
ціхую карову,
Каб напаіць унукаў сырадоем...
Гукае сэрца.
Абяцае мне
Шляхі другія —
без блуканняў марных —
І светлыя надзеі...
Абяцае,
А я ляжу —
глухі і бессардэчны...
Тады другое сэрца
крыкне ў роспачы —
І я зрываюся з падушкі:
— Мама!
І я бягу,
бягу,
бягу,
бягу...
А ногі не нясуць.
Яны хітрэйшыя:
Няма дарогі ў час той,
дзе калісьці
Я да грудзей хінуўся камячком,

Куды сягоння клікалі
                                                два сэрцы
І будуць клікаць, покуль два — жывыя:
Адчуць наноў
                        хвіліну
                                                нараджэння
І радасці бяссоннай ля калыскі...
Няма туды дарогі...
                                        Сон ірвецца...
Каменнае, халоднае здранцвенне...
І —
      мегатонным выбухам —
                                                удар
Сэрца.

*1966*

* * *

Сарaкí — веснавое свята
з гайданнем на арэлях:
каб усё збылося.

Вылятаюць сорак выраяў,
Сонца сорак стрэл пасылае.
Чараўніцы з надзеяй шчыраю
Аж пад неба вясну люляюць,
Замаўляюць добрай сілаю
Маладзецкую сілу лютую:
Хай адзін галубіць ды мілуе,
Сорак сохнуць хай ды пакутуюць...

Саракі...
Гайданка да вечара
На шчымлівых, звонкіх арэлях:
Тугой —
на сэрцы хлапечыя,
На дзявочыя —
шчаслівым вяселлем...
Сорак вяровак
парваць,
Сорак гадоў
зламаць...
Саракі...

*1966*

* * *

Дзень і ноч,
дзень і ноч —
З сорак першага
па сорак пяты, —
Дзень і ноч,
дзень і ноч
Паміралі салдаты...
Дзікім росчыркам куль
Смерць пісала
мажным, чарнабровым
Маладзіцам у красным вяку
Прыгавор неабвержны:
«Удовы»,
«Удовы»,
«Удовы»...
Прыгавор —
упрагацца ў плуг,
Хлеб сіроцкі дзяліць няспоры
І разводзіць —
за кругам круг —
Па начах
бяссоннае гора.
Прыгавор —
на няроўны бой,
На бяскроўны,
бясслоўны, зацяты,
На бой
з самою сабой.
Прыгажосць —
за краты!..
Прыгавор...
А сэрца адно...
Хто
пякельныя раны загоіць?..

...Адплывалі
ўспаміны
на дно.
Побач білася сэрца другое...
А над ёй,
а над ёй —
прыгавор
Кожны міг:
раптам грукнецца ў дзверы —
Незямны, маўклівы дакор:
«Я прыйшоў... Я так табе верыў...»
Прыгавор —
за гадамі гады...
І сыходзяцца рукі ля сэрца.
У вачах — два сляды, два сляды,
І ў дыханні апошнім: «Сустрэцца...»
...Паміраюць удовы.

*1966*

* * *

Ля падвалін не вухкаў цяжка
Вал марскі —
загарпунены кіт, —
А душа ў мяне, як цяльняшка:
Паласатая —
з белым блакіт.
Не скажу,
што кожная нітка
Ў ёй прасмолена на вякі...
Ды не раю круціць з мяне віткі,
Запішыце —
у маякі!
Не ў такія,
што высяцца
з пыхай
Сонцам слыць у бясхмарны дзень.
А ў такія,
што свецяцца ціха,
Нібы праўда, —
у сэрцах людзей.
Хто збалелы — надзеяй сагрэю,
Хто зняверыўся — узвалаку
Аж да сонца! — па звонкіх рэях,
Хто зблудзіўся — падам руку.
Я
нязменна,
бяссонна гукаю
Вас усіх
на святло маяка...
О наіўнасць!..
Наіўнасць святая
Сухапутнага марака...
Толькі ў моры тваім
блакітным
Песняй лечацца
дзівакі...

Не ўваскрэсне,
                    каго пад ракітай
Адспявалі навылет штыкі.
Толькі ў моры тваім
                    сагрэты
Ўсе, над кім ты сэрца нясеш...
На зямлі —
                    яшчэ ўсё на манету:
Той пад сонцам,
                    хто больш натрасе.
Толькі ў моры тваім...
                    А мора...
Дзе ж яно?..
                    Людзям пакажы!
Дзе ж яно?
                    Яшчэ бачыў учора,
А сягоння — на новай мяжы...
І душа —
                    кавуном паласатым
З плота ўдаль глядзіць з-пад ліста:
Дзе ж ты, мора —
                    блакітнае свята?
Дзе ты,
                    мары людской вярста?..

*1967*

* * *

Ноч разліта
ў кубы-кватэры.
Вы заснулі?
Мая зараз
дзея:
Я бязгучна насцежу дзверы,
Я іду па зямлі чарадзеем.
Крок назад
усім дазваляю —
У сваю пачатковую існасць:
І —
сталы лісцём абрастаюць,
З паліто —
уцякаюць лісы,
Шапкі —
вушы тапыраць, як зайцы,
Ды бягуць пашчыпаць канюшыны,
З футра —
раптам выццё праразаецца,
Б'е падушка крылом петушыным,
Жалуды —
на дубовай шафе,
Шышкі —
спеюць на мачтах гулкіх,
І крыжы з нематой эпітафій
Зелянеюць над вечным прытулкам...
Крок — у існасць,
а на світанку,
Як надыхаюцца,
нагуляюцца,
Узнімаю трубу-бєрасцянку,
Клічу ўсіх —
і казка канчаецца...
А палынная горыч
хмарай
Над душой чарадзейнай кружыць.

Што не маю сілы ўладарнай
І замовы не знаю,
каб кужаль
Не рабіўся зноў
чорным сцягам,
Не ўпіваўся дымам пажарышч,
Каб пратэз, што калека нацягвае,
Зелянеў дубком над імшарай,
Каб свінец, што па кулях раздзелен,
Манументам узнёсся да неба,
Каб збыліся
усе надзеі... —
Што ж яшчэ
чарадзею
трэба?..

*1967*

# Зазімак

Чарнатроп.
А ўзверх —
навасёлам
Легкадумны гарэза-снег.
Суха, звонка —
раптоўна-вясёлы
Трэснуў стрэл — пераспелы арэх.
І жаданым ядром
са шкарлупкі
Пакаціўся ў нізіну
заяц.
Біўся ў ногі іржэўнік хрупкі,
І на вочы кусты напаўзалі...
Са ствалоў — дымок сіняваты,
З вуснаў —
свіст (ганчака б па следу!).
Бегла водгулле ўперакаты
За жывым святочным абедам.
Супыніўся касы на ўзбалотку,
Азірнуўся,
нюхнуў,
паслухаў:
Нос вярэдзіла рунню салодкай,
Стрэл звінеў увушшу, як муха.
Пастаяў, патаптаўся вяла,
З перапуду ці з храбрасці чмыхнуў.
...Лес чакаў,
няхітры, злінялы,
Як спасцігнутая зайчыха.

*1967*

* * *

Чорны хлеб спрыяе ўзнікненню
ракавай пухліны страўніка.

З выступлення навукоўца

На сэрцы — неспакою камень:
А раптам я паміж сяброў
Хаджу — апошні магіканін,
Ахвярнік прашчурскіх бароў...
Касіць? Давай. Араць? Будзь ласкаў:
Трымала плуг рука мая...
У пяць цапоў — не ў ладкі — пляскаў
У тым, сорак чацвёртым, я.
Мне лёс мой сцвердзіў:
працай чорнай
За стромай год, даўным-даўно
Два словы цвёрда заручоны —
Жыццё і жыта — як адно.
Я знаю хлеб.
Было ладункаў! —
З сурэпкай, з конскім шчаўлюком,
З карой, з чырвонаю мядункай
Ды з жалудовым крупчаком.
І раптам чую:
акадэмік,
Каб чалавецтву памагчы,
Ў шпіёны чорных эпідэмій
Мой хлеб надзённы залічыў.
Для рака ход, маўляў, падточвае...
Вы дапускаеце?
А я
Гады, нібы мяшкі, варочаю:
Хлеб за мяне гарой стаяў —
З сухой скарынкаю ваеннай,
Што, як шынелік той, — лубком,
З бензінным духам пасля змены,
З вясельным сонечным хмяльком...
Пракіслы, ёлісты, гаркавы —
За ўсё на свеце саладзей
Здаваўся шчасця цёплы кавал...
Я веру ў хлеб, як у людзей.

Не веру ў сейбіта такога,
Што не малоціць, не арэ,
Не сее, а ляжыць, нябога,
Ды смокча з цюбікаў пюрэ.
Хвала прамудрасці гіпотэз!
Але —
          табою я сагрэт,
Здабыты мазалём і потам
Прапрашчураўскі запавет.
Мой дзень,
                    малю цябе прад небам:
На тым, апошнім, рубяжы
Спрадвечны цуд зямнога хлеба
Наступнікам перакажы!

*1967*

## Той жніўнай ноччу

Над цёплай хатай, над сялом
Сон цягне павуцінку.
Прыгрэўся ў песні пад крылом,
Прыцiх, ляжу — не ціўкну.

Усё злілося ў мітусні —
Нябеснае, зямное...
А песня просіць: «Спі-засні,
І я засну з табою...
У полі жыта дацямна
З увішніцамі жала —
Знямелі крылы і спіна,
І рукі адабрала...»

О, як было цябе шкада...
І сцяты плач акрэсліў
Здагадку страшную:
бяда,
Калі ў знямозе песня...

*1967*

* * *

Нібы за стол бяседны —
                    дзверы на́пята
Ў бярозавае ўзлессе за ракой:
Без стуку — цецярук,
                    сарока — напытам,
Гракі-манахі — чорнай талакой.
І я — туды.
          Нясу няхітры клопат свой —
Пабачыць, як зялёнай навіной
Пад промнем-скальпелем
                    пупышка ціха лопнецца,
Як дзед-лясун
          уна́глядкі за мной
Крадзецца ды цікуе, каб не ўзбіўся я
На трон яго ў Мачулінскім бары.
Смяюся:
     — Задаволена камісія!
Лесавікуй да пенсіі, стары.
Ідзе парадкам культвяснакампанія:
Пазапаліла лотаць ліхтары,
Сон-снегавік званкі наладзіў раннія,
Дразды — свісткі з лазовае кары,
З балота лезе песня камарыная,
На леснічоўцы
          певень задурыў:
Махнуў крылом на слепату курыную —
Тры ночы не начуе у двары,
Шчупак на нерасце
                    бузуе сінь бясхмарную,
І лектары лясныя —
                    салаўі
Дачытваюць брашуркі папулярныя
Аб дружбе, аб каханні, аб сям'і.

*1968*

* * *

Люблю цікаваць
неўпрыкметкі, здалёк,
Як сонца
промнем, бы ніткай вашчонай,
Прысеўшы ў бары на смолкі пянёк,
Сшывае два полагі —
белы і чорны.
І ціха на мройлівы небасхіл
Кладзецца вечар чырвонаю прошвай,
І драч у драчыхі —
дзень быў сухі —
Горла змачыць чагосьці выпрошвае...
Туман,
як на прасніцах,
на суках
Кудзелю чапляе.
І сонца
Да золаку будзе ніткі сукаць,
Залатыя круціць верацёнцы,
Бо трэба ж
дзень новы і ноч
састрачыць,
Каб не разлезлася вечнасць,
Як індпашыўскі касцюм на плячы,
Адфастрыгаваны па плане сустрэчным...
...Вось так і ў мяне —
турбот аж кішыць,
Сонца — па руплівасці — брат мой.
Я тут, на зямлі, каб мінулае сшыць
З будучым моцнаю дратвай —
Баразнамі ў полі,
пракосамі траў,
Істужкамі рэк, зберажоных ад згубы,
Лясамі — на страх гарлахватам-вятрам,
Узняўшым над Начай свінцовыя трубы,

Крутымі шляхамі, каб я не драмаў
На спраўных харчах у рыпучым абозе,
І сэрцамі —
дзе не наследжваў дарма,
Дзе сцюжам
надзею не даў замарозіць,
А матчынай песняю —
каб глыбіня
Любові і памяці
не дрыгвянела,
Каб летуценняў крыніца штодня
Паіла людзей
і крылата звінела.

*1968*

## Поўдзень

Аднойчы здарыцца такая
Хвіліна
ў год, а можа, ў пяць:
Ніхто цябе не пагукае
І не падумае гукаць.

Усюды поўдзень — кубак поўны,
Гарушка ліпеньскага дня.
Яшчэ Ілля — прарок галоўны —
Не кінуў у ваду лядня.

Тэлеантэна, як трызубец,
Ліня цікуе,
а дубы,
Зялёнага пастаўшы дуба,
Халодзяць у стаўку чубы.

Радар сланечніку адключан:
Абрыдла галавой круціць...
Прыжмурыш вочы — рып уключын
Так і карціць, так і карціць...

Гарбуз, разморany спякотай,
Кульнуўся нема пад плящень,
У бусла перасохлі боты —
Марнуй цяпер на змазку дзень...

Ляток б'е духам, як чалеснік,
Басіць мядовы унісон,
І кот ад ластаўчынай песні
Нервова ўздрыгвае праз сон.

*1968*

* * *

Дзіўна, але ж ад яго,
                                        ад гэтага каменя,
Што некалі шэрым крылом
Біўся ў тумане жытняй мукі,
Што на пару з голадам учэпістымі рукамі
Вытрасаў у бяздоннае жарала
Хатулі,
        клункі,
                мяшкі...

Ад яго, што перамалоў
                                        столькі людскога поту,
Перасмяглага ў кроплі-зярняты,
Ад яго,
        што лёг пад парогам,
Падвярнуўшы ліхія турботы,
Каб не перліся ў хату,
Ад яго —
            пачынаюцца ўсе дарогі...

Сцяжынкі ў мураве,
                                        першапуткі сіберныя,
Гравейкі, сівыя ад пылу,
                                            выбоістыя,
Магістраляў грымотны разбег, —
Я звязаны вашымі нервамі
З зямлёю —
                ад полюса і да полюса.
Мембранай
                трасецца камень...
                                                    Плач...
                                                            Смех...

Нібы да прыёмніка,
                                    да яго прыпадаю вухам.
Францужанкі, чую, абцасік працокаў.

Спазнілася?
Нічога!
Такую я век чакаў бы...
Чаравікі фінансавага міністра
парыпваюць суха...
Пяткі лацароні!
Ах, як босаму лёгка...
Лязгат,
падковы казённыя,
шыны гаўбіц.

І раптам —
урываецца памяць гадоў,
Запісаная на мільёнах дарог,
Як на стужках магнітафонных:
Куляю ў сэрца —
кожны крок удоў,
Чэргамі ў сэрца —
дзіцячага бегу гарох,
Роспаччу ў сэрца —
цяжкая хада палонных.
Ідуць, ідуць, ідуць
з брацкага супачыну,
З апошніх атак, пераправў,
З крэматорыяў:
Пачулі —
зямля да красў смерцю начынена
І нехта апошнюю памяць украў
У забыўлівай дзеўкі —
гісторыі.
Ідуць да яе —
грукацца ў дзверы.
Пачакайце, родныя,
трывогай хай сон ваш не рвецца:
Я памяць збярог!
...Ёсць парог у мяне,
камень, чуйны,
у крапінку, шэры.
І мой голас
да кожнае хаты, да кожнага сэрца
Праб'ецца па нервах дарог!

*1968*

* * *

Паміж сэрцам маім і трывогай —
Як сцяна — два крутыя парогі:
За адным —
дзе спагаду б чэрпаць —
Абжываецца хіжая чэрствасць,
За другім —
дабрата людская
Ні на крок ад сябе не пускае...
Сваё сэрца выводжу на ростань...
О, паверце, як гэта не проста
Быць штодзённым драбільшчыкам каменя:
Чэрствасць біць,
што чарсцвела вякамі.
Я прашу вас, добрыя людзі,
Шчодрасць ваша хай гнеўна судзіць:
Пракляніце,
з парога —
ганіце,
Дзе дарога лягчэй — не кажыце,
Покуль гэтымі вось рукамі
Не скрышу сваёй чэрствасці камень...

Пыл на крылах вятроў развею,
Ля дарогі жыта пасею...
Я прыйду,
я прыйду да вас, людзі.
Хай трывога мне сонцам будзе!

*1969*

* * *

Можна схібіцца ў сцежцы
І лішнюю мілю адмераць,
Абначуеш —
Адчыняцца добрыя дзверы.

Можна схібіцца ў хвалі:
Будзе бураю ветразь пасечан, —
Не спяшайся за борт:
У блуканнях — надзея сустрэчы.

Можна схібіцца ў сонцы:
Дзень вясновы ударыць імжою, —
Не бяжы наўздагон:
Сонца там, на чужыне, чужое.

Можна схібіцца ў сябру,
Солі з'еўшы добрую тону, —
Вер: сустрэнецца ён,
Той, што слоў не хавае салёных.

Можна схібіцца ў сэрцы:
Натýкае бед птушка гэта, —
Прыйдзе дзень ачышчэння —
І смутак пакіне планету!

Толькі сцежкі не будзе,
Бераг прэч адштурхне з праклёнам,
Сонца холадам сцісне шалёным,
І адвернуцца людзі, —

Калі схібіцца маці ў табе
І Радзіма.

*1969*



Смутак — начны валадар —
Працяты сонечнай шпагай!
Коціцца, коціцца шар
З вогненнай брагай!
Хмарка, як ціхі лёс,
Вяслуе ў ружовым прасторы.
Ліхтаршчык высокіх нябёс —
Жаўранак — тушыць зоры.
І нібы выклік журбе —
Песня ўзыходзіць над хатай.
Дзень мой, вітаю цябе!
І абнімаю, як брата.
П'ю твой гаючы настой,
На горкіх вятрах мацаваны,
Заручоны з грознай вярстой,
З рабінавым клічам заранак.
Мне б спорыцай — долі людской,
Іншай і лепшай — не трэба:
Ладзіць мазольнай рукой
Лёс і зямлі, і неба.
Дзень мой, вядзі да людзей!
Толькі не смейся крута,
Калі на чало ападзе
Вечарам думны смутак...

*1969*

## Ты пайшоў

*Памяці бацькі*

А восень пяцьдзесят чацвёртага
Забірала апошні вырай:
Адлятаў ён —
Навекі.
Суседзі рупна кідалі
Зярнят залатую надзею,
І руннmicro зялёнай яна
засталася —
Навекі.
Вечар восьмага лістапада
Пагрукаў у сэрца:
— Збірайся! —
Апошні твой вечар —
Навекі.
Ты пайшоў...
І дарогу табе
Усцілаў снег бялюткі
І першы —
Навекі.

*1969*

# Слова

*Рыгору Барадуліну*

Усё размерана на свеце:
Радзіны і хаўтурны звон,
Святы спакой і ліхалецце,
Пяшчоты слодыч і праклён.

Непадуладна толькі слова
Халоднай пэўнасці акоў.
Яго бунтарныя высновы
Вастрэй адточаных штыкоў.

Яго судзілі і каралі
З упартай мудрасцю аслоў.
Яно прайшло праз дні і далі
І ў новых сэрцах прарасло.

Якім агнём яно заззяе,
Які над ім успыхне знак —
Ні я, ні ты — ніхто не знае...
Давай памолімся, аднак:

Займайся на заходзе, ранак!
У студзені крышыся, лёд!
Будзь, як маланка, нечаканы,
Неразгаданых слоў палёт!

*1969*

## Змярканне

Усюды лад, усюды згода
І цішыня
на той мяжы.
Над полем спелым хлебны водар
Бушуе, быццам у дзяжы,
Ад неба вечнасцю таемнай —
Калі адзін з ім, толькі сам —
Сурова вее.
І нядрэмна,
Адточана звініць каса,
Што над табой была узнята,
Калі адчуў ты першы раз
Вось гэту вышыню над хатай,
Адчуў, як зоры важаць час...
І вось —
прад Космасам халодным,
Дзе ходзіць вогненная раць,
Стаіш —
бяссільны і свабодны...
О, як жа,
як жа паміраць,
Калі не ўбачыш больш ніколі,
Як з гэтай цёплай цішыні
Выходзіць месяц на прыволле,
Не затуманены ані;
Як,
сонца ўскінуўшы за плечы,
У золь бяроз,
у сінь асін
Пайшоў — не адгукнуўся вечар...
Ці не было яго
зусім?..

*1969*



Яшчэ зіма пад кліч вятроў-гарністаў
Ладкуе снегавую маскіроўку,
А сонца ўжо свайму тэлеграфісту —
Праменьчыку — перадае шыфроўку.
І кропкі кропель звоняць капяжамі:
«Усім! Усім!
Глядзіце — не праспіце!»
Скідаюць футры дружна гараджане,
Вяскоўцам сняцца перапёлкі ў жыце.
Галінкі ўскалыхнуліся на дрэвах
І радасную вестку шлюць карэнням.
А бор стары на чысціках-угрэвах
Гатоў сыпнуць пралескі шчодрай жменяй.
З трывогай веснай вырай галасісты
Углядаецца ў абрысы карты зорнай...
...І вось аднойчы шугане ўрачыста
Жаданы дзень — як песня, непаўторны.
Люблю цябе, крылаты летуценнік,
Імклівы красавік Надзей і Думак,
Калі змятаеш ледзяныя цені
Няпэўнасці адкормленай і суму.
Ідзе вясна. І славы ёй не трэба:
Людзей усмешкі ёй мілей за лаўры.
Ідзе вясна. І крылы прагнуць неба,
І сонца б'е ў агністыя літаўры.

*1970*

* * *

Як лёгка наперад глядзець —
Калі табе дваццаць.
Адзвоніць асенняя медзь —
Як цяжка назад азірацца...
Як цяжка збірацца у шлях,
Глухі, бессустрэчны...
...Далонь у тугіх мазалях,
Часоў супярэчнасць,
На шыбах трапічная стынь,
Акраец жытняга хлеба —
Не маюць апошняй вярсты:
Паўторыцца ўсё пад небам.
Паўторымся, можа, і мы,
Ды толькі не будзе спаткання:
Час, як страла, прамы
Не знае вяртанняў.
Між зор, між палёў — кватаруй —
Нязнанай планеты полюс...
Не скажаш, не крыкнеш: «Даруй» —
Не ўчуе ніхто і ніколі.
Усім, каго ў сэрцы насіў
І горам азмрочыў чорным, —
Як тысячы Хірасім —
Адно застанецца:
УЧОРА...
НІ СЁННЯ,
НІ ЗАЎТРА —
няма
За гэтай бяздоннаю прорвай...
...Час, не віхурся ж дарма,
Сэрца маё пераворвай!
Шчодры рабі засеў —
Не позна яшчэ! А потым —
Хай б'ецца да сёмага поту:
Людзям дабрату нясе.

*1970*

## Ехаў дзед дадому...

Пэўна, вас не ўражу:
Дзед мой — проста дзед.
Пры вусах паважных
І пры барадзе.

Да навукі прыткі,
З тэхнікай дружыў.
Толькі перажытку
Ў транспарце не зжыў, —

Ні табе аўтобус,
Ні табе цягнік:
Дзед сваёй асобай
На кані прывык.

Клічуць на вяселле? —
Дру́жкі ды радня
На машыну селі...
Дзед запрог каня.

Гэтак і дадому
Пакацілі ўсе.
Ну, а дзед, вядома,
У развалкі сеў.

Лейцы напружыніў,
Глядзь — бяжыць дружбак:
У палку служылі
Разам як-ніяк!

— Ды заехаў вось бы
На хвілінак пяць...
Дзед уважыў просьбу:
Трэба начаваць...

Потым клікнуў цёзка,
Потым кум ды сват...
Ехаў дзед праз вёску
Тыдзень акурат.

Тут і перазовы
Падаспелі ўслед.
— Эх, гуляй кірзовы! —
Тупнуў ботам дзед.

Бабцы, нібы з раю,
Тэлеграфаваў:
«Выехаць няма як:
Пугу нехта ўкраў».

*1970*

## Першы гром

Як бухне той бубен вясновы,
Напне навальніца гужы,
Пакінуўшы хованак сховы,
На выган маленства бяжыць —
У сто перакрутаў куляцца,
Дзе спее рамонкавы дым,
Каб грозных грамоў не баяцца
Ні сёлета, ні праз гады.
А неба спагадна вуркоча:
Забудзь на пасаду і чын,
Хоць поступ паважна-прарочы —
Кульнуцца ёсць многа прычын!
Вы толькі — нікому нічога
(А скажаце — пераҗыву):
Як некалі, зноў басаногі
Качуся клубком у траву!
Куляюцца дрэвы і хаты,
То неба сінее, то бэз.
А гром — аблачынна-калматы —
Марудна сплывае за лес.
Па гулкіх ярах і лагчынах
Узахліпкі мчацца руччы,
І неба з вясёлай ляшчыны
Вясёлыя гне абручы.

*1971*

* * *

Ці Бог ішоў з парадай?
Ці сам адкрыў сакрэт?
Я знаю гэту радасць —
Тварыць нанова свет!

Праменістае вочка
Расінкі лугавой
Кацілася клубочкам
Як ціхі роздум мой.

І кожная лісцінка
Мне пушчаю была.
І кожная пярынка —
Узмах тугі крыла.

І чорным ліхадзеем
Гарэў анёл-бялюсь.
І кожная надзея —
Як маці-Беларусь.

І кожная дзяўчынка —
Зацяты плач удоў.
І кожная хвілінка —
Дакор былых гадоў...

Таемныя арбіты
Спадалі за сялом...
Мне ўсё тады адкрыта
І ясна ўсё было.

Жаўрук вячэрне-шэры
Мне вечнасцю звінеў.
І знакі на паперы.
Прарочыя? Ці не?..

*1971*



Устаньце, мёртвыя тыраны
Усіх народаў і эпох!..
І вы, што не прайшлі па рангу,
Хоць дужа вабіў той парог...

Злязайце з будучых прастолаў,
Сыноў і праўнукаў багі...
Ірву — бясплатна і вясёла —
Бяссілля вашага кругі!

Нелітасцівы летуценнік,
Я кола вечнасці кручу:
Прыйдзіце, ўвенчаныя цені,
Хоць кроплю радасці адчуць.

Не закайданены разбоем,
Зладзействам, подласцю, крывёй,
Над вашай чорнаю гульбою
Малюся вольнасці сваёй.

Травінка мне не чыніць шкоды,
І звер не тоіць злосці мне,
Не прада мной у непагоду
Вярба ў паклонах стан свой гне.

Без напамінку, без прынукі,
Без руж напышлівых і змоў
Сяброўства цвёрдая зарука
Прыходзіць да мяне дамоў.

Бяседы буйная вяршыня
Не страшыць здрадлівым каўшом,
І ў сне не падае на шыю
Рука жанчыны палашом.

Вам, толькі вам не знаць свабоды.
Тыран — нявольнік з веку ў век.
У сведкі клічу ўсе народы:
Я — самы вольны чалавек!

Бо ў сілу вашую не веру
Ні на вяршок, ні на мікрон.
Даўным-даўно — да нашай эры
На сметнік выкінуў свой трон.

*1971*



Сплывае гук, а думка застаецца —
Як дрэва ў шалясценні залатым.
Вось так і мой аднойчы ліст сарвецца
На рубяжы маўклівай цемнаты.

Не трэба слёз. І слоў не трэба плоскіх...
Над пылам прыдарожнае травы,
Над росстанню хай прагучыць Чайкоўскі.
Не ўчую, можа, я — дык чуйце вы!

Праз небыццё ўсплывуць акорды Шостай
І вынесуць на тую быстрыню,
Дзе адзвініць блішчастай медзі поступ,
Каб зноў вярнуць бяздушна ў цішыню.

Пяском шархоткім сыпанецца скерца
На вечка, нібы лівень маладны.
І ўспыхнуць, як вясёлкавыя шкельцы,
Пакінутыя мной мае гады.

Над галавой нявысненая песня
Кружыцца будзе ціха... Так парой
Лунае птах, садзіцца ў паднябессі
На крону, што ўжо знішчана пілой...

Разыдуцца сябры хадой няцвёрдай.
А мне — адвечны хлеб, на кожны дзень:
І цені, як застылыя акорды,
І музыка, халодная, як цень...

Ды часам адзінокая жанчына,
Дзе ўзносіць камень шэрае плячо,
Панікне на далонях успамінаў
Бяссоннаю тугою — снегам шчок.

*1971*

* * *

Зраселы голас перапёлкі
Бяжыць праз поплаў нацянькі.
Як неба зорнага асколкі,
Гараць у вокнах аганькі.
Над грывай лесу маладзее
У светлай згодзе маладзік.
Спяшайся з добраю надзеяй
І стому змрочна не судзі.
Яна па жылах разліецца
Бунтоўным сокам маладым.
Яна рукою абаўецца,
Асмужыць пасмаю, як дым.
Яна прышэпча, заласкоча —
Ты будзеш Бог з усіх Багоў!..
...Гараць агні — бяссоння вочы.
Каго ж ім прагнецца, каго?..
Хай нецярплівае чаканне
Сваім святлом не абміне!
Хай мроіцца праз ноч світанне —
Усім-усім,
І, можа, — мне...
Каб не спыніцца ля парога:
Ці двор не той? Ці я чужы?..
Як вечнасць — доўгая дарога
І вокан чорныя крыжы.

*1971*



Залатая лінія дажджу...
Сонечна і хмарна над ракою.
То трывогу ў сэрцы разбуджу,
То надзею буду піць запоем.
Я такі, як гэты летні дзень, —
Сонечны і хмарны ў адначассе:
На адным плячы звініць прамень,
На другім — слата ў клубок звілася...
Засмяешся — сумна стане мне,
Не ў гуморы — я ў адказ спяваю...
Дзе ж яна, вясёлка, што самкне
Студзень мой з тваім гарачым маем?..
Ці святой сярэдзіны шукаць?
Ці, як чорным сонцам, галавою
Узмахнуць чарнявай — і гукаць
Ласку тваю — рэха баравое?..
Залатая лінія дажджу...
Мы ідзём паціху над ракою.
Я табе ніколі не скажу,
Шчасце маё дзіўнае якое...

*1971*

## Песня

Вы чулі салаўёў надрэчных?..
Без песні той і я
                аглух...
І трызніць даўнім-даўнім нечым
Пласцінкі грамафоннай круг.
І хісткім ноевым каўчэгам
Плыве
        зялёны гай адзін,
Што салаўя прыгрэў начлегам
І на пласцінку пасадзіў.
Круціся, шэры летуценнік,
Іголкай прама ў сэрца бі!
Забытай песні дзіўным ценем
Трывогу ў сем кален трубі:
«Аб чым ты, круг, раскажаш сыну?
І што — калі не адвяду
Ад той апошняй, салаўінай,
Ад песні — тапароў бяду?..»

*1971*

## А голас застаўся

У белым адчаі
Зямля анямела,
Як гусі крычалі
З нябёс азалелых.

Што бачыў той статак —
Не скажа змярканне:
Дарогі пачатак
Ці вечнасць расстання?

Мы доўга глядзелі
Ў зазімныя далі,
Бы кроплю надзеі
Сабе пакідалі.

А вырай хаваўся
За лесам далёкім.
А голас застаўся,
Як птах адзінокі:

«І ты адлятаеш,
І ты прылятаеш —
Ды песня не тая
І праўда не тая...»

*1971*

## Настрой

Сакавік, сакавік
Цягне дзевак за язык...
Ходзіш і зайздросціш дваццацігадовым,
Слухаеш няўцямна іх вясёлы шчэбет.
Позірк сэрцабойны — цяжар шматпудовы,
Кеплівае слоўца — нібы горкі чэмер.
Ва ўспамінах вокліч круціцца назолай:
«Эх, як позна-позна і як рана-рана...»
І ў каго ж бы гэта папытаць дазволу,
Каб на дзень хоць збегчы ад гадоў-тыранаў?
Сакавік, сакавік,
Памажы мне, чараўнік!
Толькі ж ці паслухаў ласкатун дзявочы!..
Па лядку вясновым адзвінеў падковай,
Нават не спыніўся, ні на крок не збочыў,
Праляцеў, не глянуў — дзень сакавіковы.
Даганяй, як хочаш... А вярнуць — не ўдасца.
З тым, што прамінула, не чакай сустрэчы.
Некаму другому — па вясновай ласцы —
Цені летуценняў ахінаюць вечар.
Сакавік, сакавік
Не бярэ мяне на ўлік.
Што ж, яго не стану я трымаць за хлясцік —
Пралятай, імчыся, хмельнае насенне!
Хіба я не ведаў, што такое шчасце?
Мне вясна прысніцца на асеннім сене!..
Хіба ў гэтым свеце не чакае хтосьці?..
Са шпаком гамонім змоўным перасвістам:
Ці ў вясны бываў я не жаданым госцем
І ці толькі радасць — тая, з першым лістам?
Сакавік, сакавік —
Сум, як снег вясновы, знік.

*1972*

## Размова з буслам

Гаспадар бярозы расахатай,
Адкажы — табе з вышынь відаць, —
Колькі яшчэ будуць аўтаматы
Над дзяцінствам нашым клекатаць?
Колькі сноў яшчэ вайна атруціць,
Колькі душы будзе дратаваць?
І дакуль трызнення чорны труцень
Будзе сонца наша выпіваць?
Гаспадар бярозы расахатай,
Не маўчы... Ці ж ты ўсяму віной,
Што разносіў немаўлят па хатах
Перад той вялікаю вайной?..
Калі сыпаў нанач пад падушкі
Казак залатую буркатню,
Ці ж ты ведаў, што азеўрацъ пушкі
Жэралы свае насустрач дню?
Што ж маўчыш: суцішыў клекатанне,
У паглядзе — даўняя туга?..
Памагай, браток, людзям старанней,
Як твой дзед і прадзед памагаў.
А калі на сэрцы смутак тоіш,
Дык скажы мне, не адводзь вачэй,
Нас ужо ў хаўрусе будзе двое,
І цяжар тады ўдвая лягчэй.
Падзяліся ж даўнім сваім болем.
Вось табе — сяброўская рука.
Не журыся больш аб нашай долі:
Нам ужо цяпер — не прывыкаць!
Хлебанулі гора мы нямала —
Дзеці на ваенным рубяжы...
Каб зямлю не збіла зноў навала,
Нам яшчэ, брат, доўга трэба жыць...
Зноў і зноў вяртаць нас будзе одум
Да сцяжын, дзе вырасла бяда.
І вайны сярэбраны куродым
На чупрынах будзе асядаць...

*1972*

* * *

Рэкі дзяцінства —
Самыя глыбокія,
Дрэвы дзяцінства —
Самыя высокія,
Нівы дзяцінства —
Самыя шырокія,
Сцежкі дзяцінства —
Самыя далёкія.
Ночы дзяцінства —
Самыя кароткія,
Сны дзяцінства —
Самыя салодкія.
Крыўды дзяцінства —
Самыя слязлівыя,
Забавы дзяцінства —
Самыя смяшлівыя...
Рэкі
Мялеюць,
Дрэвы
Ніжэюць.
Нівы
Вузеюць,
Сцежкі
Караценоць.
Ночы
Даўжэюць,
Сны
Гарчэюць.
Крыўды
Смяшнеюць,
Забавы
Слязнеюць...
Што ж гэта, што ж гэта
Робіцца, братцы?
Куды ад навалы такой
Схавацца?

*1972*

## Зарука

Эпохам не грукалі ў грудзі,
Аб долі сваёй не крычалі.
Казалі:
«Што будзе, то будзе...»
А болей — маўчалі.
Глядзела гісторыя звыкла
На лёс беларуса:
Армяк, падпяразаны лыкам,
Магерка ды вусы...
Не варты вышынь эпахальных,
І ў доме сваім бяздомак,
Бо ў сэнсе нацыянальным
Зусім, як ёсць, несвядомы.
А ён быў не лыкам шыты —
Нашчадак балта і руса.
Ён сеяў з сявенькі жыта
І ціха смяяўся ў вусы.
Ён ведаў —
быць ураджаю,
Ён верыў —
прарэжацца голас
І над варожым іржаннем
Паўстануць Купала і Колас!
Што змоўкнуў, напышлівы рогат?
Язык адняло, панове?..
А двум песнярам на падмогу
Ідзе юнак Багдановіч!
І трое, падставіўшы плечы,
Зямельку сваю трымаюць.
І дзівіцца свет:
чалавечы
Голас
тут людзі маюць!
Ты сонцам душу абагрэла,
Адвечнае слова.

Ды тоіцца сверб устарэлы
Ва ўпартых галовах,
І ходзіць пра нашую песню
Пагудка старая:
Ты, браце, спявай, хоць трэсні,
А ўсё ж яна адмірае...
І думка ад холаду стыне,
І часам апусцяцца рукі:
Няўжо мы крычым у пустыні?..
Ды слова ўзыходзіць зарукай!
Не будзь жа, не будзь іншаверцам
На родным прычале,
Паўстань, паўстань, маё сэрца,
З пустыні маўчання!

*1972*



У грымотах ашалелых веку
Вы не чулі, што гэта такое —
Зона абсалютнага спакою,
Аб якой лясы, палі і рэкі
Б'юць чалом штодзённа чалавеку,
Б'юць чалом, каб адпусціў на лекі
Цішыні хоць зернейка скупое?

Па вясне, як трактары вяшчуюць
Нам дастатак, сытае налецце,
Па вясне, калі ў зялёным вецці
Цішыня не днюе, не начуе:
Цар прыроды цішыню карчуе, —
Аб такой хваробе вы не чулі,
Што перанапружаннем завецца?

Нібы мор, яна няшчадна косіць
I звяроў, і птушак злой касою.
Страх няўтольны не зальеш расою —
I жаўрук з-пад колаў рвецца ў просінь,
Як з пажару, песню ён выносіць,
«Цішыні-і-і», — тужліва каня просіць,
Сэрца не вытрымлівае ў соек.

Аціхае рэха гаманкое,
I на змену песеннаму лету —
Шорах крыл сталёвых над планетай
I маё маленне трапяткое:
— Дайце ж зведаць, што гэта такое —
Зона абсалютнага спакою —
Птушкам, дрэвам...
                        Толькі не паэту.

*1973*

# Мой ліпень

Я нарадзіўся пад шчаслівым знакам —
Не ўсім так удаецца на зямлі! —
Калі агні па крузе Задыяка
Купальскімі планетамі плылі.
Глядзела лета пераспелым Марсам,
Прасіўся ў стог укосных траў разліў,
А па-над светам д'ябальскія маршы,
Нібы пажараў водбліскі, паўзлі.
Мне кветка шчасця выпала такая —
І не адна — зенітны цвіў букет,
Дзе «ястрабкі» хадзілі паплаўкамі:
Хто ўверх, хто ўніз — на той, казалі, свет...
Я плакаў горка ў баразне бульбоўнай,
Як наш, апошні, за пагоркам знік.
А на падвор'і немец балабоніў,
Курэй адважна садзячы на штык.
На сотні год старэйшы, мусіць, стаў я
Сам за сябе і за пакутны век,
Успыхнуў зоркаю крылаты мой настаўнік
Па імені Басц і Чалавек.
Ён хлапчуку жыццём сваім пакляўся —
І не зманіў: у наш куток лясны
Мой ліпень на Купалле прарываўся
Агнямі вызвалення і вясны.
Ёсць нараджэння і расстання даты,
Ёсць даты, што вяртаюць да жыцця, —
Сорак чацвёрты год і сорак пяты,
Я ваш даўжнік і вечны ваш працяг.
Я панясу стагоддзям радасць тую,
Што на суровых ростанях спасціг.
Мне б знаць, што мір ад згубы я ўратую,
А шчасця хопіць у мяне на ўсіх!
Бо ліпень мой цвіце ў пчаліным гудзе,
І знак купальскі нада мной звініць,
І ўрэшце: памыліцца могуць людзі,
А зоркі — не навучаны маніць.

*1973*

## Гаварыла маці...

Ціхія ўспаміны —
Горкае багацце...
Весняй ночкай з сынам
Гаварыла маці:
— Ночка дарагая,
Колькі ж летаў буду
Ў хаце жыць адна я
З думак цяжкай грудай?
Толькі іх і знаю,
Покуль не прыднее...
Набяру-тка маю —
Можа, раcквітнее?..
Ходзіць з хлебам-соллю
Гул бяседы весняй,
Толькі ў нас застолле
Ўсе забыла песні.
У людзей унукі —
Грыўкі ільняныя,
А мае ж во рукі
Па дзіцятках ныюць...
Гаварыла маці —
Што ёй сын адкажа?
А ці зноўку ў хаце
Немата заляжа?..
— Не крыўдуй на сына:
Я і сам не знаю,
Як вясну пакінуў
Тым грымотным маем.
Вечна застануся —
Вольны, нежанаты:
Хто ж, скажы, мамуся,
Пойдзе ў маю хату,
Што ў далёкім краі,
Што ў чужым куточку —
Цёмная, сырая,
З жоўтага пясочку?..

*1973*

## Травінкі ў лёдзе

Азерца блакітным пагостам
Прысмеркла на белай зямлі.
— Травінкі,
няўжо ўсё так проста?—
Ні гуку...
Жывуць ці жылі?

Карэняцца ў глейкую зацем,
А стрэламі лісцяў прамых
На лёдавым цыферблаце
Таемны адзначылі міг.

На грані жыцця і нябыту
Гадзіннік прыцішыў разгон.
Халодным дыханнем блакіту
Зялёны аздобіўся звон.

Кавалачкі лета застылі
У студзеньскіх глыбах ільдзін.
...Маўчыць снегавая пустыня,
І я з ёй
адзін на адзін.

Ядловец — сівы магільчанін —
Махае рукой: не бяжы...
Маўчыць ледзяное маўчанне —
Надзея на страшнай мяжы:

Не памяццю злой і атрутнай,
Што думкі вярэдзіць і сны, —
А ў сэрцы травінкай нячутнай
Застацца да новай вясны.

*1973*

* * *

Здзіўленне —
                    подых абнаўлення,
Пункціры —
                    абяцанне адкрыцця...
Хвала табе, бунтоўны дух сумнення,
Хвала табе, вандроўніцкі прасцяг!
Не знаю сам —
                    зацяты дамасед —
Які мне вецер развінае крылы
І цягне цягам у няблізкі свет
Якая ненатоленая сіла?

Насустрач дням, што з небыцця ірвуцца,
Імчыце, самалёты, караблі!
Не дайце з тымі днямі размінуцца —
Іх трасцу потым купіш за рублі.
Паклон мой небу і паклон Багам,
Якіх за бараду яшчэ не ўзяў я,
Паклон мой акіянскім берагам
І завадзям рачулкі плыткай Гаўі.

Што ў днях мне тых!
                    Ніхто не абяцае
Удачы і багатага жніва.
Адно на развітанне — крыкі чаяц:
«Куды ты зноў, перакаці-трава?»
А я іду. Не свет здзівіць.
                    Я сам
Іду здзіўляцца гэтым дзіўным светам.
Мне краю роднага і подзвіг і краса
Выразней бачны з далячынь планеты.

Хай песняю сяброўская бяседа
Чаруе: «Заставайся назусім».
Спявайма, хлопцы:
                    я — за песняй следам!

Дамоў, дамоў — даволі калясіў.
З дарог якіх бы пыл ні атрасаў —
Я сэрцам ад цябе не адарвуся,
Узлётнае сцяжынкі паласа
Паміж палёў жытнёвых Беларусі.

Хвала здзіўленню!
І перад квяцінкай
Я на калені моўчкі упаду...
Глыток вады, апошняя скарынка, —
Абы вось тут, пад гэтай аблачынкай, —
У родных траў і птушак на віду.

*1973*

## Лівень

Вы не бачылі часамі,
Як, напіўшыся з крыніц,
Вырастаюць за лясамі
Горы спелых навальніц?

Вырастаюць і хістаюць
Над сабой блакітны звон
І агністымі хвастамі
Хвошчуць сонца наўздагон.

Іхнія — зямля і неба!
Прэч з дарогі, прэч усе!..
Вецер спуджана і нема
Страпянецца на страсе.

Ліст вусцішна залапоча,
Пыльны выскача віхор,
Певень, быццам супраць ночы,
Пракрычыць апошні збор.

Блісне ў твар халоднай крэскай,
Свет закрые дацямна —
І з грымотамі і трэскам
Рухне чорная сцяна.

Б'юць руччы па каляінах —
Ці дарога, ці рака?
І азон з душком палынным
У пакоях заблукаў...

Перамые, прапалошча,
Нібы ў новай лазні дзед,
Свет запыленыя мошчы, —
Як народзіцца на свет!

Цішынёю ахінуцца
І нябёсы, і зямля.
Ні травінкі не шапнуцца,
Ні жыцінкі — у палях...

Ані спрэчак, ані звады
У птушынае гурмы,
І за мройным даляглядам
Спяць натомлена грамы.

*1974*

* * *

Узнацкі шлях —
Чатыры кіламетры —
Мае сябры,
Мае дажджы і ветры.

Чатыры знакі
Над маім сусветам...
Шляхі, шляхі, —
Пазначаны вы ўсе тут.

Вось гэты —
Самы юны і кароткі —
Да веснічак драўляных
Сямігодкі.

А ля яго —
Як чорны шнур:
Па гэтым
Вайну прынёс
Дзяжурны з сельсавета.

Яшчэ адзін...
Маўклівы і зацяты —
Бясконцы шлях
Да развітання з татам.

А ўпобачкі —
Вясёлкаю іскрыцца:
Унук да бабкі
Едзе са сталіцы...

Узнацкі шлях:
Мой шлях да маладосці
І новы шлях —
Да маладосці ў госці.

Узнацкі шлях:
Вязьмо маіх дарог,
Вязьмо надзей,
Чаканняў і трывог...

Іх сотні сот
На гэтых каляінах:
Удосталь мне
І ўдосталь будзе сыну.

Іх круцяць крута
Часу лемяхі,
Каб прарасталі
Новыя шляхі.

*1974*

## Зносяць могільнік

Хто змераў думак глыбіню,
Хто адшукаў сакрэт вяртання?
Хто зведаў логіку агню,
Хто знае ісціну кахання?..
Стаю над зданямі магіл,
Над зруйнаванай адзінотай,
На свежых пнях лічу кругі,
Пытанні тоячы на потым.
З таполяў зваленых гракі
Ляцяць за вэрхалам надозір:
Адкуль? Навошта? Хто такі? —
А гэта ж просты наш бульдозер!
І хлопец, не вампір сабой,
За руль па разнарадцы трапіў,
Чыюсьці памяць, чыйсьці боль
Выносіць на сталёвай храпе.
Кладзецца ў кузаў саркафаг —
Душа ў каменным маскхалаце:
Ці ты чаляднік, ці ты граф —
Любога з ветрыкам пракацім!
А тут — узвысіцца для нас
Грымотны дом.
                І нехта ў ванне
Успомніць млява ваш адказ —
Адзін, на тысячы пытанняў.
І размяцецца горкі след,
І горад вогненным разлівам
Халодна скажа вам, што свет
Бязлітасны і справядлівы.

*1974*



Як згубіцца ў гэтым свеце лёгка —
Ветрыкам, расінкай, матылём...
Абламіся, дзень, сцяжынай крохкай,
Зарастай, былое ўсё, быллём!

Уцякай, калі ад дум нясцерпна,
Ад вачэй, што памяццю глядзяць.
Ад бяссонніц, ад пакут, ад церній
Уцякай — і Бог табе суддзя.

Уцякай, калі агонь пад кроквы
І страха ўзрываецца клубком, —
Вось жа, думы горкія, урок вам!
А яны — з пажару — галяком!..

А яны — згараць зусім не хочуць,
За табой бягуць, бягуць у свет.
І пякуць іх вогненныя вочы
Твой труслівы, здрадніцкі твой след.

І нікуды не ўцячэш, падпальшчык,
Вернешся — хоць будзе неўпралаз —
Да сябе — праз непрахадзі фальшу,
Каб зірнуць на ісціну хоць раз.

І паверыць, што вясна бывае
Пасля доўгіх і асцюжных зім,
І што ты — усё яшчэ такая,
І што я такі, такі зусім...

І адчуць — тугое трапятанне
Пад вятрыскам кофты з паркалю.
І ўсумніцца — як жа лёгка стане,
Быццам зноў нясу тваё «люблю».

І на сэрца — юныя трывогі:
Жураўлямі ў студзені трубіць.
І не знаць, як дадзена мне многа
І як многа прыйдзецца згубіць.

І пабачыць — у нямым чакачні
Дні, як птушкі, пад страхой сядзяць.
І здзівіцца — ісціна ў вяртанні
Да вачэй, што памяццю глядзяць.

*1974*

## Снежнасць

### I

Снег на дрэвы ціпыню цярусіць,
Свет, знямелы, рукі паўзнімаў.
«Выбачай, — кажу асенняй скрусе. —
Выбачай: са мной — мая зіма!»
Ціпыня і чысціня са мною,
Халадок разваг, няспешнасць дум.
Недзе там — за белаю сцяною —
Ворагі мае — грызня і тлум.
А насустрач — мяккай акварэллю —
Між бяроз — асінак чарада.
Горкі лёс, а як пахарашэлі —
Снег мільён адценняў прыгадаў!
Голь і шэрасць пазнімаў з галінак:
Вітражом — трывогі лёгкі цень,
Як у сне шчымлівы напамінак
Пра даўным-даўно забыты дзень...
Ах асіны, горкія сястрыцы,
Зябкі час, затое толькі наш!
Наш — нязнанай птушкай серабрыцца,
Абяцанняў тоячы міраж.

### II

Аж пад раніцу, з трэцімі пеўнямі,
Прахапіўся на ўзлеску мароз,
Выйшаў з поўнай, рыпучай сеўняю
І вясёлых праяў натрос,
Дзе змяшаліся ў стынь мігатлівую
Ўсе традыцыі снежных школ:
Рэнуара святло палахлівае,
Гарсаветаўскі дыскабол...
А партрэтаў — з халоднымі каркамі —
Колькі іх стары снегалеп
Натварыў для аздобы паркавай!
І ад велічы ўласнай аслеп.

З ветраломнаю славай у злагадзе
Сам, здаецца,
бронзавы стаў.
Ад марозу, як звон, галава гудзе —
Геніяльная пустата!..
Б'юць скульптуры ў пліты гранітныя,
Б'юць падэшвамі, скачуць маўчком:
Стынуць мускулы снегабітныя —
Паспрабуй утрываць галячком!
Дый самому — марока з фатыгаю:
Славу ўспёр — і не зваліш з плячэй.
Хоць бы ветрам якім ці адлігаю
З п'едэстала
сагнала хутчэй!

*1974—1975*

* * *

Пакуль у неба б'юць пад'ёмы
І час пружыніць павады,
Не ведай радасці і стомы,
У мітульзе не траць гады.
Хай радасць слабага пацешыць,
Піжона стома падсячэ,
А нам не варта носа вешаць:
Усё наперадзе яшчэ!
Твары спрадвечны круг мазольны:
Ары і сей, гадуй і жні.
У пустамоўнасці застольнай
Засекі дум не спаражні.
У працы — сэнс, і плён, і праўда,
І запавет, стары, як свет:
Каб ніва ўладжвалася спраўна
І не буяніў пустацвет.
І з іншай радасцю не знацца —
На ўсё жыццё — адзін урок:
Хлеб не расце пад гром авацый.
І ў гэтым — тайна. І зарок.

*1975*

* * *

Узараны ўспамінамі,
Як нарогамі поле.
Пад спякоту палынную
Засеяны болем.
Прарастаю трывогамі,
Як зямля каранямі,
Як імкненне — дарогамі,
Як цемень — агнямі.
Узыходжу чаканнем,
Як вечнасць, бясконцым,
Як травінка праз камень:
Без сонца — да сонца.
Узлятаю надзеямі,
Як жаўранак весні.
Толькі дзе яны, дзе яны —
Поля жніўнага песні?

*1975*

* * *

Мой друг са смуткам іудзейскім
У затуманеных вачах,
Якія цені і зладзействы
Твой сон бунтуюць па начах?
Якім ратуешся каўчэгам,
Калі бурліць крыві патоп,
Калі пластуецца пад снегам
Зямля са скручаным хрыбтом;
Калі на белыя хаўтуры
Ідзеш і сёння ты адтуль,
Дзе эканомны ротэнфюрэр
На драбязу шкадуе куль
І ў яму кідае жывымі
Малых дзяцей і немаўлят;
Калі штыкамі нажавымі
Раскрыжаваны далягляд;
Калі працягваеш ты рукі
Да нас з-за чорнае мяжы, —
І мёртвыя вядуць унука
З душой дзядоў на свеце жыць?..

*1975*

## Памылкі

Лезуць,
едуць,
ідуць,
паўзуць.
Смокчуць,
точацца
і грызуць...
Ад памылак — няма адбою.
Памыляюцца друкары,
Памыляемся мы з табою,
Памыляюцца дактары.
Памыляюцца схемы і зводкі,
Найвучонейшая драбядзень.
Памыляюцца метэацёткі,
Абяцаючы добры дзень.
Ад памылак —
няма куды дзецца.
Памыляюцца мэты дарог,
Памыляюцца думкі і сэрцы,
Памыляецца мудры Бог.
Памыляецца — той, нябесны,
Памыляецца — гэты, зямны.
Ад памылак — пад сонцам цесна,
І ў цане яны — за паўцаны.
Памыляюцца нават робаты —
Электронна-сухая душа...
Памыляемся — буйна і дробненька —
Каб памылку адну суцяшаць.
Тую самую, што з кляцьбою
Ад сябе адганяем, як дым:
«Што — памылка?
У нас з табою?!
А-а, у іншых...
У тых заўжды».

*1975*

* * *

Мір, аблокі мае,
Дзеці вечных лятункаў,
Мір вам, белыя птушкі
Надзей.
Я прашу ў вас, аблокі,
Малю паратунку,
Як у зёлак бабуля
Ад нядобрых людзей.

Мір вам — сёння і заўтра,
Залётныя госці,
Да нябёс узнімайце
За паглядам пагляд.
Хто вітаецца з вамі,
Той не ведае злосці,
Хто глядзіць вам услед,
Той не выспеліць звад.

Не грызуць таму сэрца
Ні зайздрасць, ні хціваcць...
Слава мудрай бязмежнасці
І цішыні!..
Памагай нам, бяскрылым,
Палёт зіхатлівы,
Сэнс высокі адкрыць
У зямной глыбіні.

Я не самнамбуліст,
На карніз крутабокі
Ноччу месячнай
Мне не карціць —
Я іду па зямлі,
Хворы вамі, аблокі,
З вамі, з вамі
Душа ляціць.

Хай на ростанях часу
Зябка снежыцца студзень —
Крылы ў травень нясуць
Праз начэй каламуць.
Адцвітаюць на яблынях пчолы,
А ў грудзі
Аблачынкі, як светлыя вёсны,
Плывуць.

І раблю я, напэўна,
Вельмі смешныя рэчы
(Ледзь не ў ступе
Таўку ваду!):
Я з наіўнасцю
Думы
На шляху чалавечым
У выбоіны моўчкі кладу.

— Вам не дрогка? — пытаю. —
Параўнела дарога?
Хай на шчасце яна —
Як сувой...
Ну а мне гэта ўсё
Каштавала не многа:
Аблачынка маленства
Над галавой.

*1975*

## Кажушкі

Завейнай памяці сцяжкі,
Ад халадоў уратаванне —
Гарацъ у Мінску кажушкі,
Снягурацца на скрыжаваннях.
Той — пад шыкоўны капялюш,
А той — пад гальштук імпартовы
Прыйшлі для абагрэву душ
У небаскробы з хат вясковых.
Калісьці сена залачком
У рэзгінах насілі з гумнаў,
А сёння цiснуцца бачком
У чэравы трамваяў тлумных.
Пад сплаў румуючы цягло.
Трывалі з армяком на пару.
І ўспрэчыць іх адно магло —
Калі са спін курэла пара.
Няблізкі шлях — не ў сабалях,
А ў той жа пары дымна-шэрай
Ішоў мужык аж да Крамля
І грэў за пазухай паперу.
Гулялі ўросхрыст па сяле,
Ляцелі ў кут на вечарынках.
Абціхлі тут, сапуць,
але
Грызуць салодкую скарынку.
Ці моды здрадлівай грашкі,
Ці ўстояў гарадскіх агрэхі —
З плячэй бацькоўскіх кажушкі
Нашчадкам сталіся для ўцехі.
І лубяніцца шык і форс,
На вёсцы спісаны з ужытку,
Спартсмену грэе дужы торс
І два грудкі дзяўчыне плыткай.
Надзея вочы заімгліць
І грэшным станеш не па часе,

Калі па наледзі іглiць
На ножцы зваблівай абцасік.
А кажушок — глядзі, гібей! —
Аж вочы чырванню крадуцца...
Апомнішся — і сам сябе
Аблаеш моўчкі легкадумцам.
Плыве, віруецца натоўп.
А ты ўжо
службай ці сям'ёю
Апушчан на зямлю,
а то б —
Хадзіў да вечара за ёю.
Шырэе шэрая сцяна
Машын, гудкоў, вітрын і твараў.
Гудзіць з цямна і да цямна
Назойна-гарадская хмара.
Цывілізацый тлум цяжкі
Зіма марозным коціць рэхам.
І прыкрываюць кажушкі
Нейлонаў горкія прарэхі.

*1975*

* * *

> Бабруйская зверагаспадарка прымае ў неабмежаванай колькасці коней па цане 40 кап. за адзін кілаграм жывой вагі.
>
> Аб'ява ў газеце

На вагі, на вагі, на вагі,
Ветэраны капытнай цягі!

Смялей, вараныя, гнядыя!
Больш хамут не намыліць шыю.

На вагі, на вагі, на вагі,
Палёў рабацягі!

Кілаграмы — вага жывая:
У вачах — туга незямная.

Дармаеды, бадзягі, —
На вагі!

Адшумела, адкаласіла
На загонах конская сіла.

Ні на ломаны грош павагі, —
На вагі!

Сёння цяга ў пашане ракетная —
То адкрытая, то сакрэтная...

На вагі, на вагі, на вагі, —
Дых займаюць маторы, як магі.

Сёння сілай адзін бензакур
Сарака вашых варты скур!

На вагі, на вагі, на вагі —
І ніякае звягі!

Расквітайцеся з рабскаю скураю,
Даўкім потам і пылам пракуранай.

Боты, партфелі, крагі, —
На вагі!

Утаймуйце пражэрлівы нораў
Чорна-бурых лісіц і норак!

Каб нафутрылі модніц раймагі, —
На вагі!

Кілаграм — па чатыры грыўні...
Спяць вятры ў скасмыленай грыве...

Дзе падкова сталёвай адвагі?
Як зямля, гайдаюцца вагі.

Кілаграм — па чатыры грыўні.
Кілаграм, капытамі грымні!

*1975*

## Згадка пра вандроўку з літоўскім сябрам

Пасміхаўся Альфонсас Малдоніс,
Быццам вызнаў такі сакрэт,
Што схаваў вадзянік у прадонне
І адвёў за тры моры след.
Край бацькоўскі, Дзукія пад сонцам,
На вадзе чарада качанят...
Ціха крочыў сцяжынкай Альфонсас
І Дзукіяй свяціўся пагляд.
А ў Дзукіі вочы такія —
Выплываеш з віроў тых ледзь-ледзь.
Знаць, любіла дзяўчынка Дзукія
Ў неба сіняе доўга глядзець.

Як надрэччы і прыазер'і
Белым роздымам тумаioў,
Як былога праўдзівыя зерні
Мудрым роздумам курганоў,
Як людзей і крыніц перамовы
Песняй канклеса на зары,
Як акраец роднага слова
З веку ў век пры сваім двары,
Як дарогі негаманкія
З горкай памяццю палыноў, —
Уваходзіш у сэрца, Дзукія,
Сінім смехам сваіх сыноў.

*1975*

* * *

Стала песня старая новай,
Пастарэлі новыя догмы,
І Шульжэнка ў максі-панёве
Вычварае па-маладому.
Ветэранаў песня старая
З маладосцю рукае зноўку,
Дзе старшыны, як лёс, вымяраюць —
На жыццё ці на смерць — стограмоўку.
І чамусьці калюча стане
Тут якраз во, дзе стукае сэрца,
Юнаку, што вайну на экране
Перажыў па кіношнай мерцы.
Ходзіць песня, жыве крылата,
Ветразь памяці светла гайдае.
І ў цвярозыя будні, і ў святы
Усеўладная над гадамі.
Значыць, нешта сакрэціць, старая,
Значыць, нейкае зелле мае.
Я сказаў бы — ды сам не знаю,
Сам травінку тую шукаю.

*1976*

* * *

Імён і дат вялікія планеты.
Вялікай гравітацыі чаўны.
Ляці — як на агонь. Але пры гэтым
Не стань у зыркім полымі мятлушкай.
Згарае слава, поспехі, чыны, —
Вярніся да сябе — з пяром жар-птушкі.

*1976*



Бываюць позіркі такія:
Спыняе ў небе хмар палёт,
Трыножыць хваль марскіх стыхію
І сонца шле ў зваротны ход.

З-пад цецівы брывей імчыцца,
Звініць стралы тугі прамень —
Не адвярнуцца, не адхіліцца, —
Бывай, разважна-ціхі дзень!

О, сто вачэй! Якая сіла
Сабрала ў позірк гэты вас?
Выходзь на пенсію, свяціла:
Зірні само — прабіў твой час.

О, сто чарцей, каму вядомы
Такі бывае паварот:
Стаіш — працяты, нерухомы —
І захад меціцца на ўсход!

*1976*



Я не кумір — я чорны раб,
Прыкуты векам да галеры.
Спіна гайдаецца, як трап:
Ступайце весела, хімеры!

Да эльдарадавых палян
Плывіце ўсе — у вашу сутнасць.
А я — асверу акіян
Вяслом нязбытнасці пакутнай.

Я не выбраннік — я крыло
Рукою замяніў пачварнай
І ў зрэнкі, як у жарало,
Штодня ссыпаю плён базарны.

Дзе хто прадаў, дзе хто купіў,
Дзе хто згубіў, дзе хто прапіў, —
У трум душы, нібыта ў вечнасць,
Усё цячэ, як недарэчнасць.

Як у скарбонку медзякі,
Як у лятох пражэрнасць трутня,
Як вадкасць тлумная ў глякі, —
Цячэ — і сутнасць, і адсутнасць!..

Нахабна лезуць у мяне
І мудрацы, і скамарохі.
І ўжо гатоў я скамянець
Грунтоўным помнікам эпохі.

І ўжо завіс уключын хрып,
Як немы водгалас планеты.
І ўжо не я глабальны тып,
А вы — абрыс майго партрэта.

Нутро эпохай прарасло —
Ад храмасомы да ідэі.
Крышу салёнае вясло,
Агонь вяртаю Праметэю.

І ўсё бліжэй, і ўсё бліжэй
За мною коціцца мой рогат:
«Багоў заўжды на свеце многа,
Бо чалавекам быць — цяжэй».

*1976*

## З газетных аб'яў

Дзе яна, дзе ў нашым Мінску?
Дзе хоць бы след яе?! —
Валам коцяцца ловы:
Шукаецца машыністка,
Якая ведае
Беларускую мову.

Як снежнага чалавека —
Ау-у-у! —
Як дапатопнага маманта,
Яе — над бурлівым векам —
Схапіўшыся за галаву,
Аб'явы гукаюць з лямантам.

Крычыць газетны абрус.
А я за ўсімі бедамі
Чакаю аб'явы новай:
Шукаецца беларус,
Які ведае
Беларускую мову.

*1976*

* * *

Дэрвіш — каранам,
Стратэг — уранам,
Працягі — прычынамі, —
Як булкі, начынены.

Бядак — прашэннем,
Буржуй — кішэняй,
Лес — птушанятамі, —
Усе багатыя.

Шчодра надзелены
І абнадзеены:
Малітва
хорам
На ўсе саборы,
Машна
памерам
На пяць Амерык,
Узлёт — размахам
Клавіраў Баха.

Як свет, разважаны,
Як лёс, уважаны:
Малітва —
з вераю,
Машна —
з хімерамі,
Вышыні —
з крыламі, —
Бяссіле з сілаю.

Бяссілле з сілаю,
Жгуты двухжыльныя —
І двухатрутныя,
І двухакрутныя.

Як тайна строгая:
Сусветны могільнік,
І відавочная:
Лясы падсочныя.

Вясна з пургой ідзе,
Зіма — з разлівамі...
А пераможцы дзе?
А дзе шчаслівыя?

*1976*

## Тры дарогі

*Памяці І. П. Мележа*

Даль імчыцца крутая
За грымотнаю птушкаю.
Я адзін адлятаю
На сустрэчу да Пушкіна.

А павінен быў з вамі.
Мы даўно згаварыліся...
...Над Святымі Гарамі
Сонца — птахам Ярылiным.

Май і чэрвень рукаліся:
Зелле весняе выпіта...
На світанку ў Міхайлаўскім
Пахадзіць нам не выпала.

У сталёвым рэжыме —
Матары, матары...
Думка чорна кружыла:
«Хворы...»

Не сівымі гадамі
Прысутулены плечы.
Боль — начамі і днямі —
Свой і ўсечалавечы.

І як боль — ваша рыска,
Дальніх выраяў хросны,
Паляшук, ад калыскі
На дарогу зайздросны, —
Непаседам і нележам
Усміхнуцца журліва:
«А чаму ж, ето, Мележа
З сабой не ўзялі вы?..»



Што ў сусвеце распалася?..
Стыне сэрца Радзімы...
Дарагі Іван Паўлавіч...
Жніўныя зімы...



А над Прыпяццю —
песня:
Клён, мажны і шырокі.
Каранямі ў Палессі,
Галавой у аблоках.

Не спяшайся, вандроўнік,
Прыпыніся на момант.
Ціхаплынную роўнядзь
Не разрэжуць паромы.

Ты запомні той вечар —
Больш такіх не бывае:
Прысутуліўшы плечы,
Хтосьці зорны ступае.

Гэта клён — я таксама,
Як і ты, меў здагадку.
Толькі знаў: за лясамі
Цуды ёсць ад пачатку.
Ад вякоў тых далёкіх,
Што прайшлі каранямі
Праз багун і асокі
І ўзраслі Куранямі.

Узраслі Куранямі
З чарнабрывымі Ганнамі,
Узраслі Васілямі,
Узняліся Іванамі...

Ці ты госць, ці вандроўнік —
А ўжо нам не расстацца:
Цяга крэўная хронік —
Крэда ўсіх гравітацый.

Пасядзім і памроім.
І пабачым, як з пушчы
Надвячэрняй парою
Клён ступае відушча.
Непаседам і нелсжам
Шэпча ўпоцем журліва:
«Хай бы, ето, і Мележа
З сабой узялі вы...»

*1976*

* * *

Я пакідаю галасы —
Звінець і ўноч і ўдзень:
Я пакідаю вам лясы
Маіх трывог, надзей.
Я пакідаю вам грахі:
Грыбное без грыбніц
І Глуск глухі, дзе з-пад страхі
Не шухнуць вераб'і,
Палёў пратручаную медзь,
Касяк свінцовых рыб, —
І ўсё каб той, надзённы, мець...
А вы інакш змаглі б?..
Я пакідаю вам правы
Мяне судзіць павек,
Крычаць, якія цацы вы.
А я? Не чалавек?
Як рыба ў помарак аб лёд,
Хіба не біўся я?
Я б мог схавацца за народ.
І ўсё ж — віна мая.
Я пакідаю вам зямлю
Такой, якая ёсць,
Якую трачу і люблю
І на якой не госць.
І толькі аб адным прашу:
Ідзіце на крыжы,
Каб нашай мовы весні шум
Усіх нас перажыў.

*1976*

* * *

«Гыля, гыля, гусанькі,
Да ракі...»
Дзе мае хаўруснікі-
Дружбакі?

Кульба часу топчацца
Па спіне.
Ці гукаць вас, хлопчыкі,
А ці не?

Пэўна, не пачуеце
Ля кастроў
Пастушка-мачулінца
З-за муроў...

Як прыйду — без імені —
Я здалёк,
Ці пазнаеш ты мяне,
Васілёк?

«Гыля, гыля, гусанькі...
Дзе вы, дзе?..»
Ціха, нікагусенькі...
Хутка дзень.

Белы снег кружыцца —
З-пад крыла пух,
Што ў маёй падушачцы —
Нам, на двух.

*1976*

# Ідылія сучаснага складу

*В.*

Такая на свеце пара была:
Паляна — духмянай парабалай,
Зялёнай сцяны атачонасць,
Зялёнага лета човен.
Плыла ў ім хмурынка пагрозна,
Як німб над зямною прозай,
І трактар сталёвым гулам
Натужваўся з громам агулам.
Ці з будучыні недаступнай,
Ці з даўніны дапатопнай —
Адкуль ён сюды прытупаў,
І травы, і песні топча?
Адкуль ён, адкуль прарываўся,
Адкуль праз бярэзнік ламаўся?..
Сталёвыя дыназаўры!
Мы што для вас — на базары?
Мы толькі працяг і часцінка —
Ігліца, верас, лісцінка...
Ігліца ў чубе шалёным,
Лісцінка гаркавіць асенне,
Сцякаюць дажджынкі салёна,
Ірвуцца хмурынак цені...
І сонца — зялёным валам
У кроне, што нас ахінала.
І зноўку паляна светлая
Ляцела парабалай летняю.
А ў ельніку, як аракулы,
Вароны аб чорным вякалі.
Вароны! Вароны сур'ёзныя...
Аб чорным?
Пад белай бярозаю?!

*1976*



*Папугаю па імені Чуня*

Век дэкарацыі ўшчэнт расхістаў,
Навін не чакай ад паштарак:
Вечарам ззяла шыльда «БЕЛТА» —
Раніцай бачу: «БелТара».
Сабакаводы з'ядналіся ў клуб —
Адліта золата літар.
Яшчэ такую павесіць адну б —
І з шыльдаваннем квіты!
Не грэх і нам таварыства займець,
Да моды прыслухацца чуйна.
Як я хачу твой сусвет зразумець,
Птах аўстралійскі, Чуня!..
А ты «Жраць пара» і «Дурань» на слых
Асіліў з навукі надомнай,
Як майстар пералапачвання старых
Ідэй і думак вядомых.
Штодня аб адным, аб адным, аб адным
Цвярдзіш і цвярдзіш бяздумна,
Па-блазенску рады праслыць дурным...
Ты знаеш, робіцца сумна.
Упоравень з векам сягай, не кульгай!
Хаця і не пуп нацыі —
Чаму гэта з мовай людской папугай
Сядзіць без арганізацыі?
Вунь канарэйкі — канцэрты даюць,
Пяюць — матыльком гальштукі.
А мы што не цэнім марку сваю?
З'яднаемся, папугайшчыкі!
Да клеткі тваёй бягу з навіной,
Дзіўлюся: «Ты не расчулен?»
Крычу, вучу — паўтарай за мной:
— Ар-р-рганізуемся, Чуня!
Сядзіш у хаце сваёй драцяной —
У цёплай, утульнай, сытай —
А ўсё ж ад яе патыхае турмой:

Шыльда нідзе не прыбіта.
— Шыльдуйся! — крычу. — Патрабуе век.
Радасць дарэмна тоіш.
Без шыльды — які з цябе чалавек?!.

А можа, я штосьці не тое?..
А можа: «Дурань» — навука дзяўбе
Забытым, зялёным болем?
А можа, нельга без джунгляў табе,
Як жаўранку нельга без поля?..
Ні чалавека, ні птушкі няма.
І песні няма таксама.
І толькі праз сон — аж уздрыгне турма —
Аднойчы, па-свойму: «Мама!»

*1976*

5 Зак. 1296

## Сустрэча з Райнісам

Шукальнікам і непакорным
Ткуць саван блакітныя кросны.
Дарога вялікая, мора...
І ля дарогі — сосны.
Зламаныя сосны. І мора
Салёна аплаквае крайніх.
І Райніс — не зломлены горам,
Прасмолены соснамі — Райніс.

Стаіць. Затаілі вочы
Пакутную задумёнасць...

...Я ўсё гэта бачыў аднойчы
У позірку дзеда Лявона.
Прыйшоў да свайго плятня ён —
Павалена, скручана прасла...
Паскардзіўся: «Баба вось лае,
А тут жа, як дзень гэты, ясна:
Дарога і ёсць дарога,
Ідзе хто ці едзе — зачэпіць».
І прашаптаў мне, як Богу:
«От, баба... Не баба, а чэмер...»

А што мне да бабы, малому!
Мы добрыя з дзедам суседзі,
І зараз ён скажа, вядома:
«Паедзем — я веццяя нагледзеў».
Кабылку ў аглоблі запрэжэ,
Падсадзіць мяне на калёсы.
Няхай пашукае, чэмер!
А мы — у лазу, на плёсы.

Навалім драбіны хлуду,
Зялёнага, гнуткага вецця.
Я зверху, на возе, буду,
А там, як на небе, жывецца!

Трымайся, мой воз, не валіся,
Дзе рытвіна, дзе канаўка...
Запляціся, пляцень, запляціся,
Завівайся, шаўковая траўка...

Мы добрыя з дзедам суседзі,
Вянком заплятаем вецце.
І знаем, што нехта наедзе
Ці злосны наваліцца вецер.
Ваду папіваем — млосна!
Сасмяглае цела студзім.
І знаць не знаем пра сосны...

Усё гэта потым будзе.

*1976*

## Вундэркінд

У клас
        віжавання,
На сход
        свежавання,
На збор
        па кіпцях,
У гурток
        па касцях,
У фонд
        маслака,
На спецкурс
                малака, —
Усюды Барбос
Запісаў шчанюка.
Такую сістэму паспеў размахаць,
Што бедны сынок
                        развучыўся брахаць.

*1976*

* * *

Да кропелькі час адважыцца, —
Той дзень і мяне не міне.
«Быў і няма», — вы скажаце,
А я — усміхнуся ў труне.

Да кропелькі час адважыцца,
І ў сэрцы астыне біццё.
«Няма бяссмерця», — вы скажаце...
А што ж тады ёсць жыццё?

*1977*

* * *

Мне крылатая памяць птушак
Па вясне не дае спакою.
Хто мой боль невяртання заглушыць,
Хто развее прадзім'е скупое?
Адступаюць завейныя здані,
Снег на елках разлапіста тае.
Час прылёту, сустрэч, гнездавання...
Толькі я ўсё далей адлятаю.
Толькі я ўсё далей ад вясёлых
Ручаёў, што ў абгонкі дурэюць.
Чарналессе гайдаецца гола,
Свеціць сонца маё, ды не грэе.
І туманяцца небасхілы
Над маім паўзабытым маем.
Толькі чую, як шэпчуцца крылы,
Толькі знаю: вясна бывае.

*1977*

* * *

Адлетаваў палёт
На крылах птушак,
На крылах лесу,
Навальніц, дарог,
І толькі рэха сонечнае
Глушыць,
Разбіўшыся
Аб восеньскі парог...
Няўжо яно было:
Палёт і сонца?!.
Не верыцца, —
Няўжо было, няўжо?.. —
Калі, прыкуты
Да сцяны бяссоннай,
Сядзіш — адзін —
На ланцугу дажджоў...

*1977*

## Непаўторнасць

Прыходзіць жа аднойчы
Такая вышыня:
Глядзяць прыроды вочы
Штоночы і штодня.
Глядзяць табе насустрач,
Глядзяць табе наўслед.
І ты ўжо — невідушчы —
Бачыш цэлы свет.
Адкрыецца такое
З надхмарнай вышыні —
Не зведаеш спакою,
Не ўзнаеш цішыні.
«Няма іх. І не будзе.
Ніколі. І нідзе...» —
Адкрыецца ў прысудзе,
Што позірк той вядзе.
Чытай па кнізе зорнай:
Няма і не было...
Жыццё — як непаўторнасць,
Як непазбежнасць — тло.
І ты іх вечны дольнік —
Нікога не віні...
Правідчае прадонне
У гэтай вышыні.
І непазбежнасць ночы,
І непаўторнасць дня, —
Усё яна — аднойчы —
І тая ж — вышыня.
І рвецца над сусветам
Нязведаная ніць.
І непаўторнасць гэту
Рукою не злавіць.

*1978*

## Пытанні

Дух абуджэння, дух устрывожаны:
Самае цяжкае — запытаць.
І верыць, што ў догмах непераможных
Ёсць Ахілес і яго пята.

Што ў роўнядзі самай наглянцаванай
Ёсць і задзірынка і сучок, —
Выкінуць думку адпрасаваную,
Наіўным пытаннем зрабіць скачок!

Пытанні-паяцы, пытанні-задзіры,
Пытанні-зануды — рыпяць і рыпяць...
Каб даказаць: «Двойчы два — чатыры»,
Трэба ўсумніцца: «А раптам — пяць?»

Хвала вам, букварныя лемантацыі,
Хвала галаве, што за круг круглей!..
Самае цяжкае — запытацца:
А што за імі, а што далей?

Пытанне ёсць прадчуванне ісціны.
Пытанне за глотку бярэ ману.
Пытаннем усё было калісьці.
Пытаннем на свет Чалавек зірнуў.

А колькі пытанняў схавана ці ўкрадзена...
Ды крыж іх нясе непадкупны час:
Калі аднойчы пытанне зададзена —
Павінен быць і адказ.

*1978*

* * *

Жывеш, пакуль жывыя,
Хто нарадзіў цябе,
Хто на кругі зямныя
Праводзіў у журбе.

А пойдуць — і абдыме,
Прашэпча пустата:
«Ты — напалову з імі,
Ты напалову — там».

Жывеш — як часу даннік,
Надзея і працяг,
Нясеш цану пазнання
І смерці, і жыцця.

І з імі паяднаны
Той страшнаю цаной.
І дні ідуць за днямі,
А памяць — за труной.

*1978*

* * *

Мы развітваемся з сабою
Ўсё жыццё — кожны дзень, кожны міг.
Рух і час... І няма перабояў
З-за патопаў, засух, адліг.

Ні ўцячы, ні залашчыць дарамі:
Рух і час — толькі іх правы.
Заўтра іншы сустрэнуся з вамі,
Заўтра іншыя будзеце вы.

І не знаем лепшай дарогі,
Лепш за тую не знаем надзей,
Што наперадзе, там, за парогам,
Па якой невядомасць вядзе.

Рух і час... І заход, і світанне,
І пяшчота каханых рук,
І травінка — усё развітанне.
Толькі рух, толькі час і рух.

*1978*

* * *

На скрыжаваннях сусвету
Хто мы і колькі нас?
Пылінка. Малая пры гэтым.
Драбок галактычных мас.
А песня свая і мова
Нам дадзены недарма:
Народа няма напалову —
Ён ёсць ці яго няма.
І нельга забыцца, пазбыцца —
Яны не даруюць нам:
Мы з іх — як рэчка з крыніцы —
Выходзім насустрач сынам.
Выходзім насустрач нашчадкам
І на скрыжалі вякоў
Нясём не пагрозы і звадкі,
А мудрую памяць бацькоў...
Чыя ж гэта песня і мова
І хто гэткі знае народ —
Жывы, калі мёртвае слова
І голас пайшоў на зблот?

*1978*

## Тошка

Як вядро выносіў Тошка
З маладым чырвоным сонцам,
Маладзік — анёла рожкі —
Пазіраў на Тошку змоўцам:

«Слаўся, грэшная святыня!
Грэх вам, посныя святошы!..»
Маладая гаспадыня
Недагледзіць сон харошы.

Свеціць сонца, грэшна свеціць —
Гэтак відна ноччу стала, —
І затлуміць, і прыкмеціць —
Быццам дня яму замала!..

Ды спрачацца мы не станем,
У каго пільнейшы клопат:
Ці ў яго — свяціць да рання,
Ці ў мяне — дамоў датопаць.

Частаваў вясёлы Тошка —
Па кілішку, па радоўцы.
Павузела неба трошкі,
Хістануўшыся на донцы.

І сцяжынка павузела —
Не прайсці, не размінуцца,
А душа надзею мела —
Хоць разок сюды вярнуцца...

Бачыў храмы і некроплі,
Чуў залівістыя тосты, —
А схаваў у сэрцы кроплю
Сонца з рук вясёлых Тошкі.

*1978*
*Балгарыя*



Гэта памяць — праз вякі —
Капытоў крывавым гулам,
Гэта памяць — праз мяне:
Шлях цярністы, суд бязмоўны —
Ад пячорных кулакоў
Цемрабытнага разгулу
Да кулачнага агню
Артылерыі галоўнай.
Чалавецтва на зямлі —
Самародак ці прышэлец?
Чалавецтва — праз мяне —
Пеклам войнаў і разбояў.
Чалавецтва — праз вякі —
Набіваючы кішэні,
Вытрасаючы душу, —
Чалавецтва,
што з табою?!
Нібы з плахі галава —
Шар зямны,
радарам вуха,
Праз мяне —
зялёны шар,
Праз мяне —
ячшэ не лысы...
Галава, галава, безгаловая,
Паслухай! —
Як гудуць на вуху тым
Бомбаатамныя кліпсы.
Галава, галава —
Ці мазгі пазаімшэлі?
Ці павысахлі слязьмі перапоўненыя рэкі?
Людзі, людзі —
Для кішэні — як мішэні...
Чалавецтва, стань жа ўрэшце
Чалавекам!

*1979*

* * *

Над Ясельдай, над Ясельдай
Узрост у песні ясельны.
Во толькі нарадзілася,
Па лузе пракацілася,
У росах пакупалася,
На кветках пагайдалася,
Над баравымі купамі
На промніках пратупала,
Змарылася — і ў просіні
Ужо на рукі просіцца.

А тая забаўляецца:
— Ах ты, непаслухмяніца!..
Вунь хмарка ходзіць белая —
То, можа б, з ёй пабегала?
І дзень, як бацька, гушкае:
— Ляці пад неба птушкаю!

Над Ясельдай, над Ясельдай
Спявае ўсё і ясніцца.

*1979*

## Брусьнічная элегія

Туды не знойдзеш каляін —
Там сцежкі-басаножкі
Між лугавін, між баравін,
А то і збоку трошкі...

Куп'ё брусьнічнае, чабор,
Чмялёў сп'янелых ношы —
Балюе чэрвень-медазбор
Ад ночы і да ночы, —

Пакуль не скошаны лугі,
Не высушаны краскі,
Не лёг узятак у стагі...

Было, ды стала казкай...

Ані імшар, ані куп'я,
Зьвяліся ўшчэнт брусьніцы...
Шкада мне іх... Але ж і я —
Абкрадзены як быццам?..

А хто абкраў? А сам сябе.
Як жартам, як на дробязь...
Як нехта ягад на вярбе
Мне возьме ды наробіць.

Усё зраўняў, як на таку,
Падрэзаў і падчысьціў —
Як быццам у маю руку
Сьверб усяліўся чыйсьці.

Маўляў, не гожа падаць ніц
Перад імшарай нейкай...
А ўжо насмажаных брусьніц
Не знойдзеш і на лекі —

Тых, што аскомяцца ля шчок,
Калі выходзіць з печы
Ўчарнелы ад агнёў гаршчок —
Найсамы знатны фельчар...

Ну а брусніц мачоных кадзь? —
На ўвесь раён ці вобласць
Наўрад удасца адшукаць
(Во-во! — як тую воблу)...

Ды гэта дробязі, аднак:
Пад'есці поўнай жменяй.
А вось такі бывае знак —
Хто гэта мне заменіць:

Калі з-пад летняга ліста
Цецеручыным вокам
Яна, як восень з-за куста,
Глядзіць чырванабока.

Як развітанне напавер —
Ах, ягадка-брусніца...
А ночы доўжацца цяпер,
І так салодка спіцца!..

Стаіць, пытаецца — а мне
Што адказаць па згодзе:
Хто я і па чыёй віне —
Абкрадзены? ці злодзей?..

*1979*

## Сустрэча

Я ляцеў у вясну,
А патрапіў у восень,
Як нажом паласнуў
Што было — не збылося.

Тых лятункаў і мар —
Пэўна, хопіць да скону...
Ненадзейны тавар —
Ды такія законы...

Што апала лісцём —
Больш не ўмаіць галіны.
Праз яго прарасцём,
Каб загадку пакінуць

Той вялікай жальбы
Між сабою і светам,
Дзе, здаецца, ты быў,
Ды не знаеш аб гэтым.

*1979*

* * *

Мне страшна робіцца парой:
З кім хлеб дзяліў,
дарогі —
Адрэзаў час крутой гарой,
І не сустрэну многіх...

За годам год,
за годам год —
Усё далей ад вёсен,
Дзе жыў ды быў такі народ,
Што знаць не знаў пра восень.

Не знаў яе дажджоў сівых,
Зацятых і абложных,
Не знаў, што і яна правы
Прад'явіць пераможна.

Яе ў тым свеце не было —
Семнаццацігадовым.
І сонца там да ўсіх ішло —
Не ведала радовак.

Былі таварышы,
сябры...
Цяпер адны ўспаміны —
Хаўруснікі начной пары —
Шчымлівыя,
нахлынуць.

І што з пацех завабных тых:
Маўляў —
сяўбой ці вершам —
За сонца найадказны ты,
Найсамы нават першы...

А сонца коціцца з гары —
Рукамі не ўтрымаеш...
І сустракаеш вечары —
Асеннія —
у маі.

За годам год —
круты абрыў.
Смяюся я ці плачу —
А над усім:
«Няўжо, сябры,
Няўжо вас не пабачу?..»

*1979*

* * *

Дол святлее шызы,
Хмары — перагонам.
Жаўталісце —
нізам,
Чарнаголь —
у кронах.

Аблятае песня —
Па якой патрэбе?..
Санцапад
у лесе,
Санцапад
у небе.

Санцапад у свеце,
Каб галінцы кволай
Не забыць аб леце
Да вясны вясёлай.

*1979*

## Як знаходзяць грыбы

Сінявой дыміцца
Буйства верасовае.
Баравік ігліцу
Галавой рассоўвае.

Аж сапе зацята,
Плечукамі торгае:
— Чым такая хата —
Лепш па свеце з торбаю!

Ні дзвярэй, ні вокан,
Нават з бітай шыбаю... —
Высядае бокам
Грыбалюбства грыбава.

А па лесе — зыкі,
А па лесе — гойканне.
— Вось бы стаць вялікім
Ды зірнуць з пагорка мне!..

Самая нагода
Пахадзіць па вуліцы:
— І чаго народу
Столькі там пяклуецца?

Паднатужыў сілы,
Цягнецца на дыбачкі...
Тут і падкасіла:
— Ах ты, мая рыбачка!
Ах, які мурлацік! —
І пад корань ножыкам...

Шыбаваў па свяце
Баравік у кошыку.

*1979*



На заходзе — чырвань хмурын.
Вечар ветрыцца. Холад — як з неба.
Цень хіснуўся ў разлёце дзвярын.
Хто там нанач? З якой патрэбай?
Супыніўся. Да ганка з варот
Не ідзе — цікуе з-за шула...
Прыкручу нагарэлы кнот... —
Во як змрокам адразу дыхнула...
Адхіну фіранкі ражок,
Да акна прыпаду з асцярогай:
Валюхаецца з боку на бок —
Як бы хто выцірае ногі.
Ці мядзведзь у танец ідзе:
То адну, то другую лапу
Узнімае, рахмана гудзе
І бярэ падарункі ў ахапак...
Ды нарэшце яго пазнаю:
Гэта ж мой перазяблы ядловец, —
Куст напыжвае лоўкасць сваю
І цяплінку, як мятліка, ловіць.
То падскочыць угору, то ўбок
Хістанецца, то згорбіцца крукам,
То збярэцца ў калючы клубок,
То прысядзе, развёўшы рукі.
Ды цяплінку не зловіць ніяк
І няёмка, разгублена мнецца...
Дзверы насцежу, быццам няўзнак:
— Ну, заходзь, небарака, — пагрэцца.

*1979*

* * *

Такая доля верасня —
Ганцом служыць у восені.
А лета больш не вернецца...
Ці толькі падалося мне?..

Гляджу на неба жніўнае:
Бег часаў зоры выспеляць,
Ударыць лета ліўнямі
Над новых дзён калыскаю.

Ды ўжо такіх не здарыцца
Над нашаю планетаю,
Калі не толькі старыцца,
А грэх і знаць пра гэта нам.

Калі злачынна молада,
Амаль што несмяротныя,
Заварвалі ад холаду
Мы зелле адваротнае...

А Млечны Шлях па роўніцы
Хвілін хаду адмервае.
А зоркі — тыя — помняцца,
А небу ўжо — не веру я.

Агнёў нязнаных блікамі
І глыбінёю чэрніцца
Студэнцкая Канікула
Студэнткаю-Вячэрніцай...

*1979*

* * *

Ляцяць, калі днее
Надзорная сцежка, —
Ніхто не развее,
Ніхто не суцешыць.

Ніхто не стрымае —
Узяць на паслужкі...
З якіх небакраяў
Вы будзеце, птушкі?..

Ляцяць — як захочуць,
Ляцяць без дазволу...
Глядзіць ім у вочы
Марозны мой золак.

Глядзіць і пытае
Над цемраю чорнай:
А дзе яна — тайна
Бяды нескончонай?

Вы дзень узнімаеце
Людзям насустрач —
Тады прытрымайце
Той ложак пракрустаў,

Што ўзяць усё прагне
У мёртвыя межы:
Кароткае — цягне,
Вялікае — рэжа.

Няўмольная сіла —
Усё па аршыне:
Каб не ўскаласіла, —
Па шыі, па шыі!..

Як сонца засвеціць —
Падваляць і хмары,
Як зелснь на вецце —
Дык засуха ўдарыць.

А песня пачнецца —
Рахунак падвойны:
То мор пранясецца,
То выбухнуць войны...

Сталёвая хватка,
Тугая пружына:
І роўна, і гладка,
І ўсё па ранжыру.

Адно не па чыне —
Затое практычна:
Зямля — як пясчынка,
А боль — галактычны...

...Над светам паглумным,
Над векам бяздушным
Ляцяць мае думы —
Світальныя птушкі.

*1979*

* * *

Чаму гэтак цягне да зор?
Ці толькі адна невядомасць?
А можа, бязмоўны дакор,
Што мы ацураліся дома?

Зялёнай галінкай ляцім
Далёкага зорнага дрэва
І ў неба глядзім і глядзім,
Дзе крэўныя спеюць пасевы.

*1979*



Дала прырода мне ваду і цвердзь,
Дала агонь, каб не блукаў я слепа,
Дала жыццё, а з ім дала і смерць...
Дала зямлю — а я глядзеў у неба...

А каб агонь свяшчэнны не патух,
Каб зноў не захлынуўся чорнай багнай,
Дала прырода мне высокі дух.
А я ствараў Багоў — я неба прагнуў...

Я шмат чаго тады не разумеў,
Як і цяпер, бадай, не разумею.
Я іх ствараў, і з імі я старэў,
Як і цяпер ствараю і старэю.

Усё, што сёння ісцінай слыло,
Назаўтра толькі рэхам адгукнецца.
І сіняй птушкі сіняе крыло
Кавалкам неба ў сэрцы разаб'ецца.

Загадкі непазнаных берагоў...
Адказ — адна ў мяне самаахова.
Адказу не было — ствараў Багоў,
Каб потым іх забыць і ўславіць новых.

Бог — невядомасць. Вечны вораг мой.
Яго ствараю і яго звяргаю.
Бясконцы з ім і ўсеадольны бой.
Яго кляну, яму ж і прысягаю.

Быў атам — «непадзельны» — атам-бог.
Цяпер — цяпер ажно дыханне займе,
Калі ступаю праз яго парог —
Галактыку адкрыць у пі-мезоне.

Якое неба заўтра засялю?
З якіх арбіт пабачацца мне цуды?
Не ведаю. Адно скажу: зямлю —
Вось гэту, грэшную, ніколі не забуду.

Як ёсць яна — я сэнс вышынь лаўлю,
Ствараю неба — сонечны паганец.
А дайце неба — я ствару зямлю,
І пойдзе ўсё зваротнымі кругамі.

*1979*

* * *

Хай час пагрозна прадзецца —
Іх радасць ніхто не патушыць:
Дэльфіны смяюцца, як дзеці,
Дэльфіны ўзлятаюць, як птушкі.

Дэльфіны ўзлятаюць,
Пытаюць,
Дэльфіны загадку маюць:
«А што, у вас
Формула веку —
Забіць чалавека?»

«Паслухайце вы, дэльфіны,
Не вызначайце шляхі нам!» —
Злуюся, сказаць хачу,
Ды мовы не знаю — маўчу...

І праразаюцца з нematы
Аўчаркі,
            людзі,
                        драты.

І прарастаюць рысы:
Выбухі-кіпарысы,
Выбухі-секвоі,
Выбухі-хвоі,
Выбухі-грыбы, —
Лес бы які быў...

Дэльфіны не знаюць лесу,
Дэльфіны прагнуць прагрэсу.

Хоць нехта бярэ на мушку
Жывое ўсё на планеце —
Ляцяць дэльфіны, як птушкі,
Ляцяць — непапраўныя дзеці.

Я іх амаль зразумеў,
Хоць слоўнікаў пэўных не меў:
«А ў нас формула веку —
Адкрыць чалавека.
Адкрыць,
Наўзбоч не прайсці...
Вось дзе яго толькі знайсці?

Давайце ж разам шукаць,
Давайце разам гукаць...»

«Давайце! — крычу прастадушна. —
Ёсць чалавек на свеце!..»

...Ляцяць дэльфіны — як птушкі,
Смяюцца дэльфіны — як дзеці.

*1979*

* * *

Баяцца паэты прастояў.
Як гнёт: «Ні дня без радка...»
З парожняга ды ў пустое —
Абы не гуляла рука.

А што гэта значыць — прастоі?
А гэта — вяртанне ў свет,
А гэта... а гэта ўсё тое,
Што знаў «да паэта» паэт.

Што ў сэрцы насіў і песціў
І чым не прарочыў, а жыў,
Што ўпохапкі словам не збэсціў —
Адзіным, застылым, чужым.

Кайданнае наканаванне,
Як гнёт: «Ні дня...» — Праз вякі.
І птушак, і дум кальцаванне,
Што трапілі з неба ў сілкі.

А вечнасць — пакуль яшчэ тайны
Не знае рука.
Радок — гэта знак. І звычайнасць.
Пакуты і лёс — да радка.

*1979*

* * *

Люлялі воды Адрыятыкі
Мяне ў рыбацкім гарадку.
А галапопыя харвацікі
Рабілі замак на пяску.

Расла дзіцячая фантазія,
І ўжо на самы гонкі шпіль
Малыя весела залазілі,
І свет шырэў на многа міль.

Ды раптам — плач над Адрыятыкай:
Кагосьці, пэўна, не ўзялі,
Пайшлі — смяшлівыя, кірпатыя,
Пайшлі малыя каралі.

А ён застаўся тут, на беразе,
І каралеўскі той падман
Накінуў зашчапкі на дзверы ўсе,
Расплыўся замак, як туман.

І ў нашу повязь разнамоўную —
Людзей і чаек, гор і хваль —
Прыйшло адно — і найгалоўнае:
Дзіцячы невычэрпны жаль.

Без талмача, без перакладчыка
Гуў суцяшальнікаў саюз:
Смяшыла бабка — твар калачыкам,
Круціў дзядуля рыжы вус,

І цётка клопатная войкала,
І дзядзька лысінай прысеў, —
На розных мовах — як аднолькава,
Як горка плачуць дзеці ўсе...

# Думкі ля стэндаў музея былога фашысцкага канцлагера ў Ясеновацы

Пасведчыць вам Ясеновац:
Няма спосабаў новых —
Ёсць толькі новыя каты,
А ўсё паўтарасцца спрэс
З папраўкаю вінаватай:
«Прагрэс ёсць прагрэс».

Усё старое ў спосабах,
Няхітрая самая рэч:
Вось на вуголлі босыя,
А вось — запрашэнне ў печ.

Вось гэты сядзеў на коліку,
А вам — электрычны пасад.

Вось выбілі зубы, а колькі —
Хто знае! — хоць стаў назад,
А тут — з абцугамі да сківіцы,
Падлічаць на унцыі зуб.

Там кроплямі білі ў патыліцу,
А тут — над вадою труп.
Вакол — разліўное мора,
А надпіс крычыць: «Без вады!»
Так вар'яцелі ўчора,
Так вар'яцеюць заўжды...

Усё паўтараецца ў спосабах,
Усё старое, як свет:
Забойцы ідуць не россыпам —
Па-воўчы ідуць: след у след.

Усё старое... Аковы
І ланцугі шматногія...
І тое нават не новае,
Што смерці прасілі многія.
Бо там, па-старому, лягчэй,
Дзе паміралі хутчэй.

Усё старое... Наручнікі
І вязня рука-пратэз —
Новая, неўміручая,
Узнятая, як пратэст!

## Пачакай, пакуль прайду

«Пачакай, пакуль прайду» —
Ёсць у Спліце вулка.
«Пачакай, пакуль прайду» —
Сэрцы б'юцца гулка.

«Пачакай, пакуль прайду» —
Вочы засмяюцца.
«Пачакай, пакуль прайду» —
Двум не размінуцца.

«Пачакай, пакуль прайду» —
Аж да нашай эры.
«Пачакай, пакуль прайду» —
І стаяў, і верыў.

«Пачакай, пакуль прайду» —
Славіца? Карына?
«Пачакай, пакуль прайду» —
Разглядаў вітрыны.

«Пачакай, пакуль прайду» —
Ну праходзь, не баўся!
«Пачакай, пакуль прайду» —
Ды не дачакаўся...

«Пачакай, пакуль прайду» —
Сам з сабой у люстры.
«Пачакай, пакуль прайду» —
І ніхто насустрач.



«О Спліт, жамчужына мора...» —
Калісьці пласцінка спявала.
Давай жа, Спліт, пагаворым,
Як мы гаварылі, бывала.

Я знаў цябе толькі з экрана,
Глядзеў за так, без капеек,
Зайздросціў тваім партызанам
І думаў: схаваюся неяк.

Ды кіншчык якраз на палове
З-пад лавак «зайцоў» выцягваў...
І мала таго што зловіць,
Яшчэ і палашчыць дзягай.

Ды мы не такія, каб знікнуць,
Мы дзюрачку знойдзем, дагледзім,
Адвернемся дзеля прыліку,
А там і прашыемся недзе.

І крочылі мы па Ядрану,
Дзе Спліт — жамчужына мора —
І ў гэткіх жа самых ранах,
І з гэткім, як наша, горам.

Народ-партызан, праўдалюбец,
Скрываўлены, ды не скароны,
Народ, дзе Матыя Губец
Вянчаны пякельнай каронай

І ўзвышаны тронам гарачым
З каронаю той у купе,
Бяссмерцем агню пазначан —
Мужыцкі кароль непадкупны.

Народ Харватыі горнай,
Народ берагоў Ядрана,
Народ непахісны і горды,
Я зноў з табой — не з экрана.

І востраў Брач, як пласцінка,
Ля Спліта кружыць на хвалях,

І неба твайго аблачынкі
Нясуць мяне ў даўнія далі.

І насцеж мне адкрываеш
Ты сэрца сваё і песню,
І словам такім гукаеш,
Яе недзе ў нас на Палессі.

*1979*

* * *

Стыхія і розум дарог,
Натхненне і логіка...
То гнецца дарога ў рог,
То льецца далінай палогаю.

То ў небе вясёлкай ляціць,
То ў моры на хвалі гайдаецца.
То кончыцца сцежкай ласіц,
То выведзе ў землі дальнія...

Як попел у сэрца —
                    пыл
Грукоча ў памяць вандроўную.
Дарогі... На свой капыл
Кожная выраўноўвае...

Вось гэта —
            з ратаем ідзе
Карміцелькай і шчыраўніцаю,
І ўпоплечкі з імі — мой дзень:
Каб ніва шумела пшаніцаю.

А гэту індустрыі бог
Узяў у лейцы жалезныя,
Нагам маім дапамог
Збегчы кавалкам адрэзаным.

А гэту —
          прымроіў паэт:
Начлежны ля вогнішча след.
А гэту —
          неба плыўцы,
Галактыкі і зор лаўцы.
І з імі ўзлятаю таксама я,
І мне вышыня — тая ж самая.

А гэту — гуляка праклаў,
Вясёлую ды віхлястую.
А гэта — падэшвы пякла
Сынам — за вяртанні нячастыя.

Люблю цябе, кніга дарог,
Чытаю, як грэшнік Біблію:
Сам адмаліцца не мог —
Дарогі ачысцяць і выбеляць.

Памогуць мне цені слядоў
Той шлях адшукаць не растрачаны,
Дзе я — за лясамі гадоў —
Блукаў яшчэ ў марах матчыных...

Памогуць вярнуцца.

*1980*

* * *

Я трыццаць год на асфальце,
А ўсё яшчэ цяжка хаджу —
Сутулены,
Нібы за плугам,
Над баразною —
Плечы да сонца.

Іду і ўглядаюся долу,
Каб не наступіць
На краску
Ці на жаўрукова гняздо.

Здаецца, ён выпырхне зараз
З-пад ног падкаваных
І песняй зальецца,
Адводзячы ў неба
Бяду
Ад ямачкі круглай і цёплай,
Што хатай завецца...

Ратуюцца песняю птушкі...

А я ўсё іду,
І смяюцца
Сябры:
Ці не хочаш знайсці ты
Рубель,
Што ўглядаешся гэтак
У шэры панылы асфальт?..

А я ўсё іду нехлямяжа,
Нібыта палескі мядзведзь,
Што ласа да борцяў крадзецца
І думае:
Хоць бы не трэснула
Пад лапай галінка
Па-здрадніцку.

А мёду глынуўшы —
Іду
Вясёлы, з вачыма блакітнымі
І з выраем птушак за пазухай —
На ўсе кантынenты і землі,
Як носў каўчэг.
Вось зараз махну рукавом, —
І выбухне вырай вясновы!

А я ўсё іду —
Як паэт,
Што збіўся з вясковага рытму,
А рытм гарадскі не асвоіў
І на верлібр перайшоў.

Няхай сабе трошкі хістае —
Хадзіць сапраўды я не ўмею
І шаркаць не навучыўся
Па ласкаваных паркетах,
Па дыванах, —
Не ўмею...

Не навучыўся...

І ўсё ж —
Я дзякую богу лясному
І дзякую палевіку,
Што іх навуку запомніў —

Не развучыўся
Хадзіць!

*1980*

## Нязгаснае вяртанне

Экзаменаў прысняцца,
                                        сумятня, —
Трымціш, як маладзенькі ліст у маі,
І як заўсёды нечага не знаеш,
І як заўсёды не хапае дня.

А то яшчэ прысніцца інтэрнат
З тунельна-доўгім, шумным калідорам, —
Нібыта ўсё гудзе студэнцкі форум,
І мы яшчэ сваіх не маем хат,
І кожны кожнаму — і кум,
                                        і сват,
                                                і брат.

*1980*

## Рэха

Вельмі традыцыйны верш
з вечнымі пытаннямі

Ты помніш тыя пралескі,
Дзе сінеюць вочы твае? —
Вочы твае...

Ты помніш той вятрык,
Дзе жыве дыханне тваё? —
Дыханне тваё...

Ты помніш тыя крыніцы,
Дзе бруіцца песня твая? —
Песня твая...

Ты помніш тую расу,
Дзе блукаюць сляды твае? —
Сляды твае....

Ты помніш тыя бярозы,
Дзе шэпчуць крылы твае? —
Крылы твае...

Ты помніш тое світанне,
Дзе спіць усмешка твая? —
Усмешка твая...

Ты помніш той дзень,
Дзе ўзыходзяць надзеі твае? —
Надзеі твае...

Ты помніш тую ноч,
Дзе свяцяцца слёзы твае? —
Слёзы твае...

Ты помніш тое сэрца,
Дзе схавана вясна твая? —
Вясна твая...

Вочы — твае.
Дыханне — тваё.
Песня — твая.
Сляды — твае.
Крылы — твае.
Усмешка — твая.
Надзеі — твае.
Слёзы — твае.
Вясна — твая.

Усё — тваё
Ў гэтым сэрцы.

*1980*

* * *

Два шляхі, два імгненні:
Неадольнасць — і рух.
Ланцугом прыцягнення
Нараджаецца круг.

І ўва мне і ў сусвеце —
Цэнтрабежнасці крык.
Толькі мы ўжо не дзеці.
Вырвем грэшны язык!

Кінем звадкі і плёткі,
Скажам дзякуй вясне,
Дзе быў месяц салодкі,
Што не прыйдзе і ў сне.

Вып'ем горыч да донца,
Пераметем бяду, —
Ля цябе, як ля сонца,
Я па крузе іду.

*1980*

## Завулак Рымарскі

Між камяніц — завулак Рымарскі.
Перасяленне з дня на дзень.
Не сёння — заўтра долу грымнецца
Ад ліпы прадзедаўскай цень.
Куды ж дзявацца —
не залезе ён
На дзевятнаццаты паверх...

...Ссівелы рымар на агледзінах
Хваліў кватэру за памер.
Хваліў за кухню і за лоджыі,
Зірнуў уніз:
— Расцём, расцём:
Амаль на неба ўзлезлі...
От жа як —
Лічы, што райскае жыццё...
Адно, — ўздыхнуў, —
рыштунак выкінуць
На звалку прыйдзецца, бо тут
І месца для яго не звыклае,
І пад увагай кожны кут...
Ды і каму цяпер спатрэбіцца
Хамут у гэтакім раі?..
Было калісьці: ад бясхлебіцы
Бярог.
А зараз — не ў страі.
А зараз коні бесхамутныя.
І дзядзька з Рымарскага ўжо
Не цягне вупраж трохпакутную
За вушы кручаных гужоў.
Дух сырамятны —
толькі ў памяці...
Ды ўнук, сакрэтны інжынер,
Што перад будучым не ў паніцы,
Звышмодны ладзіць інтэр'ер:

Дыск фестывальнай зоркі ў Сопаце,
Рэкламны здымак стылю «брас»,
І ўпобачкі — на самым покуці —
Хамут, нібы святы абраз. —
І ўсё ад Рымарскага...
Котлішча
Гудзе агнямі камяніц.
І назва, як чыёсьці прозвішча —
Глядзіць, забытае, з табліц...
А рымар, прыкусіўшы часцікам,
У сне даводзіць хамуты.
І коні — выкапні сучаснасці —
Шукаюць вечнай мерзлаты.

*1980*

## Памяць

Дай, памяць, сілу мне,
Апору ў крутаверць.
Нікога не міне
І не адпусціць смерць.

Свой тэрмін усяму —
Квітненню і пладам.
Адну цябе вазьму —
Нікому не аддам.

Адну цябе — з сабой:
Зарукаю зямной
Хай жорсткі твой прыбой
Не гасне нада мной.

На стылым рубяжы
Адным мяне ратуй:
Няхай усё, чым жыў,
Мне помніцца адтуль...

Не-не, я не аб тым,
Мне не бяссмерце дай —
Мне толькі аб зямным
Хоць зрэдку нагадай.

Бяспамяцця вякі
З душы хай ападуць:
Цяжкія жарсцвякі —
А мёртвыя жывуць!

*1980*

## Любоў да Айчыны сваёй

Сяўбой і жнівом сагрэтая,
Здабытая потам, раллёй,
Душою і сэрцам апетая —
Любоў да Айчыны сваёй.

Яна не бывае вялікаю,
Яна не бывае малой,
Да мерак яна не звыклая —
Любоў да Айчыны сваёй.

Ёсць альбо не — палавінак
Не склеіш хітрай гульнёй,
Як маці адзіная ў сына —
Любоў да Айчыны сваёй.

Як поле жытнёвае, сціплая —
Не трэба воплескаў ёй,
Ад крыку яна не асіплая —
Любоў да Айчыны сваёй.

Мамінаю хусцінкаю
Свеціцца над зямлёй,
У сэрцы звініць трысцінкаю —
Любоў да Айчыны сваёй.

Яна не бывае адсутнаю,
Яна — назаўжды з табой.
Яна бывае пакутнаю —
Любоў да Айчыны сваёй.

Прыходзіць яна з калыскаю
І не замкнецца труной.
Родніцца з абеліскамі
Любоў да Айчыны сваёй.

Яе не падменіш рэкламаю —
Аплочана ўсё крывёй...
Уславім — нялёгкую самую —
Любоў да Айчыны сваёй.

*1981*

## Агонь

З прыродаю бязмежнай і адвечнай
Я крэўнасць адчуваю праз агонь.
У еднасці — ні меж, ні берагоў,
А ён — як абяцанне на сустрэчу.

Я — космас і пылінка. І між намі —
Адзін агонь. Як вечнасці уток.
Агонь узносіць — за віткам віток —
І ў памяць б'е хатынскімі званамі.

Агонь стварае і агонь руйнуе.
У кропельцы малой — стыхія спіць.
Пытае розум: быць альбо не быць? —
А над усім — адзін агонь пануе.

Згарае атам, і згарае дрэва,
Каб нарадзіцца зноў упершыню.
Натура вечная, а формы — ад агню,
Жыццё расце на сонечных сугрэвах.

Агонь узносіць і агонь звяргае,
То ён вядзе, то спальвае шляхі.
Ды ў выбуховым полымі стыхій
Жыццё расце, жыццё перамагае.

Згарае ўсё. І мы згарым таксама,
З прыродаю зліёмся, каб ізноў
Вярнуцца да вытокаў, да асноў
І пачынаць ад Евы і Адама.

Мы выраслі багамі на планеце,
Нясём у вечнасць розуму сяўню.
І ўсё ж... І ўсё ж — памолімся агню,
Каб ён людзьмі пакінуў нас на свеце.

*1981*

## Узлёт

Нібы сто грамоў запрэглі,
Адпусцілі спакваля —
І назад, назад пабеглі
Травы, кветкі і зямля.
Адстае ілюмінатар —
Так імкліва ўсё ляціць.
І ўжо час — не нам за брата:
Часу час не мае жыць.
І ўжо вечнасць у турбінах
Б'ецца полымем сама.
І ўжо болей ні хвіліны,
Ні секунды ў нас няма...
І трывогу не адолець:
Раптам ён — апошні міг —
Нашым лёсам, нашым болем
Дагарыць — адзін на ўсіх?..
І ў нябесным тым цэйтноце
Ці наладзіцца калі
Абарваная на ўзлёце
Сувязь часу і зямлі?..

*1981*

* * *

Паэта адкрываюць пасля смерці.
Як мумію з егіпецкай грабніцы,
Разглядваюць і пачынаюць дзерці
Бінты з душы, як пер'е з галубіцы.
І ўсе дзівіцца пачынаюць раптам:
— Ляжыць —
                    такі ціхусенькі, рахманы —
Ні капытоў,
                    ні наравістай храпы...
Адкуль жа цуглі і навылет раны?..

Паэта вывучаюць пасля смерці
Філолагі ад коскі і да коскі,
З банкетнымі візіткамі ў канверце
Спраўляюць кандыдацкія дакоскі.
І ў чэрапе прабоіны балістык
Разлічвае з папраўкаю на здраду,
Са скідкай на характар скандаліста
І на цяжар вялікасвецкіх звадак...

Паэта закрываюць пасля смерці
І нібы выганяюць клінам клін —
Стаўляюць свечку: «Паўцякалі чэрці
З душы ягонай, — слава і амін!»
Цвікі ў труну ўгрызаюцца дыхтоўна,
І малаток падтаквае пры гэтым,
Што самая вялікая каштоўнасць
Перад жывымі — мёртвыя паэты.

*1981*

## Тапор

Балада прагрэсу

Як пачынаўся прагрэс?

Рос на зямлі лес.
Лес непрабудны,
лес непраходны,
Лес першабытна-свабодны.

Потым з'явіўся тапор,
Каменны абломак гор.
З'явіўся не сам —
хтосьці мудры прынёс —
І павярнуў чалавецтва лёс.
Бо вялікая сіла — камень,
Калі ён у час пад рукамі!

Шмат зрабіў каменны тапор
Для прагрэсу апор і падпор.
Заадно і людзям з-за вуха
Абухом па галовах бухаў.
Бухаў так,
не дзеля прагрэсу —
Дзеля маральнага інтарэсу.

І хаваліся людзі ў лес.

Гэта быў першабытны стрэс.

Потым стрэс прахапіўся новы:
З-пад ляза ляцелі галовы —
Панаваў жалезны тапор
З плоймай вострых братоў і сясцёр —
Алебардаў, сякір, бердышоў...

А прагрэс наперад ішоў:
Для галоў прыдумалі кулю.

Потым спраўна ў боты абулі —
У вайсковыя — грозны атам.

Тут ужо не схаваешся ў лес...
Прачынаўся атамны стрэс.

А тапор, наш стары памагаты?

Анічога. «Згарнуў» інтарэс:
Навалішся тапор на лес.

З ім пайшла ў падручных піла —
Па ствалах, па камлях загула...

Уразаецца ў нетры прагрэс —
Расступаецца дзікі лес,
Лес непраходны, лес непрабудны, —

Блізка, блізка дзень яго судны...

І калі ўжо не стане лесу —
Значыць, будзе вяршыня прагрэсу.

*1981*

* * *

Я ўчора вельмі любіў
Ката суседскага Марыка,
За вусы яго церабіў
І гладзіў па тварыку.
А сёння на ўгрэве кот
Схапіў зялёную яшчарку.
І той, муркатлівы, рот
Ашчэрыўся раптам пашчаю.
Я крыкнуў, ахвяру баронячы,
Драпежнік задаў драпака.
І доўга на ўгрэве сонечным
Зялёны хвосцік скакаў.
А кот аблізваў мурло,
Не плакаў, не бедаваў,
Яму напляваць было,
Што з яшчаркай я сябраваў.
Я з ёю грэўся ў пясочку
І яйкі ў норцы лічыў...
А зараз мне кожнай ноччу
Кацiныя сняцца лычы...
Не лезь, Маркіз, і не лашчыся:
Я помню зялёную яшчарку.

*1981*

## Сонечны дождж

Весела — пад звонкаю вясёлкай —
Выязджала хмарка з-за лясоў.
Лета перасмяглага асколкі
Шапацелі ў спеласці аўсоў.

Сонцам атачонае прырэчча
Плавала ў сп'янеласці малін.
Гром няспешна грукнуў па-старэчы,
Як забіў у хмарку востры клін.

Раздаліся трэшчыны агніста —
Пырскаў залатых лінуўся рой.
І мільён праменьчыкаў яршыстых
Напярэймы ім ляцеў гурмой.

Шухнуў кропель перагон кароткі:
З кожнае дажджынкі — па цвіку.
І дыхнула лёгка і салодка
Парнасцю ад цёплага пяску.

*1981*



Хто зачэпіцца іх межаў,
Хто чапне іх сны,
Як званы на цёмнай вежы,
Стогнуць курганы.

Янка Купала

На шляхах вялікай даўніны,
На дарогах нашай новай славы —
Над вякамі ўзносяцца яны,
Сцвердзіўшы на бессмяротнасць права;

Над вякамі подзвігаў і страт,
Навальніц крыві і спапялення,
Над вякамі, дзе народ — салдат,
Над вякамі, дзе салдат — сумленне;

Над вякамі здрады і маны,
Што з вякамі соладка глыбее,
Над вякамі, дзе жывуць адны,
А другія — чэзнуць ды гібеюць;

Над вякамі згубленых сцяжын
Да вякамі скрыжаваных ісцін,
Над вякамі — нібы рубяжы,
Дзе шукаў народ да праўды выйсце;

Над вякамі, дзе ляглі сыны, —
Памяці бяссоннымі званамі
Узнімаюць неба курганы,
І гаворыць неба з курганамі.

*1982*

* * *

Хаваючы дзядзьку

Вось ён, часу міраж:
Ні канца, ні пачатку.
І ляжыць дзядзька наш —
Як дакор, як загадка.

Дзе знайсці той адказ?
Чым, скажы, апраўдацца?
Што ты знаеш пра нас —
У каго запытацца?

Карабель на сагнутых плячах
Да якіх адлятае галактык?
І ні знаку ў тваіх вачах:
Дзе ты, што ты і як там?

Невядомасць крыло
Не прыўзніме, не ўсцешыць маною.
Што сасною было,
Стала белай труною...

*1982*

## Калі дадому вяртаешся...

Калі дадому вяртаешся
Жаўруковым, празвоненым полем, —
Капялюш пачціва здымаеш
Перад кожным кустом прыдарожным.

Калі дадому вяртаешся
Лугавою сцяжынкай,
Пратаптанай драчамі і кнігаўкамі, —
Расчулена шэпчашся
З травінкаю кожнай.

Калі дадому вяртаешся,
Руку паціскаеш, як сябру,
Слупу тэлеграфнаму,
І падпяваць пачынаеш яму,
І пахваліш:
— Які басавіты!..

Калі дадому вяртаешся
І вуліцай роднай ідзеш, —
Кожным веснічкам,
Кожнаму ганку:
— Дзень добры! — гукаеш.

Калі дадому вяртаешся, —
Заімшэламу каменю,
Аб які збіваў у дзяцінстве
Босыя ногі,
Ветліва кажаш:
— Прабачце...

*1982*

* * *

Будзь заўсёды, як Радзіма, добры,
Будзь ласкавы, як яе трава,
Будзь высокі, без памкненняў дробных,
Як над полем неба сінява,

Просты будзь, як калыханка маці,
Дбайны будзь, як сейбіт і ратай.
Нават калі ўсё на свеце страціў —
Заклінаю: гэта — не аддай!

*1982*

## Пошук аналогіі

Птушка Фенікс, адраджэння цуд,
Ты з такіх выходзіла пакут? —

На Сатурне ці яшчэ дзе-небудзь
У сузор'і Вадалей ці Лебедзь:

Каб займаўся цень з былога пня
Ці прыходзіў дзень з былога дня?

Каб вяртаўся хто з былых людзей
Да былых спатканняў і надзей?

Каб аднойчы з чорнага вугля
Зноўку нараджалася зямля?..

*1982*

* * *

Млечны Шлях у тысячы званоў
Пазыўныя вечнасці вызвоньвае.
Сэрцам прыпадаю да асноў,
Покуль у запас жыццём не звольнены.

Клопатаў цяжкую чараду
Гэтай зорнай поўначчу бяссоннай
Да зямлі, да маці я вяду,
У пушчанскі край незаімглёны.

Там усё апірышча быцця,
Там усе вышыні і глыбіні,
Там пачатак мой і мой працяг —
У падстрэшшы б'ецца галубіным.

Прыпадаю да травы шчакой,
Вуснамі — да ручая ляснога,
Аблачынку кратаю рукой
Толькі там —
ля роднага парога.

Што мне вечнасць —
я не цар, не Бог...
Сёння я маліўся з баравінаю:
Каб струмень крынічкі не засох,
Каб зямля не стала дамавінаю.

*1982*

* * *

Ці знаеш ты,
Як уначы
Ад нематы
Душа крычыць...

Крычыць аб тым,
Што адцвіло,
Адбушавала,
Адгуло...

Чаго даўным-даўно
Няма,
Пра што забылася
Сама...

Крычыць душа,
Калі адна, —
І тая —
Выпіта да дна.

*1982*

* * *

У Твардоўскага — вочы Гагарына:
І разрэз, і брыва крыло.
Хітравата-задумнае зарыва,
Геніяльнай здагадкі святло.

Вышынёю вочы апалены,
Тым, чаго не пабачыш з зямлі,
І такімі далёкімі далямі,
Дзе мы з вамі яшчэ не былі.

*1982*

## Гэткай ноччу...

Як Адам, ты ў сусвеце адзіны і першы:
Смейся, плач, гавары — сам з сабой.
Гэткай ноччу вар'яцкія пішуцца вершы
І святыя ідуць на разбой.

*1982*

# Слухаючы французскую спявачку Мірэй Мацье

З імшары, дзе дух буяковы
На ягадзе першай п'янніў,
Ручай пад званком жаўруковым
Атожылкам бег васільковым
На ўзмежку прылесся і ніў.
Выкручваў такія завоі,
Нібыта вяртаўся назад.
Ды з мудраю быў галавою:
Да рэчкі трапляў акурат.
У сем кален клекатанне,
У сем ручаёвых — рэй.
Каменьчыкі — як у гартані
Спявачкі Мацье Мірэй...
...Мне дзіўны пабачыўся вырай:
Над стылым бульбянішчам ён,
А клубні на крылах, як гіры, —
Не ўзняцца ніяк з баразён.
Вы ўжо здагадаліся, мусіць?
Вы бачыце? — гэта ж ручай:
Пяском у каўшы захлынуўся
Апошні крынічны адчай.
Глынулі жалезнаю глюгай.
А вельмі ж хацелася жыць...
І цень яго сёння з-пад плуга,
Як днём тым апошнім, бяжыць
Бяжыць недакошанай пожняй,
Губляе таропка сляды,
Як бежанец самы апошні:
За ім — толькі лязгат і дым.
Бяжыць — то падскокам, то бокам,
Шукае, дзе б кусцік які.
А ўслед яму чорным вокам
Зляканa глядзяць буякі...

*1982*

* * *

Патухаюць крыніцы,
Загараецца лес.
Песню вырай прысніцца,
Як па шыі — надрэз...
Дзесьці берагам Ганга
Ходзіць крэўны касач.
Ты ж — куросаннік рангам,
І хоць смейся, хоць плач —
А далей чым на выган
Не ўцячэш ні на міг, —
Ды і то, каб не лыгаў
Да чубатак чужых...
Адлятаюць высока
Хто шнурамі, хто ў клін...
Мой пявун яснавокі,
Я — таксама адзін.
Адцвіло, адзваніла
Лета песню маю.
Вецер ходзіць паныла
Па сухому жніўю.
Будзе доўга кружыцца,
Будзе бегчы амаль —
Перакатамі, быццам
Рэха ў страчаны май.
Абарвецца на строме
Перад снежнай сцяной...
І схаваецца ў комін,
Каб заплакаць са мной.

*1982*

* * *

Бягуць усе —
І мы бяжым.
Куды нясе?
Такі рэжым.

Эпоха, час
Даюць разгон:
Усё для нас —
Аж скабы вон.

На іх амаль
Ужо ідзеш.
Зубоў эмаль —
Хоць камень еш:

Падасца ён,
Як масла брус.
Эпохі звон —
Зубоў саюз:

Счапленняў,
Шэсцерняў,
Акул, —
Зубоў нашэсце,
Зубоў разгул.

Счапленне з векам
На віражы:
Не кукарэкай —
Бяжы, бяжы.

І ты падключан —
Не адставай.
Эпоха вучыць:
— Давай, давай!

Нібы распяцце
На крыжы,
Нібы пракляцце:
Бяжы, бяжы...

З нутром у рожкі —
Бяжым, крычым...

Калі ж мы трошкі
Памаўчым?..

*1982*

* * *

Як ад лёсу, ад хат не ўцячы:
Хоць крыж-накрыж на вокнах дошкі,
Хоць здзічэла брыдзе па начы
Да астылае печы кошка,

Хоць заплёў над дзвярыма павук
Свае сеці для мух няцямкіх,
Хоць без цёплых дзіцячых рук
Іржавеюць астылыя клямкі,

Хоць Адамамі ў гарады —
Нібы ў райскі сад — з пяцісценак
Мы бяжым — прагрэсу плады
Атрасаць па спакуслівых цэнах,

Хоць па клетках глухіх камяніц
Ладзім новага лёсу пачатак,
Нібы пальцы, што з рукавіц
Паразбегліся ў норы пальчатак,

Хоць часамі носім раба
У душы і як сябру верым,
Хоць і знаем: эпохі сяўба
Зерне кідае толькі наперад,

І хоць будучыню за грош
Не збываем нікому, —
ды ўсё ж —

Пасля стрэсаў і рэвалюцый
Мы да хат яшчэ мусім вярнуцца...

*1983*

* * *

Перад судом галоўным,
Перад вялікаю стратай
Не называю віноўных,
Бо знаю: я вінаваты.

Я — вінаваты самы,
Самы пагубца галоўны,
Перад табою, хата,
Што засталася бясслоўнай.

Перад табою, мова,
Перад табою, мама,
Я не збярог ваша слова,
Я — вінаваты самы.

Я не пачуў на радзінах,
Я не спыніў на хаўтурах,
Я не сагрэў — адзінае, —
Што ад смярцей ратуе.

Я не знайшоў такое,
Каб страшным судом судзіла,
Каб не давала спакою
Адступнікам і за магілай.

*1983*

## Песня вечнага аратага

І кожны поле сваё ўзарэ,
Перш чым пайсці да зор...
З ненапісанага верша

Двое нас і два цені —
Полем крочым і крочым...
Дзень усё карацее,
І даўжэе шнурочак.

Конь спацелы натужна
Галавою хітае...
Век загонамі кружым —
І не знаем вяртання...

Прад зямлёй за паслугі
Я ўгінаюся крукам,
Зрocся ўчэпіста з плугам —
Не разняць нашы рукі.

Баразной — грак панылы,
Нібы лёс мой — з падлётам:
Неба ўзняў бы на крылах,
Ды не мае ахвоты...

Так і скача надозір
Па разорах суглею...
А ўжо ноч на парозе —
Хутка сонца датлее...

Поўня дзень мой надточыць,
Каб адолець аблогу...
Ары, ары, мой канёчак,
Да апошняга ўпрогу...

*1983*

* * *

У віхурным покруце дзён
Па астра́гале ўверх дзярэшся,
Ставіш борці, а ўсё не відзён
Рой жаданы з твайго паднябесся.

У бары ад сасны да сасны
Ходзіш з лесвіцай той сукаватай...
Сняцца борцям мядовыя сны,
Мне — гасцямі поўная хата.

І частую ўсіх весела я —
Па калейцы й гуртом — без прымусу.
Кожны госць — гэта песня мая...
Заклікаем сяброўскім хаўрусам:

Сонца, сонца,
Хадзі пад аконца:
І табе ёсць мёду
Поўная калода!..

Адлятаюць мядовыя сны,
Ні кавалачка сонца ў аконцах...
Пачакаем новай вясны —
Мёд салодкі самы на донцы.

*1983*

## На вясну

Вось і люты-лабагрэй
Зарыпеў ля веснiц.
Кот грабецца да дзвярэй,
Стала іншай песня.

Хай пакуль і думаць грэх
Пра юрлівы марац,
А ўжо ён, абраннік стрэх,
Ходзіць з ласым тварам.

Не да печы, не да сну —
Ловіць пахі носік,
Хвост — трубою, на вясну,
Як жазло, узносіць.

Вільчык мроіцца ў цішы,
Просіць адгукнуцца,
І ўжо кошкі на душы
Кожны дзень шкрабуцца...

*1983*

* * *

Заснежаная леснічоўка,
На пяць вянцоў — ледзяшы.
Ні гуку... І раптам шчоўкнуў
Хтосьці ў напятай цішы.
І раз, і другі, і трэці...
Я позіркам да вершалін
Бяроз перабраў усё вецце,
Абшарыў лапы ялін.
Магчыма, злуе вавёрка,
Што ў царства яе зайшоў?
Ці клёст завіхаецца вёрткі,
Кормячы малышоў?..
А праз хвіліну якую
Я сам з сябе рагачу:
Ды гэта ж я кроплі цікую
І пульс капяжа лічу!..
Праверыў: як мой — дакладна
Ў мінуту — семдзесят пяць.
Стаю — абвяснелы і рады,
А кроплі — на снег ляцяць.
І хоць пад вечар марозік
Вяртаўся ў куток лясны,
Я знаў: вясна на парозе,
Здаровы пульс у вясны!
Хай снег таўчэ ў сваёй ступе,
Пяклуецца хай зіма,
Аднак — што вясна наступіць,
Сумненняў ніякіх няма!

*1983*

## Развітанне Каліноўскага

Хто адгадае і хто адкажа, —
Пакуль маўчыць народ,
Якая праўда на сэрца ляжа
Мне праз тысячу год?

Адно толькі знаю: Бог нас пакінуў.
Страшней пятлі і турмы,
Калі мы ўсё яшчэ не краіна:
То край, то ўскраіна мы.

Адно толькі знаю: паўстаць за волю —
Сваю — павінен народ.
Іначай вольным не быць ніколі.
Рэкі ўзрываюць лёд.

Шляхі не купляюць за пяць капеек —
Бяруць іх жыццём сваім.
Бунт не на плошчы — у сэрцы спее
І памірае ў ім.

Пакуль застаецца з нашага стану
Хоць бы адзін жывы,
То не лічыце справу прайгранай.
Народ прад'явіць правы.

*1983*

## Дарогаю Македоніі

Нібы козы, вінаградныя лозы
З пруткім выменем дыбяцца на падпоркі...

Вяза́нкі лісця́ на сушылках —
У за́ценьку, нібы гірлянды...

З падстрэшшаў — струкі
Ледзяшамі гарачымі...

Гармонія светлая гронак...
Філасофія тытуню...
Перцу чырвоны крык
з жоўтымі падгалоскамі...

А паміж небам і паміж зямлёй,
Як паміж сном і рэальнасцю, —
Горы
З абвалам каменнай памяці:

У алкаголь забойства,
У дым папялішчаў,
У маўчанне чырвонай крыві.

*1983*



Табу супрацьлегласці — «ёсць і няма»,
«Усё ў сваёй скуры адвечнай» —
Нікому яшчэ не ўдалося зламаць,
І, зрэшты, ламаць недарэчна.

Адзіны міністр неразгаданых спраў
Дае ў невядомасць візу —
Мой розум, мой козыр між дрэў і траў...
Ды ёсць яшчэ тэлевізар.

Блакітны экран, блакітны каран —
Дзівіся і моўчкі маліся:
Кузюрка паўзе, і аэраплан
Ламае бар'еры ў высях.

Упобачкі ходзяць, ядуць і п'юць,
З жыццём гуляюць у фанты,
Нібыта ношку адну нясуць,
Крывавы Дантэс і Дантэ.

Касметыка з космасам, мітрапаліт
З метрапалітэнам зжыліся,
Як быццам яднае іх не дынаміт,
Як быццам яны сябры ўсе.

Шукаю гармонію —
нельга забыць:
Я — Розум, Адзіны, Вялікі,
Шукаю гармонію —
нельга завыць:
Я — Му́зыка, хоць не музы́ка.

«Усё ў сваёй скуры...»
Спытаю: чаму
Натура мая не збегла

Ў лясы? —
І палец шматзначна ўзніму...
Пачую адно: супрацьлегласць.

Спытаю: чаму адступае снег
І сонца ломіцца ў грудзі?
Пачую: вясна, —
не вялікі грэх:
Было так і, пэўна, будзе.

Хвала супрацьлегласці! Па крылу
Да палюсоў прыбіта...
Здабудзеш славу, бяссмерця імглу —
Ды зорак не зрушыш з арбіты.

*1983*

* * *

Настаўнікаў і пракокаў
Нямала было, ды сплыло —
І ў стылі «ампір» і «барока»,
І ў стыле «вампір» і «сіло».

Вучылі яшчэ да Скарыны,
Вучылі пазней і смялей,
У імя Айца і Сына
Вучылі... і гэтак далей.

Як мовы сваёй пазбыцца,
Як песню сваю забыць.
Ішоў беларус па сталіцах
І словы хаваў, як гарбы.

Бо кожнае з іх яшчэ змалку
Было ў зубаскала ў цане, —
Як кажуць, тваёю палкай
Самому ж табе па спіне.

Па д'ябальскаму тарыфу —
«Прашу, а не то задушу» —
Духоўным плацілі мы тыфам
За светлую нашу душу.

Гудзеў пахавальны форум
Сваіх брахуноў і чужых,
Сумленне забыўшы і сорам,
Не хлеб нам давалі, а жмых.

Было — ды пайшло ўсё прахам,
Засечкаю на ілбе
Усім, хто й па сёння прагне
У слова сядзець на гарбе.

Зазналі — і злых, і нахабных,
І хітруноў, і крыўляк...
«Вучыць бы» — іх сверб неаслабны.
Вучыць бы — вось толькі як?

Наеліся ісцін удосыць,
Наслухаліся мудрацоў.
Патрэбен слову філосаф
Сарамлівы. Як Міша Стральцоў.

*1984*

* * *

Надзея, хісткі човен мой,
Круг ратавальны,
Над бессмяротнаю турмой
Мой знак астральны.

На галактычным рубяжы,
На тым прадонні,
Дзе «жыць» выходзіць «анты-жыць»,
«Ніколі» — «сёння».

У перакуленых вірах —
Сухія смерчы,
У зрэнках зорных — зорны страх
Перад бяссмерцем.

На пералётах незямных,
На вечных трасах,
На тых спатканнях ледзяных
З сабой сам-насам, —

Адна апора тут мая:
Надзею маю,
Што сам сябе сустрэну я —
І не пазнаю.

*1984*

* * *

Як дзіўна ўсё
І нечакана ў гэтым свеце!
Жывеш, жывеш — і раптам адкрываеш:
Кол і калона —
А яно ж, бадай,
Адно і тое...
Так — амаль адно,
Калі зірнуць у корань
І калі...
(Не-не, я тут зусім не са свайго запечка —
Не той выпадак, дзе паэт смяяўся,
Што Апалон славуты з Бельведэра
Здаецца горшым за пячны гаршчок...)
...вось проста так — па сутнасці — паставіць:
Кол і калона... Крэўныя...
І ўсё ж,
Усё ж — неверагодна!
Кол, на якім трымаецца пляцень,
І каланада, скажам, Калізея...
Мачулішча і Рым,
Пляцень і Калізей...
Неверагодна!..

*1984*

* * *

Хто ў век боегаловак і ракет
Схіляць галовы ўздумае бяздумна
Перад Зямлёй, калі ўжо ўвесь сусвет
Паўстаў на нашым скрыжаванні тлумным...

Змірыліся — зямляне, землякі,
Што трэба пакідаць сваю калыску.
Адно не знаем: застануцца з кім
Магілы мацярок і абеліскі.

Хто выйдзе ў поле з першай баразной,
Каб жаўрука шчаслівага паслухаць,
Каму ён скажа, як былой вясной
Было хоць зябка трохі, ды не глуха...

Бяры, Зямля, усё бяры ў запас —
І жніўны спеў, і сонечныя промні, —
Бо хто сагрэе, як не будзе нас,
Хто пра такія дробязі успомніць!..

Глядзіць глабальна час ракетны наш,
Хрыбет ламае звычкам непакорным.
І мы не людзі ўжо — мы экіпаж,
Што пралятае ў холадзе міжзорным.

І месіянскі ход календара
Штодня вяшчуе новага Месію,
Каб росчыркам ракетнага пяра
І раны ўсе і слёзы ўсе асіліць.

Стары-стары, наіўны белы свет,
Няўжо не пакідаеш ты надзеі
На крылах абяскрыленых газет
Зляцець туды, дзе зноў памаладзееш?..

Не трэба так, нс пакідай Зямлі,
Давай, брат, разам завіхацца будзем,
Каб не ўцякаць, каб нашы караблі
Ляцслі расказаць, як добра людзям,

Як мы змаглі адолець чорны час,
Пасеяць праўды і свабоды зерне
На ўсёй Зямлі. І з гэтых зорных трас
Яе ніколі і ніхто не зверне.

*1984*

## Прыпар

### Балада неперспектыўнай вёскі

Што ж гэта вы,
Дзядзькі і цёткі,
Дзяды і бабкі,
Прадзеды і прабабкі, —
Хіба не бачыце,
Як зарастае ў поле дарога,
Як зарастае поле сурэпкай,
Як пражэрлівы «каларадчык»
На вусах з хларафосным смуродам
(Гэты яд яму — нібы цыгарка)
На бульбоўнік выводзіць плойму —
Як і сам — жукоў паласатых, —
Іх бы трэба сабраць у вёдры
Ды спаліць, абліўшы салляркай...

Дзядзька Восіп,
Хіба не бачыш,
Як на печы, дзе грэў ты косці,
Лапушыцца, буяе крапіва,
А насенне з бярозы магільнай
Прарасло на парозе хаты...

Дзядзька Хведар,
А ты не заўважыў,
Як паехалі з селішча сцены
І газетныя моклі шпалеры,
Ад якіх ты шматкі адрываў,
Каб начную зрабіць самакрутку?
Кажуць, хаце тваёй пашэнціла:
Будзе ўжо амаль гараджанкай —
На садова-дачным участку
Будзе трускалкі есці ад пуза
І на градках лічыць гуркі...

Дзед Захар і прапрадзед Аўлас,
Ці вы бачыце, як жураўель
Пахіліўся над студняй запалай,

Што капалі вы на падвор'і,
Каб нашчадкаў стагоддзі паіла?..
І паіла. А зараз не можа,
Бо вада застаялася ў зрубе,
Загнілася — няма каму піць...

Бабка Хіма, пяюха, ты чуеш:
Песень жніўных няма.
Толькі дружна
І натужна грукочуць матары, —
Што жалезу да голасу нашага?!.
Вось таму камбайнёр і маўчыць,
Калі вечарам з поля вяртаецца, —
Знае цвёрда: не перакрычыш.
А прыедзеш дадому — якая
Будзе песня без поля і неба?

Песня там засталася — на полі,
Не спяваная і глухая.
Зімаваць на іржышчы будзе...
Ну а што, як не перазімуе?..

Калыханкі таксама знікаюць:
На ўсю вёску — адзін унук,
Ды і той падкінуты з горада...

Вось дарога і зарастае...

А пажаць, пакасіць усё трэба,
Пакапаць усё трэба і выбраць...

Што ж вы гэта,
Дзядзькі і цёткі,
Што ж вы гэта,
Дзяды і бабкі,
Што ж вы,
Прадзеды і прабабкі,
Што ж вы, мёртвыя, —
Сорам у прыпар
На тым свеце ляжаць і лайдачыць.
Уставайце хутчэй!..

А потым
Мы яшчэ раз па вас пагалосім.

*1984*

## Такі быў знак...

Гербы кавалі шляхта і князі,
Каб дрэва радаслоўнае адзначыць, —
Тады і слава будзе на мазі,
І справа будзе абяцаць удачу!

Пад іх аховай зборышча гуло
На сейміках ад пыхі засцянковай,
На гетмана якраз
акрас было
У захудалым гербе шляхцюковым.

Не трапіў у гербоўнік гэты знак,
І на шчытах не карбаваўся слынных,
І роду ён не знатнага —
аднак:
Стаўляў яго першадрукар Скарына.

Гравюру тонкую выводзіла рука —
Глядзі, люд паспаліты, і кумекай:
У промнях сонца — рог маладзіка:
Як фас і профіль твару чалавека.

Адны казалі: «Гэта ноч і дзень,
Святло і цемра...»
Іншыя: «Францыску
Карцела перадаць зацьмення цень
У год, калі сустрэўся ён з калыскай...»

Мабыць, і так... Але хутчэй за ўсё
Быў маладзік хвіліны думнай знакам,
Што па начах бяссонна мы нясём
Пад спаконвечным кругам Задыяка.

А сонца — сімвал светлы пачуцця
І прамяністы поўдзень летуценняў.
Аблічча двухадзінае жыцця —
Развагі холад і агонь натхнення.

Прыгледзьцеся — заўсёды на мяжы,
Дзе сонечныя вусны, месяц ззяе:
Найперш падумай, а пасля скажы, —
І вучыць ён і перасцерагае.

Затое вочы ў сонца — нібы крык,
Яны ляцяць, як гукі роднай мовы.
І здаўся ўрэшце месяц-маладзік,
І адхінуўся, каб лунала слова!

На той выяве герб — аўтапартрэт:
Друкар Скарына ў сонечным абліччы
Дыктуе веку новы запавет,
Парушыўшы біблейскі строгі звычай.

Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі
Пайшоў у свет, зламаў маўчання крыгі...
Цябе мы — як надзею — зберaглі,
Скарынінскае сонца, наша кніга!

*1984*

## Аб мазалях

Век машынны пачаў забывацца, —
Век машынны, напомніць дазволь:
Што такое мазольная праца,
Што такое, урэшце, мазоль...

Колькі іх — вадзяністых, крывавых —
Распухірваецца на далані,
Аж пакуль не наб'ецца каравы,
Той, сухі, што нібыта з брані.

Той шчырун і штодзённы руплівец
Напаказ пухіром не тырчыць,
Не вылазіць з-пад скуры слівай,
Аб заслугах сваіх не крычыць.

Знаць не знаецца з пазалотай
І не дасць ён жартаўніку
Пасмяяцца: гультай за работу,
А мазоль — тут як тут — за руку.

Вось пра гэты — ходзіць пагудка,
Ад яго і прыслоўі ўсе,
Аб мазольнай нядолі чутку
Ён якраз на ўвесь свет і нясе.

Ён якраз і мазоліць вочы,
І садзіцца на доўгі язык,
Ці на пятку абновай ускочыць,
Як абношваеш чаравік.

Ды яшчэ ёсць «мазоль працоўны» —
Праз рамень перавіслы жывот, —
Гэта самы, кажуць, галоўны,
Што расце і расце з году ў год...

А на той руцэ спрацаванай
Не шукай мазалёў дарма, —
На прасмоленай, адшліфаванай
Не было іх раней і няма!

І таму прашу: век машынны,
З той рукайся заўжды даланёй,
Што ніколі мазольным аршынам
Не вымервала долі сваёй.

Бо на ёй — не таўро, не пракляцце
І зусім, брат, не мазалі, —
Гэта працы вузлы, багацце
Найчаснейшае на зямлі.

*1984*

## Жаўранкі

Амаль балада

Той шнур у полі быў як на пацеху:
Па ярыне — агрэх каля агрэха.
Смяяліся з Данілы нават дзеці:
То плеш, то грыва на зялёнай шчэці.
Як быццам не саха ішла загонам,
А вепрукі ўзаралі шнур ягоны.
Ды не зважаў на кепікі Даніла:
А што — калі з ім неба гаманіла?
І што — хіба не любіць ён парадак?
Зусім, брат, не, — тут проста быў выпадак...
Выпадак, — хоць зусім невыпадковы:
Нарог жытло аб'ехаў жаўрукова.
Гняздзечка з яйкамі пашкадаваў Даніла.
А цераз год такое прываліла,
Што хоць на поле не выходзь з сахою:
Ад жаўранкаў аж не было адбою.
Усе Данілаў шнур аблюбавалі
І гнёзды — ад праталін зладзьбавалі.
«Агрэх — не грэх, — зноў разважаў араты. —
Няхай смяюцца — я не вінаваты...»
І зерне ў глебу кідаў ля наседак...
А песня — напярэймы, песня — следам,
А песня — побач, з-пад мяжы і з неба...
«Ат, і было б там з гэтых латак хлеба...» —
І пасміхаўся: слухаюць суседзі,
Хоць кожны з кпінамі агрэхі ўжо агледзеў...
Стаяў пад небам прадзед мой Даніла —
І за спіною прараcталі крылы.
І цешыўся: «Не пад'ясі ніколі, —
А песня во для ўсіх, над цэлым полем!»

*1984*

## Наша праўда

Я верую, и мне не так больно...

Чэхаўская Ліка з кінафільма
«Сюжет для небольшого рассказа»

Праўда наша была сярмяжная,
Па-дзіцячы была сарамяжная,
Праўда наша — як птушка весняя:
Толькі воляю, толькі песняю,
Праўда шчырая і зычлівая, —
        Гэтым праўда наша шчаслівая.

Праўда наша была бясспрэчная:
Тое ісціннае, што чалавечнае,
З праўдай мы, нібы корань з кронаю,
Кругавою жывём абаронаю,
Праўда крэўная і адзіная, —
        Гэтым праўда наша праўдзівая.

Праўда наша была суровая.
Мы за праўду — на плаху галовамі,
У пятлі з Каліноўскім гінем мы,
Плацім Дальвамі і Хатынямі,
Праўда мужная і нязломная, —
        Гэтым праўда і векапомная.

Векапомная і суровая,
Наша мужная і нязломная, —
        Не была ты ніколі бяздомнаю.
Беларуская, ды не вузкая —
Чалавечная і праўдзівая, —
        Не была ты ніколі шкадліваю.

Сарамяжная, і зычлівая,
І шчаслівая, і сярмяжная, —
        Не была наша праўда прадажнаю.

*1984*

## На дарогах вясны

Хоць яшчэ на лютаўскім замку
Сонцам назапашаная клець —
А пагорак стылую шчаку
Падстаўляе весела пагрэць.

Сочацца з-пад снегу ручайкі,
І ад вераб'інай гаманы
Зазвінеў лядзяш — марозны кій
На дарогах маладой вясны.

*1985*

* * *

Як хочацца падпільнаваць імгненне,
Калі з пупышак выпырхнуць пялёсткі,
Ды не ўцікуеш:
ёсць прадквецця геній,
І ён не любіць лішняй агалоскі.

Ёсць геній таямніцы, і жыве ён
Пад гэтай непрыгляднаю лушчынкай,
Што знікне ўраз, — і дрэва ружавее
І над зямлёй шугае аблачынна.

Тады — усе любуйцеся! І верце
У знак наканаванасці прыроды,
У гэту квецень і ў сваё бяссмерце,
Якое тут — цяпер і назаўсёды.

*1985*

* * *

Люблю той подых лета нясмелы,
Той позірк пралескавы з-за куста,
Калі асіна паружавела,
Калі бяроза на паўліста,

Калі да венікаў вунь як далёка,
Як да замуства ў шаснаццаць год,
Калі вярба, набрынялая сокам,
Скручвае дудку — вадзіць карагод,

Калі пад лотаццю рогат і войкат
Жабы спраўляюць, як сто маладзіц,
І чарнакніжніцай грэшная вольха
Азы пісьмёнаў вясновых цвярдзіць, —

Люблю цябе, майскае перасяленне
Бога вайны ў перуноў чараду,
Люблю цябе, крэўнае зазямленне
Касмічных дум і касмічных душ.

*1985*

## Ліпнёвае

Дзень пчэльны, сонцам поўненькі,
Звініць на цэлы свет.
Крамяныя бульбоўнікі
Аздобіў сіні цвет.

Рыпіць над полем вагамі
Паўдзённая сухмень.
Вусы — піўцо з прысмагаю —
Пагладжвае ячмень.

Зязюля аблінялая
Задыхана ляціць:
«Дзяцей не гадавала я, —
То хто ж падасць мне піць?..»

Бусліха трызніць Афрыкай,
А бусел-целяпень
Навіны тэлеграфныя
Збірае на слупе...

Дзяжурыць ён па графіку
Ў тым, ля дратоў, гняздзе:
«Сюды б мне, кажа, Афрыку,
Як сівер загудзе...»

Папаскаю агульнаю —
З каровамі шпакі:
На лузе панагульвалі
Тугія валлякі.

Да выраю далёкага
Драчы здаюць свой крос.
Спявае і галёкае
Ліпнёвы сенакос.

Дажджы ў хмурынкі рэдзенькай
Сплываюць на хвасце.
І дзеці, як мядзведзікі,
Ў малінавым кусце.

*1985*

## Начное вогнішча

Калі пажніўная бярэцца
Ноч на асенні халадок,
Якім жаданым ён здаецца —
Таемны сонечны грудок.

Якім далёкім і трывожным, —
Глядзіш, як з іншае зямлі...
Мужуюць людзі — і на кожным
Даспехі-водбліскі былін.

На міг шырэе паднябессе,
Калі падкіне хто галля.
А потым вусцішна на ўзлессі
Ізноўку звузіцца зямля.

Іскрынкі ападуць шматкроп'ем,
Як пыл з касмічнага пляча...
Аб чым яны ў той светлай кроплі —
Гамоняць, слухаюць, маўчаць?..

І што за людзі? Ці патрапіш
На добры час, на добры лад?
Ці раптам вылезеш нахрапам
І будзеш лішнім акурат?..

І вабіць вогнішча, і выйсці
Не дазваляе нейкі страх —
Той, першабытны, што калісьці
Згараў падушна ў злых кастрах...

Стаіш, няпэўнасцю схаваны,
Ля заімшэлага камля.
І ўсё ж —ісці наканавана:
Не грэе вогнішча здаля.

А выйдзеш з цемры — і сустрэнеш
І цеплыню, і дабрыню.
І станеш моўчкі на калені:
Паклон — людзям, паклон —агню...

Гарыць касцёр на ўзмежку лета,
Гарыць на ўзлессі, у палях —
Маленькай зоркаю сусвету
І сэнс падказвае, і шлях:

Вось так адкрыцца на дасвецці,
Так добрым словам памагчы,
Паклікаць, абагрэць, прывеціць —
Як тое вогнішча ўначы.

*1985*

* * *

«Як вершы пішуцца? — пытаюць. —
Агонь з вачэй і дым з вушэй?..»

Я ўсёй маёй не знаю тайны.
А вершы — пішуцца цішэй.

Прыходзіць верш безабаронна.
Адзін. Ні продкаў, ні радні...

Яны пасля — хістаюць троны.
Пасля пакутнай цішыні.

*1985*

* * *

Час — ён забаўнік па натуры,
Вузел такі адмысловы сплёў:
Фемінізацыя літаратуры
І хімізацыя палёў...

*1985*

* * *

Апошнія верасня ласкі,
Як загадзя дар за імглу.
Асеннія ціхія краскі
Цярпліва чакаюць пчалу.

Рабіну драздыасядлалі,
Галдзяць і жыруюць усмак,
Як быццам ім дальнія далі,
Разлукі і страты не ў знак.

Гукаецца ўзлессе грыбное,
А рэха ляціць яшчэ ў май.
І раптам сустрэча з вясною
Рэальнаю здасца амаль...

«Ці будзе зіма? — я пытаю. —
Ці ўжо яна даўняя быль?..»
І з кветкі: «Не знаю, не знаю...» —
Плячыма пацiскаў матыль.

*1985*

## Дзяцінства бор

Дзяцінства бор шуміць мне днём асеннім,
Вясной — смалістай песняю гудзе,
Адтуль, дзе мліва Дзед Мароз прасейваў,
Заснежанымі соснамі ідзе.

І на спатканне кліча безупынку.
На голас той і еду, і лячу...
Дзяцінства бор, прысядзем на хвілінку,
З табою на дарогу памаўчу —

Аб тым, што ўжо не вернецца ніколі:
Дзяцінства бор — прыходзіць толькі ў сне...
Бяскрыла спачувае наваколле
Апошняй старадрэвіне-сасне.

Лясіна не даклічацца лясіны,
І воды адышлі ад каранёў,
На салаўя сарока вучыць сына,
І шастае па гнёздах вараннё...

*1985*

## Дзетдомаўцы

Чародкай вераб'інай
Дзяўчынкі, хлапчукі
Палонілі машыну —
Аўтобус гарадскі.

А людзі не ўсміхаліся,
Як водзіцца заўжды, —
Маўчалі ці шапталіся,
Як ля чужой бяды...

Гарэзліва-няўтомныя,
Каленкі ў сіняках —
Сучасныя дзетдомаўцы,
Сіроты пры бацьках, —

Якія вы ўсе розныя
І як падобны ўсе...
Настаўніца пагрозліва
Вачыма гурт пасе.

Паправіць — то каўнерык,
То банцік-матылёк...
А я — вачам не веру,
А я — гляджу здалёк:

Я помню вас, дзетдомаўцы —
З агню, з-пад куль, з вайны, —
Вядомых, невядомых
Бацькоў сваіх сыны.

Вы імі ганарыліся,
Хоць і не зналі іх...

Стаіць хлапчук, жывы лісток
Бацькоў сваіх чужых...

Чупрыну непакорную
Пакінуў белы госць...
І жоўтыя, і чорныя
Таксама трохі ёсць...

Хто ён? Баксёр плячысты?
Піжонскі элемент?
З машной тугою выстар?
Курсант альбо студэнт?..

Адна душа сказала б...
Ды не пачуеш ты:
Душа стаіць вакзалам,
І тлумным, і пустым.

Тут ад цябе запорамі
Замкнёны дзверы ўсе...
І маладосць заворваюць
Маршчыны пакрысе.

Каханне разбасячана,
І хто бярэ віну,
Што ў нас дамы дзіцячыя
Растуць, як у вайну?..

Прыпынак. Без прынукі
Спяшаюцца яны —
Дзетдомаўцы-унукі,
Дзетдомаўцы-сыны.

Шчабечуць, нібы птушкі, —
Ажно зямля пяе —
Дзетдомаўцы-дачушкі
І ўнучкі... А чые?..

Ці злога, ці наіўнага
Кахання
гурт ідзе...
І мама калектыўная
Той ланцужок вядзе.

*1985*

## Зорная просьба

Наш век да лірыкі не схільны:
Што ў небе мройным калясіць,
Дзе поўня бурбалкаю мыльнай
Загадак страчаных вісіць?
Усё там ясна, зразумела,
І ўжо да зор падаць рукой, —
Хто ж будзе іх лічыць нясмела,
Блукаючы па-над ракой?..
Планеты вогнішчаў начлежных,
Смех сенакосных буданоў, —
Ля тэлевізараў улежна
І ўежна дрэмле ўсё даўно...
Ляцім, як мухі на скарынку,
З-пад неба зорнага дамоў:
Нашто спяваць — ад пуза «скрынка»
Дае і песень і прамоў...
Ці паскарэнне, ці старэнне?
Хутчэй ідзём ці ўсё цішэй? —
Ды ёсць пагроза стаць стварэннем,
Што зор не бачыць з-за вушэй,
І хрукнуць: «Атамы, не болей,
У тэрмаядзерным катле...»
...І зоркам не заззяць ніколі,
А толькі так вучона тлець?..
Хай неадольны час імчыцца, —
Каго — не знаю, а прашу:
Вярніце небу таямніцу,
А закаханым — іх душу.

*1985*

* * *

Здаецца, што ўсё напачатку:
Шляхі і жыццяя далягляд,
Ды час прыпляснуў пячатку:
Вяртання няма назад.

Наперад, наперад, наперад —
Да рысы, таемнай для ўсіх,
Якой ні травінцы, ні зверу,
Ні зоркам не перадасі.

Якую ты мусіш адолець,
Каб з юнымі ўсё падзяліць —
І волю, і гэту няволю
Ў свой час каляіну ўступіць...

*1985*

* * *

Мой анёл-ахоўнік,
Няма такіх трывог,
Каб іх табе грахоўна
Перадаверыць мог.
Лічы сабе як хочаш,
Ды толькі мне відней:
Ты шэпчаш «Збочыў, збочыў...»,
А я — ішоў прамей.
Наўслед маёй няўдачы
Не хмурся з-за пляча —
Няўдачу перайначу,
Перамагу адчай.
І не шапчы на вуха,
Не перасцерагай,
І скруху-векавуху
Прыспаць не памагай.
Не пералічвай крокі
І сэрца рытм і лад,
Не выдавай па кроках
Жыццё мне на пракат.
Усё бяру на плечы,
На ўласную душу,
Аб лёсе чалавечым
Апекі не прашу.
Тут, мой анёл-ахоўнік,
Абачлівасць мая, —
Тут буду я вярхоўны,
Галоўны — буду я!

*1985*

* * *

Не, пакуль на касмічным падворку,
На квадраты атак падзеленым,
Хоць адна застанецца зорка —
Застаецца мая надзея.

Столькі знаю я, столькі мне трэба
Перадаць вам, браты невядомыя,
Што тварылася ў нас, пад небам,
Што зрабіла Зямлю бяздомнаю...

І калі ў гэтым свеце горкім
Штосьці вам сказаць не паспею,
За мяне дагавораць зоркі —
Чалавека яны разумеюць.

*1985*

* * *

Усё — як жыццё — выключаецца:
Сонца, вясна, квітненне...
Толькі дождж... Ідзе, не канчаецца —
І ні хвіліны збавення.

І ты ўсё ідзеш. У «ніколі».
У дождж адыходзіш, як вечнасць
У стылую ноч, за якою
Ні будучыні, ні сустрэчы.

*1985*

* * *

А гара з гарой —
Не бяда з бядой...

Горы бачацца —
Ды не сыходзяцца,

Беды сослепу —
Гуртам водзяцца.

Горы хмурацца
Адлучоныя,

Беды журацца
Незлічоныя.

Горы хмурацца
Перад кручамі,

Беды журацца —
Неразлучныя...

Дум расстайных рой —
Як гара з гарой,
А бяду з бядой —
Не разліць вадой...

*1985*

* * *

Крыўды я не лічыў —
Не такога талану.
Ціха раны лячыў
Тым, што быў пастаянны:

І табе, і сабе,
І агульнаму лёсу —
Як жніву і сяўбе,
Як зямлі і нябёсам...

Пастаянства — мой шчыт —
Называеш бяскрыллем...
Пастаянства граніт
Стаў цяжэй надмагілля...

*1985*

## Аднойчы

Любіў калісьці ў неба я глядзець —
На песеннага жаўранка ў зеніце,
Што кропачкай высвечваўся ледзь-ледзь
На промні сонца, выспелага ў жыце.

Любіў калісьці ў неба я глядзець —
На вырай развітальны і няўлоўны, —
І пачынаў паціху сам ляцець,
І сам рабіўся птушкаю бяздомнай.

І так на сэрцы горасна было,
Як быццам ты ў той песні адлятала.
І рэха з неба голасна плыло
І за лясамі глуха ападала.

Яго шукаў, знаходзіў і губляў...
І раптам скалыхнуўся свет аднойчы,
І паплыла за выраем зямля.
І я стаяў прад ноччу. Вочы ў вочы.

І покліч жураўлінае трубы,
І той жа лес — на даляглядзе грэбень,
І той агонь пакутны ў гуках быў,
Ды толькі не было цябе ў тым небе...

*1985*

## Голас

Агнявы мой рубеж, пераправа
Ў небыццё, у бясконцы час.
Ды за мной застаецца права
Іншы раз прыходзіць да вас.

Я іду — як трава — нячутна,
Я іду — як зоры ўначы.
Ваша памяць і ваша сутнасць —
Зноў іду я: перамагчы.

Паглядзець — у сэрцы і ў вочы,
Паглядзець у душы жывых.
І калі хто адстаў ці збочыў —
Я пачую. Раней за ўсіх.

*1985*

* * *

У часе сваім ляціш —
Не вернешся і не пакінеш.
У часе сваім сядзіш,
Як птушанё ў шкарлупіне.

Мільгаюць: май, лістапад —
Язда ў нерухомым вагоне.
Няма вяртання назад,
І будучыню не дагоніш...

*1985*

* * *

Якое малое зярнятка, а ў ім
Трывожна і чуйна космас,
Няспраўджаны, спіць, покуль воляю зім
Снуюцца завейныя кросны.

А дайце надзею вясны і цяпла —
Сузор'е выбухне раптам:
Травінка малая — правобраз крыла,
Крыло — прадчуванне галактык.

Якія мільярды ад зор да Зямлі:
Гады светлавыя — імгненнем.
Пылінкай касмічнай ляцяць караблі:
Няма — і ці будзе — збліжэнне...

А толькі скраніце арбіту Зямлі
На нейкую долю мінуты —
І хопіць, каб мігам агонь спапяліў
Ці холад планету ахутаў...

Якую ж нам тайну касмічную знаць
І мудрасць якую мець трэба,
Каб нашу Зямлю на далонях трымаць
І несці пад сонечным небам...

*1985*

## Купала

Раздарыла сыноў сваіх...
Дастаеўскі, Міцкевіч, Біруля...
З імі голас, і зрок, і слых
Аддавала ў людзі матуля...

Раскідала зярняты свае...
Слыў чылійцам вучоным Дамейка...
Дзе, якая гнёзды віе
Аж за трыдзевяць мораў зямелька?..

Нібы крык — авансцэны абрыў...
І каб маці ўтрапёна маўчала —
Гэтак голасна ў свет гаварыў
Шверубовіч з Вільні — Качалаў...

Хтосьці зблізку забыў... Хто здалёк...
І аднойчы маці сказала:
— Ты збяры, прысаром іх, сынок, —
І тады ў людзі выйшаў Купала.

*1985*

* * *

Замест кашуль з лясістых берагоў
Бетонныя мундзіры шыем рэкам,
І са слупа — цар заліўных лугоў —
Сабраўся бусел пеўнем кукарэкаць.

А што рабіць? Трымайся ля курэй,
Да іхняга прымазвайся карыта,
Калі яшчэ за хвост не аддзярэ
Вунь той пявун, у бойках знакаміты...

Буслова фірма пацярпела крах,
Дзе ён спрадвек адловам жаб валодаў.
Ды, дзякуй, на паўстаўку тэлеграф
Аформіў правяраць громаадводы...

Вось і пяклуйся на слупе з гняздом —
Глядзіш, так-сяк і пераб'ешся з дзецьмі.
А там і пенсію аформіць «Асушком»,
Як пакарэнне ўсёй прыроды здзейснім.

І нейкі спрытны будзе фатакор
Між правадоў цябе здымаць для прэсы:
Як новы дух у вёсцы, як дакор
Усім, хто ные на шляхах прагрэсу.

*1985*

## Так і застаешся чалавекам

Калі пачынаеш прыкідваць,
Колькі яшчэ не адкрыў на зямлі
Таямніц і загадак —
У кожнай расінцы,
У макулінцы кожнай,
У кожнай слязінцы...

А яшчэ дадасі, колькі там іх, сакрэтаў,
Дзе ты думкай і то не сягаў,
Бо нельга пра тое падумаць,
Чаго ты не знаў і не знаеш...

Калі ўсё гэта разам складзеш —
Хочацца Богам зрабіцца,
Зразумела, міфічным,
Тым, якога няма
І з якога смяёмся,
Ды якому вядома і ўсё зразумела
На свеце...

Але тут жа згадаеш:
А колькі яшчэ застаецца
Аблогі,
Не ўзнятай нарогам,
Колькі трэба засеяць,
А потым пажаць, змалаціць...

А тут яшчэ ўчуеш:
Карова мычыць,
Свінні рохкаюць,
Куры сакочуць, —
Трэба ўсіх накарміць, напаіць,
Бо інакш яны знацца з табой не захочуць...

Калі ўсё гэта ўспомніш —
За шапку хапаешся,

Кажушок ці куфайку —
Словам, тое, што ёсць пры даробку тваім —
Ускінеш на плечы
І, адклаўшы да свята наступнага
Боскія тыя замашкі,
Неадкладную працу абрупіць бяжыш,
Бо, выходзіць, не толькі Богам —
Трэба крышку пабыць чалавекам...

Так штодня, так штодня
Застаешся ім назаўсёды.

*1985*

## Поле

Поле — не толькі зямля,
Гэта і неба, і ветрык,
І васілёк, што здаля
Свеціць душою прыветнай.

Гэта і жаўранка спеў —
Першынца хмаркі вясёлай,
Гэта надзеі пасеў,
Мудрасці жніўная школа.

Гэта і дождж, што ідзе,
Каб з ярынай паяднацца,
Гэта бяссонне людзей
І хлебадайная праца.

Поле — не поле без нас.
І перапёлкаю ў жыце
Кліча:
            — У першы свой клас, —
Дзеці, у поле бяжыце!

*1985*

# Я на гэтым сусветным базары...

* * *

Я на гэтым сусветным базары,
Як у сівер на золкім юры,
І апора адзіная зараз —
Голас твой, — гавары, гавары...

Цераз моры і кантыненты
Ён ляціць — як надзеі птах, —
Што міністры і што прэзідэнты,
Што яму гэты блазенскі жах

Перад чынам і перад кар'ерай,
Перад шанцам плюхнуцца ўніз, —
У яго ёсць свае намеры:
Прыляцеў і сеў на карніз,

Потым скокнуў і крыльцамі ў шыбу
Пазваніў і пачаў шчабятаць, —
І якія граніцы маглі быць,
Каб стрымаць яго і пераняць?! —

Калі ён так спяшаўся, так верыў,
Што пачую, вазьму на руку:
— Гаварунчык, разбойнічак шэры,
Пашапчы і дыхні на шчаку...

Затрапечацца сэрца, заные:
Дзе там песні блукаюць мае?
Як там займішчы нашы грыбныя?
Што там шпак на бярозе пяе?..

Адляцеў? Ах, прабач, што забыўся:
Там жа час адлятаць, сапраўды...
Я прашу: паспяшайся, не збіся
І на сэрцы развей халады.

Вось табе спадарожнік аддадзены —
Голас мой... І пайшлі стрымгалоў,
І ляцяць над сівым акіянам
Два крылатыя птахі дамоў...

## Сустрэча з пеўнем

У цэнтры Нью-Йорка з музейнай цішы
Ён выскачыў раптам насустрач:
Як дзве журавінкі, вачэй спарышы,
Гарласты,
задзірысты,
шустры,
Чырвоныя грудкі, грабеньчык гарыць,
Як полымя лямпы-газнічкі...

А толькі ж учора мы з ім на двары
Зярнят пералічвалі знічкі:

З Мачулішча ўсіх пасклікаў ён курэй,
Я сыпаў за жменяю жменю...
І тут бы сыпнуў, ды, браток, зразумей:
Не маю ў Нью-Йорку ячменю...

Глядзіць на мяне...
— Ну, здарова, стрыгун!
А ён плечукамі пацікнуў:
— Прабач, ды па-вашаму я — ні гу-гу,
Дакладней, як ты па-англійску...
Скажу, што не дужа ў ёй моцны і я,
Каб доўгі разводзіць дыспут...
Стаю тут, а ў джунглях далёкіх — сям'я, —
Вунь, бачыш, Маркізскія выспы?..

Зірнуў я на карту: ляжыць акіян —
Блакітны, Вялікі і Ціхі,
А ў цэнтры яго — астраўкоў каляя,
Закінутых нейкім ліхам...

Як быццам на двор акіянскі зярнят
Сыпнуў хто курам са ступы...
— Ды як жа адтуль ты сюды акурат
Даплыў, даляцеў ці датупаў?

— Ды, кажуць, калісьці і хтосьці мяне
На дыспут вучоны засватаў.
А быў я, напэўна, у добрай цане —
Пакінулі тут — экспанатам...

Вось так і стаю за шкляною сцяной
З муляжнаю зграяй у згодзе...
— Дык што ж ты тут пылішся?! Пойдзем са мной:
І ў нас акадэмію знойдзем!

Пры голасе гэткім і гэткім хвасце
Мсў тэму б і вёў бы палеміку.
У нас бы ў вучоных даўно ужо тлусцеў —
Членкорам, а то й акадэмікам!..

Збірайся хутчэй — не сумуй, як цямнік
За тоўстай сцяною астрожнай.
— Дык я ж экспанат, цвёрда ўзяты на ўлік,
Ды плюс нежывы, — мне няможна...

— Ну што ж, разумею, — служыць можна й тут
Вучонай справе цвярозай,
Адно, каб, пакінуўшы Галівуд,
Палітыкі мелі розум...

Давай з-за вітрыны ўзляцім на страху
І не кукарэкнем — а грымнем
Аб тым, што мудрэйшымі быць крыху
І прэзідэнты павінны!..

## Д'ябальскі матыў

Будзе, будзе апошні падман —
Здрыганецца юдоль зямная:
Я такі напішу раман,
Што ніхто сам сябе не пазнае.

Будзе змей абаронцам людзей,
А герой — у вярыгах разбойных.
Будзе слёзы ліць ліхадзей
На палях забойстваў і войнаў.
Будзе маці сына люляць,
Што расце да крытычнай масы.
Будзе першынца Першынгам зваць,
Будзе гулькаць ён атамным басам.
Будзе воўк бараніць ваўка
За сталом Раз'яднаных Нацый,
Будзе «за» залатая рука
Паслухмяна, як штык, узнімацца.
Будзе задам наперад хадзіць
Скамарох з галівудскім рэхам,
Да варот будзе с бомбай рабіць,
Як у рэгбі з мячыкам, рэйды...
Кажуць, хоча зямля быць святой, —
Дык не будзе — не будзе ніколі!..
Буду я ў містэрыі той
Раздаваць, як рахункі, ролі.
Будзе ўсё там з майго пляча,
А пашыта — па вашай фігуры.
Будзе свет у пустыні крычаць
І смяяцца на ўласных хаўтурах.

* * *

Асенняе шматкроп'е журавоў
Злятае ў вечнасць са старонак неба,
Пакінуўшы шматзначна без правоў
Пражыты дзень, як парастак без глебы...

А заўтрашні? Як прачытаць яго?
Хто разгадае тайныя пісьмёны,
Што праступаюць з дальніх берагоў
Тым развітальным крыкам заімглёных?..

Мінулае рукі не падае,
А будучае дзесьці за вякамі.
Апошні клін у небе растае,
Жыццё маё смяротна рассякае...

## Шукаю Богшу

Амерыка ўлюбёная ў музеі, —
Я гэту схільнасць сведчу і хвалю:
Ідуць — сустрэцца з ценем Калізея,
Ці моўчкі пазайздросціць каралю —

Людовіку якому альбо Карлу,
Ці зазірнуць у экзатычны кут...
Хаджу і я. Але шукаю марна
Вачыма негра ці індзейца тут...

Няма. І не ідуць сюды ніколі...
Няўжо не вабіць экспанатны рай?
Ды тут жа іх жыццё, былая воля:
То Афрыка, то інкаў даўні край...

Бязродныя, сумуюць экспанаты,
Ні крэўных твараў тут, ні гаманы...
Затое белых — аж ці не занадта.
Між іх і я — б'ю ў памяці званы...

І ўсё карціць: а раптам побач з Босхам,
Альбо з Радэнам, ці яшчэ там з кім
Славуты майстар — палачанін Богша —
Гукне на дапамогу праз вякі...

Украдзены рукою заграбастай,
Ніхто не знае, дзе з вайны асеў
Крыж Ефрасінні Полацкай, што майстар
Адштукаваў — як гімн самой красе.

А хто, калі зрабіў яго трафеем, —
І кажуць, крыж сюды закінуў лёс...
Магчыма ўсё... Во — паглядзі: Ракфелер
Паў-Афрыкі, напэўна, перавёз...

Шукаю Богшу і гукаю Богшу...
Малюся Апалону:
— Блаславі
І абысці дапамажы мне, Божа,
Музей — твой храм на поце і крыві...



Мы — Багі, несмяротныя мы
У вачах матылькоў-аднадзёнак,
І наш смех — землятрусаў грамы,
А дыханне — віхур мільёны.

Пыл світальны змахне матылёк
З крыльцаў кволых — і круг замкнецца.
Як у новы сусвет кожны крок,
Кожны рух наш яму здаецца...

А «багі» шукаюць Багоў —
Для сябе, бо ўпэўніцца хочуць:
Як жа свет гэты — без берагоў?
Як жа час — без дня і без ночы?

Нехта ж ёсць, каб адмерваць усё?
Нехта ж столькі загадак пакінуў?..
Іх пакутны цяжар мы нясём, —
Пачакай, матылёк, хвіліну...

## Развітальнае

Я з неба гляджу, як анёл,
На грэшных віроў тваіх за́верці...
І добрае, і насланнё —
Не тоне бязгучна ў памяці.

Не раз, пэўна, буду і я
Ісці да цябе напамінам:
Ёсць людзі, і ёсць зямля,
І выжыць яны павінны.

Усё зразумей, Нью-Йорк, —
Для гэтага і сустракаліся,
Хоць дзень мой чаканнем прагорк
І дома — мяне зачакаліся.

У дружбе сардэчнай з табой
На ростані мы не кляліся.
Жыві, Нью-Йорк, сам сабой.
А я — уразаюся ў высі.

І слёз развітальных няма.
Хоць можна было б і расчуліцца...
Бывай — і руку трымай.
А мне ўжо — відно Мачулішча!

* * *

Змые ўсё навальнічнай паводкай
Час — і думы, і кнігі, і мары.
Прашумяць ля дарогі кароткай
Першацветных палян пажары.

Ні вясны, ні зімы, ні лета.
Нават восень прыйсці не захоча...
Застанецца адно — над сусветам
Мацярок нашых ціхія вочы...

*1985,*
*Нью-Йорк*



Два ўзгоркі вёсачка мая
Галоўнейшымі лічыць:
Пагост магільны і маяк —
Прыцэл картаграфічны.

Стаяць упоручкі яны:
Адзін — прагрэсу база,
Другі — як сведка даўніны,
Загадка без адказу.

Як запытальнікі стаяць:
Парогаў невядомых
І адкрыцця... Не раз'яднаць,
Не зблізіць іх нікому...

Дзве кропкі побач. З вышыні
Іх сціплай — на паўсвету
Відно. Адно не праміні
Сцяжынку ў жыцце светлым.

Яна выводзіць, нібы лёс,
Ці, як жыццё, — на грэбень,
Адкуль зямлі пакутны плёс
Цячэ-ліецца ў неба...

І бачыш сэнс усіх дарог,
Усіх удач нязбытных:
Яго данёс, яго зберог
Вось гэты колас жытні...

Стаіш у поля на віду,
А ўзбоч — крыжы, як люстры:
Ці не пускаюць, ці ідуць
З абдымкамі насустрач?..

*1986*

* * *

Не знаю, якою адводзіць рукой
Землетрасенні гневу:
Ці ўспомніш падставіцца правай шчакой,
Калі нехта ўрэжа па левай?..

На меч разбойны —
праведны меч
Расплата рашуча ўзнімае.
Таго ж, хто з бою ўцякае прэч,
Судзіць пагарда нямая.

З якіх патаемных віруюць глыбінь
Крывавых памкненняў загады,
Адкуль імгненні, калі «не убий»
Гучыць, як чорная здрада?..

І распірае адпомсткі гром, —
Здаецца, што неба трэсне...
А творыцца ўсё ж дабро дабром,
І песню прыводзіць песня.

*1986*

## Аб'ява

Перакупшчыкі-старызнікі,
Аддаю свае гады —
Задарма, з адзінай рызыкай:
Зноў бы вырвацца туды,

Дзе ні рыфмаў, ні паседжанняў,
Дзе ні рыфаў, ні віроў,
Ні вымоў, ні папярэджанняў,
Ні прамоў на «будзь здароў!»,

Дзе суседкаю-сквалыгаю
Не спайманы ў агурках,
Па аблоках, як па выгане,
Ходзіць хлопчык на руках...

*1986*

* * *

Ці прашэпча космасам жыта,
Ці пагост небыццём дыхне, —
Колькі іх — невядомых, забытых —
Як у нейкім бясконцым сне...

І толькі даты трымаем на ўліку,
Выстаўляючы праз вякі —
Гісторыяй зношаныя чаравікі,
Чалавецтва чарнавікі.

*1986*

* * *

Так наступаюць гарады
З жалезным подыхам і віскам:
Стаяць здзічэлыя сады
На Ляхаўцы, у цэнтры Мінска.

Іх зацвітання па вясне
Даўно ніхто не выглядае.
Стаіць — мелодыяй Маснэ —
Бярозак пара маладая.

Ці закаханы пасадзіў,
Ці хто вяселле так адзначыў,
Ці хто двайнятак нарадзіў...
Цяпер тут выгулак сабачы —

Пустыр між дымных камяніц,
Дзе робіць лукавіну Свіслач...
Вынюхвае па сёння шпіц
Падскварак дух, што тут завіснуў...

І ўспамінаюць снегіры
Расказ дзядоў чырванагрудых,
Як іх кармілі на двары, —
Успамінаюць, нібы цуда...

А лукавіну, як пятлю
Пад'ёмны кран ужо гайдае...
Я вас не ўсцешу, хоць люблю,
Бярозак пара маладая...

*1986*

* * *

Гадзіннікі не цікаюць —
Гадзіннікі ўцякаюць.
І каюцца вялікія,
І трыумфуе Каін.

Хоць інтэграл — не інтрыган
І ў суму свет збірае,
Ды рассыпаецца курган —
Гісторыя зямная.

І Цыялкоўскі прадказаў:
Зямлю пакінем з часам.
Яна — транзітны наш вакзал
На галактычных трасах.

Бягуць гадзіннікі, бягуць
І тло перасыпаюць.
І ўжо да новых зор нясуць
Наш лёс і нашу памяць...

Стаў матэматыкам паэт,
Паэтам — матэматык...
Ды нехта ж той купіў білет,
І нехта ж вінаваты?..

Бягуць гадзіннікі... Зямля
Нібыта ўжо ў ламбардзе
Закладзена... Ды нам здаля
Не крыкнула ў пагардзе:

«Няўжо вы здрадзіце? Няўжо
Ўсё чалавецтва — Каін?..»
...Не вер, Зямля!.. Мы зберажом
Цябе перад вякамі.

Мы парываемся ў Сусвет,
А ён — дамоў вяртае.
Не — Лабачэўскі знаў сакрэт:
Прамая ёсць крывая.

Навошта ж — горкую ад ран —
Мяняць нам хату трэба?
Абмен касмічны той — абман:
Не мае лепшай неба.

*1986*



Калісьці ж была і над Талінкай
Вясна. І цвіла, і гула.
І кожная ў лесе прагалінка
Шумела паводкай крыла.

Маленні спраўлялі на чысціках
Глушцы і цецерукі.
Выводзіла пушча плячыстая
На бераг маладнякі...

Дзе тая скакуха-рачулка
З разлівамі лотаці ўсцяж,
Глыбасты на нерасце гулкім
Хрыбет шчупака, нібы краж?

Дзе тыя віры і мачылы
Пад восеньскі лён-самапрад?
Якою сцплылі аблачынай
Вяснянкі і скокі дзяўчат?

Куды адляцелі крыніцы,
Натхненне чыё берагуць,
І вокам вясёлым брусніцы
Гарэзна каму падміргнуць?..

Усіх прывяло асушэнне
Да ладу, змаглю і ўняло...
Набіць абяцала кішэню
Дабром, ды і тое сплыло...

Дзе песціўся ветрык-гарэза —
Вятроў віхрагонны алюр.
Пясчаныя лысіны лезуць
З-пад тарфяных шавялюр.

Падаўся глушэц ў расстрыгі,
А цецярук свой талмуд
І іншыя мудрыя кнігі
Здаў у «Палессеводбуд».

*1986*

## У спёку

Чакалі-зачакаліся:
Смыляць нябёсы нізкія,
Ад каліўца да каліўца
Сухмень страляе іскрамі.

Хто і куды скіроўвае
Хмурынкі неспадзеўныя?
Плывуць, як папяровыя,
Інструкцыі залеўныя...

І ўсё ж, нарэшце, хлынула,
Ушпарыла, зацокала!
Бяжыць сухмень палынная,
Ратуючыся ўцёкамі.

Над парыжэлым выганам,
Скапычаным каровамі,
Вясёлка шлангі выгнула
І хмары напампоўвае.

Дажджынкі, як астрожнік, я
Лаўлю, сабе не верачы,
За крэску срэбра кожную
Хапаюся аберучкі.

Смяюся — і хапаюся —
Тапельцам за саломінку.
З дажджом перамаўляюся
Па навальнічным слоўніку.

Ліецца і струменіцца
Вадзіца выратоўная,
П'е выган і аселіца,
Звіняць капытцы поўныя!..

Глыні з таго капыціка,
Як брат Алёнчын некалі
У казцы, — і хоць ныцік ты,
А козлікам замэкаеш!

*1986*

## Лета трывожных дажджоў

Ліпнёвую ноч бліскавіц паясы
Святлом абпраменьваюць рэдкім.
Ігліцай нейтроннай іскрацца лясы,
Чарнобылем пахнуць кветкі.

Сухое чаканне трывожных дажджоў
Стаіць на покуці ў лета.
Распяты на ценях касмічных крыжоў,
Бяздомна лячу над планетай.

«Што я нарабіў, — праклінаю сябе, —
Якія бяздонныя сілы
Я выпусціў, покуль бяздумна гарбеў
Над тайнаю, як над магілай...

Вазьміце, вазьміце ўсю тайну маю
За той васілёчак у жыце...
Я сам сябе — сам сябе! — не пазнаю:
Я д'ябал ці Бог — адкажыце...»

Ды глуха глытаючы вечнасці шум,
Нямко з электронным блокам,
Як смерць, адзінокі, глядзіць у душу
Гадзіннік трынаццатым вокам...

*1986*

## Аднастайнасць

Быт — ён упарты, як бык,
Ілбом у сцяну ўвапрэцца, —
Глядзіш, і застыў, і абвык,
І некуды болей падзецца.

А маеш чатыры сцяны,
То можаш мяняць раз за разам,
І пойдуць штомесяц яны
Па крузе, як месяца фазы...

Паўзе аднастайнасці воз,
Уласным гарбом прыдбаны:
На службе ёсць бос, і дома ёсць бос,
І трэці — з блакітным экранам.

Ні спрэчак былых — хто лявей, хто правей,
Ні слёз, ні эмоцый адмоўных.
І ўжо галасісты былы салавей
Спявае табе галаслоўна.

Прачнецца душа, — як сабака, праз глуш
На пятую квадру галосіць.
А месяц нязменна, як верны муж, —
То лысы, то раганосец...

*1986*



Смерць не бывае завочнай
І ананімнай таксама, —
Прыходзіць штодня і штоночы
Па адрасе, без тэлеграмы.

Прыходзіць яна раптоўна,
Прыходзіць пакутна і доўга.
Мы ўсе сустрэцца гатовы —
Вось толькі калі, невядома.

І ў тым паратунак... А сёння
Мы самі дзень назначаем —
То «грыбам», то «парасонам»
Мы воблік яе велічаем.

Разлічана ўсё, і антэны
Ў абдымках трымаюць нервовых
І нас, як акцёраў на сцэне,
І думкі нашы, і словы...

Аб тым, што стрэслася ўчора,
Каму ты раскажаш, камп'ютэр,
Калі ў нішто ператворыш
І нас, і смерць, і пакуты...

У позірку мутным дысплея
Перамогам якім адбівацца,
Калі на руінах датлее
Апошняя з цывілізацый...

І плёнам якім выхваляцца,
Якім трыумфам свяціцца,
Апошняе будзе вар'яцтва —
Апошняя з інквізіцый.

Жахнуцца вякі-панятыя,
Як заўтра згараць шляхі ўсе,
І паміраць будуць тыя,
Хто сёння не нарадзіўся.

*1986*

* * *

Фантазій Бог і помыслаў высокіх
Спусціўся з неба, а лясы далі
Развагі сілу і гаючым сокам
Маёй душы крыніцу налілі.

З палёў жытнёвых — шырыня, і воля,
І хлебадайнай працы неспакой,
З лугоў — касьбы вясёлае раздолле,
А з песняю — сустрэўся над ракой...

Тады скажыце мне: з якой нагоды
Мяне хрысцілі тут валадаром?
Я сын, я сэнс, я дух жывы прыроды.
Астатняе — вучонасці сіндром.

*1986*

* * *

Плылі, плылі гусанькі
    Ціхаю вадою,
Чарадою гусценькай,
    Гукаючы долю.

З песенькай чаротнаю
    Бегла над затокай
Курачка балотная
    Юнаю літоўкай —

Доўгія і стрункія
    Стракацелі ножкі,
Мох-вядун карункамі
    Высцілаў дарожкі...

Бегла-падлятала,
    Як па сухадоле,
Бегла-падрастала,
    Карацеў падолік.

Гуска-беларуска,
    Ліцвінка-чарацінка —
У вачах дзічынка,
    У нагах чарцінка...

Вы куды схаваліся,
    Вы куды сплылі ўсе?..
...Моўчкі ў шэрай далечы
    Цень ракі імгліўся...

І пятак збіты,
    За рубель нажыты,
З веліччу пыхлівай
Ехаў, нібы з mліва, —
    Па дарозе пыльнай
    На сухой кабыле...

*1986*

## Аэраматыў

Самалёт убірае шасі —
Ногі ў круглых, гумовых красоўках.
Турбінная сіла, нясі
Да сфер недасяжна высокіх...

Як Бог, як сусвету ўладар —
Любуюся ў ілюмінатар:
То вёска праскоча між хмар
І ўсцяж баразны — араты,

То працы людское гады,
Цывілізацый гены,
Спрасаваныя ў гарады,
Мільгнуць пад крылом імгненна, —

Ляціць і ляціць шар зямны...
І там недзе я — маленькі —
Далёка, яшчэ да вайны,
Валюся, збіваю каленкі —

Але ў захапленні бягу
За самалётам па лузе...
І ніяк дагнаць не магу,
І ніколі назад не вярнуся...

*1986*



*Генадзю Бураўкіну*

Адкуль прыводзіць сонечны заход
Шчымлівых дум нястройныя чароды?..
Як быццам свет над прорвай стаў на дрот:
Ці пройдзе, ці сарвецца назаўсёды?

Ніхто не знае — ні чарот сівы,
Ні плёс з адбіткам аблачын чырвоных, —
Адкуль у неба гэткія правы,
Каб наш пагляд палоніць заімглёны?

Куды ляціш, маўклівы чалавек,
За чым імкнешся? Сонца зноў узыдзе.
— Я не за ім — я сам шляхі адсек
І толькі на сябе за гэта ў крыўдзе.

Яшчэ крыўдую, можа, на зямлю:
Што так яна мяне прываражыла,
Што так яе пакутна я люблю,
Што так намёртва мне звязала крылы...

Як гэтай рэчцы не спазнаць намер,
З якім яна плыве да акіяна, —
Так з берагоў яе імкне цяпер
Мой думны позірк, мной не разгаданы,

Да рысы той, дзе неба і зямля
У полымі сыходзяцца вячэрнім...
І смутак мой — бо гэта знаю я —
Што ад зямлі не будзе адрачэння...

Гляджу на развітальную зару,
Што лёс мой даляглядам перасекла,
І не малюся — з небам гавару.
А гэты міг — дастойны чалавека.

*1986*

* * *

Час — без пачатку і канца...
І што на вагах перацягне:
Ці груз мінулага, дзе цар —
Смяротны змрок, вякоў суцяга,

Ці ўяўнай будучыні свет,
Якому без мяне збывацца?..
Ніхто не ўзважыць... І сакрэт
Нам не спяшае адкрывацца.

Адно — забылася даўно,
Маўчыць знямела, глуха, пуста...
Ці, можа, зноў ляціць яно
Да нас, як з люстра цень, насустрач?

Гняце другое небыццём
За недаступным пераваламі...
Хто знае: можа, там змяцём
Мы тло, каб зноў жыццё шугала?..

І, можа, мінус тут ёсць плюс,
І пераставіць іх няцяжка:
Уяўнай будучыні груз
І цень мінулага бязважкі?..

Ці разбягаюцца яны,
Ці самаедамі — па крузе —
Імчаць?.. А ў цэнтры, як чаўны,
Калыскі з вечнасцю ў хаўрусе.

І паміж іх, як хвалі ўсплёск,
Адна знаёмая ўзлятае —
Выпадак ці касмічны лёс? —
Яна мая, яна пустая.

Як знак пытання паміж зор
Плач у бясконцасці згубіўся:
Ці я даўным-даўно памёр,
Ці я — яшчэ не нарадзіўся?..

*1986*

* * *

Ты да мяне жывы прыйшоў у сне.
Не проста так, самотны час прабавіць.
Прыйшоў адтуль — адкрыць такое мне,
Чаго не знае чалавецтва памяць.
Чаго і з будучых вякоў не прынясе
Ніхто... І я да тайны быў гатовы,
Перад якой — нішто зямныя ўсе.
І ўсе нябесныя. Ды не пачуў я слова...
Не знаю, хто не даў табе сказаць.
І хто мяне будзіў, я не пабачыў.
Не дадзена жывому тое знаць, —
І ты мяне пашкадаваў, няйначай.

І засталася тайна
За той мяжой
Нямым пытаннем:
— Няўжо? Няўжо?..

*1986*

* * *

Я хачу, каб народ мой мяне пачуў.
Я не вечнасці, я не славы,
Не бяссмерця сабе хачу, —
Я не маю на гэта права.

Я хачу праз міраж даляглядаў шкляных
З цьмянай мудрасцю сімвалістаў
І праз гімн перфакарты наступнікаў іх
Прабівацца крыніцай бруістай.

Я хачу, каб слова маё жыло,
Каб яно праз вякі праляцела,
Каб дзяржаве не ў сорам яно было,
Каб не ў вокладках пыльных мярцвела.

Каб далёкі нашчадак мяне разумеў
Без пасрэднікаў нудна-вучоных,
Каб не выкапнем стылым мой сказ бранзавеў
І не быў між дзівосаў пячорных.

Не хачу, каб гісторыя нас узяла
Ў прыклад іншым страшнай цаною, —
Я хачу, каб мова мая жыла
І жывы мой народ размаўляў са мною.

*1986*

## Калядная песня
## ў пячоры

*Міхасю Дрынеўскаму*

Ні сёння, ні заўтра, ні ўчора, —
Згубіўся зняверапы час.
Калядная песня ў пячоры
На неба узводзіла нас.

«Адкуль вы і хто вы, дзяўчаты?» —
Пытаўся каменны дракон.
А тыя нібыта на свята
Стаялі ля светлых вакон.

Кружыліся гукі, як гусі,
І рэха нясла ў далянях
На голас маёй Беларусі
Славенскай зямлі глыбіня.

То бралася змрокам вячэрнім,
То смехам будзіла гару
Вясёлых правін адпушчэнне
З паклонамі гаспадару:

«Ды няма ні ў кога
Каня такога...» —

Марозна звінелі падковы,
Высвіствалі палазы,
І светла вяла Міранкова
Святлана дзяўчат галасы.

Гулялі завейна пагляды,
Люлялі калядніцы ціш, —
Сустрэнься з такой на Каляды —
І ў пекле па-райску згарыш!..

«Ды няма ні ў кога
Двору такога...» —

Забыты дарогі, атэлі:
Падземная зала была
Тым дворам, дзе сэрцы святлелі...
І плакала ў змроку скала.

І грэшны анёл з падзямелля —
Маэстра — натхнёна ляцеў...
І ўсе святыя нямелі,
І кожны быць грэшным хацеў!..

*1986*

* * *

Цыганка з мікрафонам у руцэ,
Як рыбка ў прахімічанай рацэ.
        Як рыбка залатая
        У нераце прагрэсу.
        Падолік узлятае
        З нейлонным інтарэсам.
І рытмы выбівае не абцас,
А кантрабас, узяты на папас:
        З іржаннем электронным,
        Абменены ці ўкрадзены,
        На кірмашы каронным
        Пакуль што не прададзены, —
Адно ці зможа гэты блудны конь
З душы цыганскай выкрасаць агонь?
        Шнур мікрафонны туга
        Спятляў і дух, і цела,
        І не ўзмахнеш, як пугай,
        Каб свіснула з прыстрэлам.
Павысушыў юпітэр і размёў
І золкую расу, і дым кастроў,
        І ўжо ў гітару точыцца
        Чужы прыпеў з падгаўкам.
        Як спутаныя, топчуцца
        І песня, і цыганка.
Ах, рыбцы б той ды ў чыстую раку!..
А мікрафон трымае за руку.

*1986*



Душа — нібы кашуля ільняная,
А век пражыць — не зрыфмаваць санет...
Каго шукаеш ты і праклінаеш,
Сучаснікамі страчаны паэт?

Як суцяшэнне — бушаваў Ясенін,
І Смелякоў псаваў парадны тон —
Узятым у плаціны Енісеем,
Ты шэрасці падточваеш бетон.

І сам жа тут яго крутым замесам
Мацуеш, і нарошчваеш сцяну,
І пад ахоўным іменем прагрэсу
Выходзіш у жыццё, як на вайну:

То баразну паправіць трактарысту,
То на станку ператочыць дэталь,
То ў пошуках металалому рыскаць,
Каб выплаўляць у вершы гучным сталь,

То злёт адкрыць, то Бахусу даць страху,
То выбягаць красменам на шашу, —
Туды-сюды, а сам без апранахі,
Глядзіш, у людзі выправіў душу...

Туды-сюды, — глядзіш, і песня спета.
І не грызуць сумненні, як спярша.
І ўжо слывеш сучаснасці паэтам.
І з ільняной — бетонная душа.

*1986*

* * *

У эпіцэнтры восені,
У беразняку
Ліст з настылай просіні
Злятае на руку.

Зялёныя пражылкі,
Жаўтлявае крыло, —
Адбіўся, пакружыўся,
Ды ветрам не змяло...

Як свойская сініца,
На цёплую далонь
Даверліва садзіцца,
А ў вачанят — агонь, —

Халоднага пажару
Трымценне і спалох,
Бярозавых стажараў
Прадснежаньскі парог...

*1986*

## Агонія лістападу

Спіць душа, і думак алавяных
Воз на голях восеньскіх заграз...
Дзе вы, лёгкай радасці паляны,
І якое сонца грэе вас?

За якім схаваўся даляглядам
Сумны клін апошніх журавоў?
Паглядзець памкнуся — а прысады
Голлем шлегануць: «Ідзі дамоў...»

Голы вецер свісне:
                    — Ты не вельмі
Давярайся восені ў жыцці:
Хоць і ўсё дазволена — ды нельга,
Хоць адкрыта ўсё — ды не ўзляціш...

Воля тут, як спелая рабіна:
Хустка ёсць, ды нечага абуць, —
Не ўцячы ад налеці драздзінай:
Кроплі-ягады крывавыя дзяўбуць...

Абмакрэлым, незямным цяжарам
Цягнуць хмары шэрую нуду...
Хутка ўдараць белыя пажары,
Полымем сцюдзёным загудуць...

*1986*

## Хата

На шляхах апошніх сустрэч
Ідзе — за плячыма з ношкаю:

Свет пусты, не топлена печ,
І вочы забіты дошкамі.

*1986*

* * *

Храмы падаюць не раптоўна,
Не ад выбухаў дынаміту.
Мы найперш учыняем катоўні
Ім — каб сэрцам былі забыты.

Праклінаем, плюём, зневажаем,
Грунт падводзім з вучонаю пыхай,
І вытручваем кропелькі жалю
Мы ў сабе — незваротна, пациху.

І паўзуць забыцця метастазы
Па скляпеннях святых учарашніх...
Выбух будзе, але не адразу:
Храмы ў душах руйнуюцца нашых.

*1987*

## Касмічная вестка

Пройдзе дождж, магчыма, навальніца —
Абяцае радыёпрагноз,
А пакуль што — пылам шлях дыміцца,
Ліст пажоўклы падае з бяроз.

Перасмягла майскія прысады
Кожнаю галінкай просяць піць,
І ў смузе густой за даляглядам
Поле абяскрылена ляціць...

Хоць бярыся ды спраўляй малебен,
Каб хмурынкі выпрасіць шматок, —
Толькі хто ў пустым пачуе нсбе,
Хто падасць вады — хаця б глыток?

Клопаты свае, свае арбіты,
Кожны сам сабе і кум і сват,
Кожны — свет, замкнёны і закрыты, —
Што страшней — хаос ці гэты лад?

Кожны на сваіх рахунках з часам,
Кожны сам сабе і міл і люб, —
Халасцяк Сатурн зганяе масу,
Круціць торсам кольцаў халахуп,

Пазірае Марс крывавым вокам,
А Венеры сняцца жаніхі,
Ходзіць ноччу Месяц санцабокі,
Ды і той — халодны і глухі...

Хто ж табе, Зямля мая, паможа,
Адгукнецца хто?..
І раптам — дождж!..
Травы здрыгануліся трывожна,
Як пабеглі дзеці басанож.

Вецер лісце спешна перакульваў,
Каб ні кроплі птушкам не было...
Біліся дажджыны, нібы кулі.
Як ад весткі злой, трымцела шкло...

Хмары не плылі, не ўдарыў звычна
Гром, што быў за Перуна старэй...
І Чарнобыль весткаю касмічнай
Стаў каля расчыненых дзвярэй...

*1987*

## Урок паўтарэння

Зноў лічэбнік... Жывым і мёртвым —
Паўтарэння зададзены ўрок...
Паўтараем: «кожны чацвёрты...»
І — «чацвёрты энергаблок...».

Паўтараем... Настаўнік Чарнобыль
Нагадаў, нібы назнарок:
Той — чацвёрты — ваеннай пробы
І — чацвёрты — энергаблок...

У палях, на лугах, на прысадах —
Нібы водгук на кожны крок —
Рэха чорнай атамнай здрады...
І — чацвёрты энергаблок.

На ўзбалотку гарыць журавіны,
Баравік залез на грудок,
А ў вачах — туман з Украіны...
І — чацвёрты энергаблок...

І глядзіць — у чырвоных пражылках —
Склератычным тварам лісток,
Што скідае клён на сцяжынку...
І — чацвёрты энергаблок.

Чуюць Хойнікі, чуе Брагін
Жураўліны крык ля аблок:
Ні расінкі — адолець смагу...
І — чацвёрты энергаблок.

Як прадвесце сусветнай пустэчы,
Як Зямлі патушаны зрок, —
Гэты з цёмнымі хатамі вечар...
І — чацвёрты энергаблок...

Крочыць здань на хадулях ракетных...
Просіць свет надзеі глыток...
Б'юць у звон Чарнобыля ветры
І — чацвёрты энергаблок.

Ён гукае: устаньце, людзі,
Каб адолець ядзерны змрок,
Бо інакш — не жыццё ў нас будзе,
А чацвёрты энергаблок...

*1987*

* * *

Калі трымае маці на руках
Свайго малога, мне здаецца — маці
Трымае чалавецтва, што ў вяках
Жыве, як светлы дух у гэтай хаце.
Калі ўзрывае цішу самалёт,
Ламаючы бар'еры гукавыя,
Здаецца, што з усіх зямных шырот,
Глядзяць трывожна ў неба ўсе жывыя.
Калі ён сядзе з грузам дамавін,
І маці зразумее, што ніколі
Не выйдзе з металічнай хаты сын,
І загалосіць: «Мой жа ты саколік...» —
Чым гэты слёзы можна акупіць,
Якім — зямным альбо нябесным раем?..
Пясок ля ямы ад слязы кіпіць,
Зямля — наскрозь, навылет — прагарае.

*1987*

* * *

З глыбінь сусвету да мяне
Прыходзіць гэта слова,
Дзе ўсё былое прамільгне,
Як сутнасці аснова,
Дзе ўсё, што будзе праз вякі,
Перад вачыма стане,
І незнаёмы дзень з рукі
Ўзлятае як пытанне...
Усё зліецца ў слове тым, —
І хто мяне ўратуе
Ад несмяротнай нематы,
Як бачу зорку тую?
Я ўсім гатоў ахвяраваць,
У вечнасці пытаю:
Як слова тое мне назваць? —
Адзін сусвет і знае...

*1987*



Я прыдумаў сон для камп'ютэра:
Чалавек на жытнёвым полі
З каласамі, як з дзецьмі, гутарыў
Ды і сам, як дзіця, сваволіў.

То падскокваў з глыбокай сцяжынкі,
Што схавала яго з галавою:
Каб упэўніцца — на зажынкі
Ці патрапіць ён з гэтых завоін?

То махаў, нібы крыллем жняярка,
Над шапоткім плёсам рукамі, —
Зваў русалак на гаспадарку,
Што на брук гарадскі паўцякалі.

То звінеў сінявой васільковаю
Ў свісце — над перапёлчыным раем,
Што да працы сябе прымяркоўвала:
Гэта жаць ці палоць пара ёй?..

Я прыдумаў сон — я не выдумаў!.. —
Калыханка так пачалася:
Над эпох злавеснымі выдмамі —
Спі, камп'ютэр, не прачынайся...

*1987*

## Жанчына

Табе — праклянцце, і табе — хвала,
Табе — вар'яцтва і цвярозы розум,
А ты ўсё тая ж — як вякоў імгла,
Як летуценнай будучыні роздым.

Жыццё і смерць — і паміж імі ты:
Імгненне шчасця і сусветны холад.
Яшчэ ніхто — ні грэшнік, ні святы —
Не разарваў твайго сакрэту кола.

Шпурнеш у пекла ці адкрыеш рай —
Тваё каханне таямніцай будзе,
Як той, нікім не разгаданы, край,
Куды навечна адыходзяць людзі.

*1987*

* * *

Яшчэ схіляецца ў журбе
Надзея блізкіх і гаротных,
Яшчэ не кожны сам сабе
Сказаў аб страшным, беззваротным, —

А ўжо над ім шуміць трава,
Плыве размытай акварэллю...
Якія вусны цалаваў!
Якія зоры адгарэлі!..

*1987*

## Віна

Радзіма, Беларусь, прыпынак судны
Паміж сівых вякоў,
Блукаў я па зямлі тваёй пакутнай
Ды не стварыў шляхоў.

Сляды былі. Але вуголлем часу
Пакрыта ўсё.
І вечнасць гладзіць перастылым прасам
Душы рыззё.

Наводзіць шык? Дзеля чаго, скажы мне,
Калі няма шляхоў?
Няўжо з табою стануцца чужымі
Сыны сыноў?

Напэўна ж — не. Ды я і сам не згодзен,
Каб заўтра ты была
Нямою пры жывым сваім народзе —
Як хата без святла.

Сынам з «кароткім курсам» у галовах
Дай шырыню.
Хто верыць, што тваё згарае слова, —
Дай ім агню!

Хто рэвалюцыю ў спектаклі перайначыў,
На лозунгі навёў шаблонны грым, —
Хай затрымцяць труслівa, як пабачаць,
Што слова не гарыць!..

Спытай усіх — як на сканчэнні свету:
«Маціпрадаўцы вы альбо сыны?»
А суд людскі не вінаваць пры гэтым, —
Віноўныя — яны. Адны яны.

*1987*



Помніце, як птушкі грыбнікам высвіствалі
І пра неруш песні на прамень нанізвалі?..
А як пруцца — бачылі —
напралом з транзістарам,
А калі пры сіле — нават з тэлевізарам?..

Ці музычны момант? Ці музычны молат?
Ці то землятрусы музыкі бушуюць?
Хто тут разбярэцца, як займае мову...
А пачнеш гукацца — сам сябе не чуеш...

Вось дзе ў лесе радасці —
і звярам, і птушкам!
Гнуцца лозы долу, і сасну хістае.
Дуб, хоць глухаваты, а прасіў заглушкі
Дзятла на ўсе вушы да зімы паставіць.

Аб грыбным сезоне ў прыгараднай зоне
Завываюць трубы і трамбоны гаўкаюць...
З гаю выбягаюць: «Дзе схавацца сёння?!»
Нават мухаморы з беднымі паганкамі.

Д'ябальскай арцеллю ВІА вар'яцее,
Аб камлі магутныя б'ецца какафонія,
У травінкі кожнай — дрыжыкі па целе,
Гоніць зайца ў вёску дзікая агонія.

Можа, тут прытуліцца,
Можа, тут схаваецца, —
Пасядзіць на вуліцы,
З дзецьмі нагуляецца?..

*1987*

* * *

У вераснёўскім лесе
Ветрык лісцём церусіў,
Як летуценнем імпрэсій
Музыка Дэбюсі.

Ціха было і ўтульна...
Ды раптам — той голас гусей...
Аб чым ён? Якую адтуль нам —
З-пад неба — вестку нясе?

Той голас, — ты чуў яго быццам,
Калі і цябе не было.
Ты чуў, бо не можаш забыцца.
Хоць год — мільёны сплыло...

Адкуль расстайная памяць
З усім хараством зямным?..
І холад касмічны паліць
Здагадкай, што мы не згарым...

Што мы ўсяго толькі ў выраі
І ў прадчуванні бяды
З зямлі карані свае вырвалі,
Ляцім — і не знаем куды...

*1987*

* * *

Б'юць па чэраве
                    і па чэрапе —
Хто абжорствам,
                    хто какафоніяй.
А з якіх крыніц
                    ваду чэрпаем,
Смык чыёй смалой
                    каніфолены?..

Перад кім душой мы рабынімся,
Дэцыбелаў сцяной адгароджаныя?
Дзе згубіліся? Як забыліся,
Што сваёй зямлёй мы народжаныя?

Скрынкі з музамі д'ябл-музыкі,
Як гарбы, нясём перад пузамі.
Галаву «метал» цяжка тузае
І грыміць у ёй, нібы ў кузаве.

Хто цябе прадаў, песня родная, —
Ці бяздомны спец, ці купец ліхі?
І пад Віцебскам, і пад Гродняю
Буйна плодзіцца меламан глухі...

Хто закрыў нам душу на ўсе застаўкі,
Каб для памяці ў ёй — ні адтулінкі?..
І ў навушніках сыны вушастыя —
Як духоўныя беспрытульнікі...

*1987*

## Рэха зваленага дрэва

На золку шэрым
Конік бег —
Яшчэ й дугі не відно.
На золку гулкім
Валілася ў снег
На хату будучую
Бервяно.

Туды,
Дзе барвяна
Праз ночы дно
Бруіўся
Прамень з падзямелля
Крамяны,
Кацілася кругла
Вянца звяно —
«Бер-вя-но...» —
Мяняючы тон драўляны
На рэха віны —
«...вя-но...»

Пасля і «...я-но...»
Зламалася — «...но-о...» —
Нібы пугаўё ў мароз.
І толькі «...о-о-о»,
Як іней з бяроз,
Бязгучна
вецер
абтрос...

*1987*



Можа, ўсё гэта толькі ідэя
І наіўны, палынны міраж, —
Як сусветная Іудзея —
Гэты крык і помысел наш?

Вось яна — зямля пад нагамі.
І народ на зямлі спрадвек.
Толькі слова свайго пазбягаем,
Як здаровы — пагляду калек.

Просім сына:
 па-беларуску
Напісаць (як прасіў Карусь
Каганец)... І пачуем малюска:
— А ці ёсць яна, Беларусь?..

Што было на шляхах і ростанях?
Прадавалі нас за паўцаны.
І круціліся душы бяростаю
На агнях інквізіцый маны...

Толькі дзверы чужых пачакальняў,
Толькі уніі ды палон...
І на шыі — жэтон адчаканены:
Час, як выціснуты лімон...

Хто — зямля ці ідэя — злучае
Раз'яднаны бязмоўем народ?
Ці гуртуюцца людзі адчаем:
Там крычыць ўсенародны рот?..

А пакуль сведчым, хто вінаваты,
Б'ёмся ў дыспуце шматгаловым, —
Кажуць, новае ўводзіцца свята
З назвай «Дзень адмаўлення ад мовы»...

*1987*



Чаго мне лезці ў д'ябальскі натоўп,
Што прэцца на дзяльбу чыноў і славы?
Я толькі Ной, што ў атамны патоп
Ратуе слова продкаў ад расправы.
Імчацца наабгонкі стрымгалоў?
Не той узрост і не ў маёй натуры.
Бяжыце, забівальшчыкі галоў,
У браму прызавой футбалатуры.
«Мазіла!», «Пас!» — балельшчыкі крычаць,
З трыбун крытычных патрабуюць:
«Шайбу!..»
А словы ціха да майго пляча
Злятаюцца з нямой, сусветнай жальбай.
Сядаюць парамі — ад кожнага гнязда:
На радавод, для будучых узлётаў.
Адна надзея ў нас, адна бяда:
Нам трэба выжыць. Іншае — на потым.
І я шапчу: «Трымайся, мой каўчэг...»
Гукаю словы будучага сказа:
«Збірайцеся з-пад шатаў і з-пад стрэх.
Калі патонем, то, напэўна, разам...»

*1987*

## Уздыхае певень цяжка...

Уздыхае певень цяжка:
Курацъ куры — ды ўзацяжку!..
Цэлы дзень сядзяць, сакочуць,
Нават несціся не хочуць,
Не выводзяць кураняг:
«Што нам той дзіцячы сад!
Ёсць на гэта інкубатар...»
Плача певень без зарплаты...
Ні капейкі, ні зярнятка
На кішэнныя выдаткі.
Бабылём ідзе на шпацыр,
Слёзы лье: «Эмансіпацый
Шмат было — ва ўсе эпохі
Бунтаваліся «панчохі».
Ды курыная, прызнацца,
Горшая з эмансіпацый...»
Аж на ўсе дванаццаць струн
Заікаецца пявун,
Пер'е на сабе дзяр э:
«Ку-рацъ ку-ры... Ку... ку... рэ...»

*1987*

* * *

Стрыножаныя і абяскрыленыя,
Заціснутыя паміж старонак,
З чысцінёю стэрыльнаю —
У кнізе Чырвонай,

У гэтай самай сучаснай казцы,
Жывуць яшчэ і звяры, і птушкі,
Злоўленыя аб'ектывам зіркастым
На кіно-і фотаістужкі.

Самыя рэдкія, экзатычныя, —
Хаваюцца ад прагрэсу.
І кніга чырвонай тычкаю
Тырчыць на дарозе злавеснай.

Гарыць слязой плакатліваю,
Дзе, вярнуўшыся ўвесну дадому,
Над прахімічанай ніваю
Злятае жаўрук дадолу, —

Не з песняю, як бывала,
Да хаткі ў цёплай разоры,
А знічкаю шэра-злінялай,
Што з неба прагналі зоры.

Гарыць тая кніга вогнішчам,
І я, апякаючы лапы,
Нясу — з першабытнага логвішча —
Яе дыягенавай лямпай, —

Шукаю цябе, абаронца,
Каб ты ў тэхнічным нахрапе
На самай апошняй старонцы
Ў Чырвоную кнігу не трапіў.

*1987*

* * *

*Акадэміку А. М. Ганчарэнку*

Помню круг, палёт рукі,
Помню позірк пільны,
Бо спрадвек у нас гаршкі
Не Багі ляпілі.

Бацькаў сябар ганчаром
Быў на ўсю акругу.
Бегаў за «расці здароў»
Я пры ім абслугай.

То, бывала, паднясеш
Дровы для апалу,
То, як бохан, — рэж ды еш —
Гліны цёплы кавал.

То, як самы важны гляк,
Едзеш на фурманцы... —
Збыць пасуду не за так
Дай нам, Божа, шанцы.

Мы ж з табой амаль радня:
Ты зляпіў Адама,
Ну і нам ляпіць штодня
Выпала таксама —

Ёсць макотры, гладышы,
Кварты і гарнушкі,
Гарлачы і спарышы
І свістулькі-птушкі...

Пагулянкай, ад Шчаўроў,
Тонуць колы ў верасе:
Наша слава ганчароў
Едзе каля Версанкі.

Налятай, гаспадары,
Просім гаспадыні!...
...Толькі тут — свае майстры
Выраслі на гліне.

Шматпатомныя, як час, —
Родам Ганчарэнкі...
Разбягаюцца і ў нас
Ад здзіўлення зрэнкі:

Як званы, вісяць збаны
На тыніне кожнай...
«Не дадуць і паўцаны», —
Думаем трывожна...

Толькі дзядзька мой Ганчар
Раптам засмяяўся:
— Не загіне наш тавар!
Дзьмі ў свісцёлку, Вася!..

Свіснуў сам, і я за ім —
Весела іграем,
Каля Версанкі стаім
І купцоў чакаем.

Першай бабка падышла,
Потым — дзед старэнькі,
А за імі — паўсяла:
Дзеці-Ганчарэнкі!

Вытылікваў я, дудзеў,
Выцінаў жалейкай...
А хлапчук адзін глядзеў
У задуме нейкай.

Дзесьці ў небе калясіў:
Як ямчэй прыстаць там...
Ці не верыў ён зусім
У маё мастацтва?

Ці пакрыўдзілі сябры?
Ці не меў капеек ён?..
І сказаў ганчар стары:
— На, бяры во пеўніка...

Свіснуў раз ён, і другі,
І закукарэкаў! —
Вось, выходзіць, як Багі
Лепяць чалавека...

Паталаніла, відаць,
А хутчэй — свістулькі
Паспрыялі ўсё прадаць
Нам да чарапулькі!..

Ганчарэнкі, ганчары...
Час не перайначыш...
Шмат вады з тае пары
Збегла ў нашай Начы.

І прыходзяць толькі ў сон
Версанка з Мачулішчам...
Я ў свістульку дзьму. А ён —
Той хлапец — як чуецца?

Не сцвярджаю ад дзвярэй,
Але маю версію:
Акадэмік ёсць — Андрэй
Ганчарэнка. З Версанкі...

Вы ўжо скемілі? Вось-вось...
Толькі ўсё ж адразу
Не праводзьце гэту вось:
«Круг ганчарны — лазер».

Не такая да святла
Простая дарога.
Ды акружнасць надала
Ўсім арбітам строгасць.

Электронныя пучкі
Сутнасць асвяцілі,
Што спрадвек у нас гаршкі
Не Багі ляпілі!

*1987*

* * *

Ці метад памылак і спробаў?
Ці мэта, каб край мой маўчаў? —
Над мовай, нібыта Чарнобыль,
Распята крыло крумкача...

Мне кажуць: «Прагрэса поступ.
Не ўздумай чыніць перашкод...»
І ўсё гэтак ясна і проста:
«Ад мовы адрокся народ».

Адрокся? Калі і навошта?
Не чуў я такога. І век
Не ўчуць бы: якім гэта коштам
Душу прадае чалавек?

І як гэта з роднага ганку
Гнаць роднае слова ў каршэнь?
Як матчыну калыханку
Бяспамятна вырваць з вушэй?!

Каб стаў народ без'языкі,
Каб мову наводмаш адсеч, —
Хто гэткі над ёю, «вялікі»,
Узняў гісторыі меч?

Я ведаю толькі прадаўцаў, —
Іх зграя аб згубе крычыць.
Ды ў гэтай бязроднай даўцы
Зямля патаемна маўчыць...

*1987*

* * *

> Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!
>
> Ф. Багушэвіч

Не дай мне Бог духоўным стаць бадзягам,
Без памяці жывой, без каранёў,
Ісці бязмэтна за ілжывым сцягам
І верыць, што вяшчуе варанне.

Народзе мой, не дай мне абмыліцца,
Маўчаць, як ты маўчаў цераз вякі,
І рабскаю рахманасцю хваліцца,
І падстаўляць для ўдару дзве шчакі —

Гісторыю, распятую на «крэсах»
І на заходніх з поўначчу краях,
І мову, што спрадвеку лёс накрэсліў,
Каб ты Купалы словам акрыяў.

Няўжо забыта ўсё, перазабыта —
Сыноў найлепшых светлы запавет?..
Не веру, што аднойчы з тварам сытым,
З духоўнай торбаю ты выладзішся ў свет...

Ці быў калі народ-самазабойца? —
Скажыце мне, вучоныя мужы...
Дык што ж цябе, не мота, не прапойцу,
Штурхае да апошняе мяжы?

Я ведаю: народы паміраюць...
Але такі — з Хатынямі ў душы,
Якому пекла можа здацца раем, —
Такі, як свет, павінен вечна жыць!

Не дай жа ў сэрцы зруйнаваць краіну,
Што на шляхах крывавых збудаваў,
Пайсці перараджэнца каляінай,
Што мову забываў ці забіваў...

Народзе мой, прабач дакор палынны, —
Ці мне саромiць і ці мне вучыць?..
Ты знаеш лепш, ты не падсудны сыну.
Але ці лепш, як здрадна сын маўчыць?

*1987*

* * *

Красуе жыта. І крані
Сцяблінкі лёгкай станік —
Агонь успыхне ў карані
І аблачынкай стане.

І што ні колас — ускалых
Маёй забытай долі:
Як хлебаробскі мой уздых,
Плыве пылок над полем.

Як з каміноў вясёлы дым,
Бярозавы, бухматы,
Калі дух цеста малады
Ўзрывае столь у хатах,

Калі палкоўніца-дзяжа
З палка на печ залазіць,
Каб у цяпле, як на дражджах,
Хлеб вырас пышным князем...

Красуе жыта. На ўмалот
Жыве мая надзея.
І сонца цераз поле ўброд
Ідзе — і маладзее!

*1987*

## Зімняе сонца

Над снежнымі абелiскамі
Вясны, пахаванай зажыва,
Выйшла — халоднае, нізкае —
І мяне зусім не заўважыла.

Тут жа амаль і схавалася
Ў хмарнае тло мітуслівае...

Толькі не абарвалася
Гэта імгненне шчаслівае!

І не дае адчаяцца
Перад завеяй-прарочыцай, —
Свеціць: жыццё не канчаецца!
Сведчыць: як жыць яшчэ хочацца!..

*1988*

* * *

Такой парой,
Калі, як цень снягоў,
На баравінах
Ландыш выпадае,
Калі вясна
Чакае і гукае,
Калі зязюля
Вечнасць абяцае
І дрозд
Ад песні
Галаву губляе, —
Мы ў лес пайшлі —
У май, нібыта ў рай...
Пайшлі,
А ці вярнуліся —
Не знаю.

*1988*

* * *

Толькі ўспыхнуць у полі
Рабацінкі праталін —
Б'ецца вырай у сэрца,
Як агонь навясны:
Салаўіная рэчка,
Салаўіны світанак,
Салаўіная памяць вясны...

Ды акно майго лёсу
Наглуха зачынена
З той зімы —
Акно заінелай турмы.
А турма —
мая,
Не айчынная,
І за краты тут шлях прамы.

Тут не ходзяць з верай пазычанай,
Тут свой храм і свая турма.
У каханні, як у язычніцтве:
Адзінага Бога няма.

Ці гудуць завірухі,
ці плачуць адлігі —
Тут у кожнага
свой жаданы парог:
Колькі вернікаў —
Столькі рэлігій,
І свой —
У кожнага —
Бог.

Я прашу,
Я вымольваю літасці:
Адчыніся, акно,
насустрач вясне!

Толькі Бог чужы
са мною не лічыцца,
А свайго
не будзе ў мяне!..

Дагараюць у полі
Рабацінкі праталін,
Выбягаюць пралескі
На ўзмежак лясны...
Салаўіная рэчка,
Салаўіны світанак,
Салаўіная памяць вясны...

*1988*

## Купальская ноч ля возера

Вось недзе за гэтым, а можа, за тым
Ядлоўцавым знакам — імшара,
Дзе папараць-кветка агнём залатым
Закрэсліць зямныя ўсе чары.
І высвеціць тое, чаго не было,
Няма, і, магчыма, не будзе...
Душа, нібы птушка, ляціць у сіло,
А ногі чапляюцца ў хлудзе...
І раптам таемна зірне глыбіня —
Люстэрка ў альховай аздобе,
Касмічным адбіткам стаіць цішыня,
І крок — землятрусу падобен.
Спыніся!.. Шукальнік агнёў залатых,
Замры і паслухай Купалле —
Той голас, што мы пасадзілі ў краты
І ў дол дыскатэк затапталі...
Схаваўся ён тут? Не — спрадвеку жыве, —
Ён толькі ад нас адвярнуўся.
Ты чуеш — дыханне прайшло па траве...
Як звон — цішыня Беларусі...
На беразе корч — толькі ша! — не суроч —
Ад песні сваёй салавее,
І з неба азёрнага свецяць у ноч,
Як белыя зоркі, лілеі.

*1988*

* * *

зор даспелых
дагараюць
гронкі
Млечным Шляхам
адлятае
журавоў касмічных
клін
нібы кнігу вечнасці
старонку за старонкай
смерць гартае
векі дамавін

сейбіт-Бог
бяднейшы
і намнога
Бога
неспатольнага жніўца
поўныя сусекі
зерня злога
і дарога
без пачатку
і канца

толькі крык мой быў
нібыта крылы
і ўзнімаў
над тым жніўём мяне
каб пабачыць мог я
што магілы
той хто нарадзіўся
не міне

*1988*

* * *

Зоркі неба гайдалі
Тужлівым, няроўным святлом,
Хтосьці клікаў удалеч —
Узляцець над будзённасці тлом.

Я наважваў узняцца,
А думы цяжкія гнялі:
Хочаш чыстым застацца
Над брудам пакутнай зямлі?

Быць святым і шчаслівым
І песню Багоў разумець,
Над чарнобыльскай нівай
Анёльскім крылом зіхацець?

Над нікчэмнаю тратай
Умалотнага звону славес,
Над бяссонніцай бюракрата:
Каб ніхто ў яго крэсла не ўлез?

У Парыж ці ў Кентукі
Ляцець на вясёлы нектар?
Мець — закроснены тукам —
Уежны і ўлежны навар?

Стаць глухім і не чуць храпаты
Смех бяссілля, свінец пагроз
Над сасоннікам Курапатаў,
Што з касцей чалавечых прарос?

Стаць сляпым і не бачыць
Запалыя грудзі магіл,
Дзе двухногія з хваткай сабачай
У бязвіннай крыві чырванілі сцягі?..

Стаць бяспамятным монстрам,
Па гісторыі перціся ўброд,
На бязмоўнасці востраў
Пасяліць свой адвечны народ?

Адарвацца ад Начы,
Што згубіла свае берагі,
І над кнігавак плачам
Рабіць пераможна кругі?..

...Хтосьці ўзлёт абяцае
І зорнай абводзіць рукой
Абярэжнасці круг: са святымі айцамі —
Зямнымі — упакой і высокі спакой...

Толькі гэткага лёсу
Не даруе мне маці-зямля...
Вы прабачце, нябёсы,
Я свой рай адсвяткую пасля...

*1988*

## Канвеер...

Спроба верша спосабам «калаж»

«Назначаны ці абраны?..»
«Вучоныя ў пашчы кратэра...»
«Адбыўся кангрэс наркаманаў...»
«Забілі меліяратара...»

«Народ не бярэ ні грама...»
«Камп'ютэр — ахвяра логікі...»
«Пайшло не жыццё, а крама:
Чарга і ў загс, і на могілкі...»

Стаю і з ветрам на пару
Перажоўваю тумбу з афішамі,
Смакую навіны...
«Каспараў
Абышоў у прэтэнзіях Фішара...»

«Бабруйск — беларускі Ганове́р,
Ды толькі фартуна не бліснула...»
«Збіраўся ўзарваць Кагановіч
Сабор Васіля Дабраіснага...»

Размаху было аж замнога:
«Байкальская, магістральная», —
Што ні лозунг — веку дарога,
Што ні грудзі — плошча астральная:

Не падняць аберуч мундзіра...

«Мерзлаты застойныя праледні...»
«Можа, праўду шукаць у Сібіры,
Дзе шукаў ледзь не кожны праведнік?..»

«Пашукайце, што побач страчана, —
Ці не лепей паехаць у Лепель?..»
«Перадаць ці прадаць нашу спадчыну?..» —
Гвалт народжаных у курасле́пе...

«Лішні клас для роднае мовы...»
І «з народа» вокліч нязгоды:
«Нам было і таго дастаткова...»

«О народ, не дастойны свабоды» —

Гэта кліча тэатр на прэм'еру...
А ў канцы паласы — як падскрэбышы:
Жыццяпіс Дэбюсі і Дэбіша
Верш да славы грукае ў дзверы...

Шар зямны да вачэй абклееены:
У навінах — як дошка аб'яў.
Словы, словы — нібы з канвеера...
А навокал — вецер гуляў...

Вецер шумеў,
Бо гаварыць не ўмеў...

*1988*

## Далоні

Далоні —
рэчышчы траншэяў,
Далоні —
баразён цуркі...
Гляджу на вас —
і век цішэе
І мазалі бягуць з рукі:
Інтэлігенты ў пакаленні —
Другім ці трэцім —
што ад нас,
Якое возьмеце памкненне,
Які адкрыецца вам час, —
Ці той, што мы клянём, —
застойны,
Дзе гераізм, як герaін, —
Прэзідыумны і застольны,
Дзе ўжо не верыць бацьку сын...
Ці век прыдумаеце новы —
З крутой камп'ютэрнай душой?..
Я веру ў розум адмысловы
І ў спрыт, засведчаны Ляўшой...
Адно прашу —
не забівайце
Жывых азёр,
крыніц і рэк,
На даланях сваіх чытайце
Аповесць з назвай «Чалавек».
Свой лёс чытайце несмяротны
У гэтых лініях жывых,
Пакуль прырода незваротна
На згубу не скрыжуе іх.
Яе катоўнікаў імёны
Я знаю, —
рукі бачыў я:
Па локці —
у крыві зялёнай.

Ды не крычу:
— Віна чыя?!
Бо знаю:
і маёй — даволі,
І я не збоку прастаяў
У барацьбе —
з табою, поле,
З табою, луг, рака мая...
Ляціць хімічная пагоня,
А я, банкрутны валадар,
Я ўсцешан, як прырода сёння
Ў мае атрутныя далоні
Хавае свой пакутны твар.

*1988*

## Родны мой краю...

І страт перажыў і пагарды сцярпеў —
Не ўмесцяць Дняпро і Нарач.
Пад бокам — нібыта гісторыі спеў —
Рыпелі турэмныя нары.

То з роднай сялібы нядоля вяла,
То гналі ў Сібір па этапу.
Аб тым, што ты вораг, на ўзлёце крыла
Кляймо выбівалі сатрапы.

На дзюрку апошнюю ты паяснік
Падцягваў вясною нішчымнай.
А над галавою —
дзяржаўнай хлусні
Выбухвалі бурбалкі чынна.

І сын табе ў вочы не раз чужаком
Глядзеў і прылюдна цураўся,
А ты праклясці мог толькі маўчком,
Бо мову язык забываўся.

Як толькі на ніве тваёй каласком
Вякоў выспявала надзея,
На ўздыме, каб шлях ты адольваў паўзком,
Стралялі ў спіну дабрадзеі...

Ды з пылу і тла ты ўзнімаўся ізноў
І дню непражытаму верыў.
І сцежку крывавую пасмы дажджоў
Змывалі на досвітку шэрым.

З душою наросцеж, хапком, напавер
Ты ўзводзіў вышынную хату:
На шыі з пятлёй
трыццаць сёмы паверх
Вісеў над падмуркам трыццатым.

«Дзе вашы магілы, бацькі і дзяды?» —
У жвір, як у памяць, — лапата:
Дарог абарваных шукаюць сляды
Нашчадкі твае ў Курапатах.

Няўмольна твой лёс паўтарае віткі,
Ды вочы твае з надзеяй
З-пад хлебаробскай мазольнай рукі
Насустрач сынам паглядзелі.

Ты жыцьмеш, мой краю: не ўсе паляглі
Пад сосны — хто ў крамным, хто ў зрэбным...
Ты выжыць павінен, бо з гэткай зямлі
Ўзнімаюцца зоркі на неба.

*1988*

* * *

У гэтым імені, што камень
Ад забыцця не засланіў,
Касач зялёнымі штыкамі
Таемнасць змрочную граніў.

Пад знакам шэрым і маўклівым
Асеў, асунуўся грудок...
Ці ў горы жыў ці быў шчаслівы? —
Не скажа літар тых радок.

Якія вёсны, зімы, леты
Адбушавалі на зямлі
І тут, пад гэтым сінім цветам,
У непазбежнасці ляглі?

Ні тых вачэй, ні слоў, ні рысаў...
Даўно жывых згубіўся плач.
І толькі ў жаўтапесны прысак
Карэннем прагнецца касач.

Ён і сказаў: ніхто не вечны,
Ды я — нявольнік у жыцці,
Бо як надзея на сустрэчу
Я тут замоўлены цвісці.

*1989*



Я думаў: жыць далей не стане сілы,
А вось жа — дыхаю, хаджу, тапчу траву,
Схіляюся над свежаю магілай
І як праклён шапчу: «А я жыву...»

Якім парадкам і якім законам
Смерць забірае нашых мацярок?
Куды яны, пакінуўшы да скону
Нам адчуванне пра апошні крок?..

Той крок, што абрывае нашу сувязь
З мінулым... І над вечнасцю нямой
Расстанне кігцюрамі паласуе,
Нязбытнасць свой раскручвае сувой.

І роспачная памяць напярэймы
Выходзіць — як цяжкі дакор сынам.
Ды мы ляцім у розных вымярэннях
І ўжо ніколі не сустрэцца нам.

І толькі голас... як варыла кашу
Сарока дзецям... будзе прылятаць.
А мамы там, у будучыні нашай,
Якую нам не дадзена пазнаць...

*1989*



Апранулі ў апошняе маму,
Зберажонае, з пахам крамным...
Свечкі след за аконнаю рамай:
На той свет пайшла тэлеграма.

І ляцяць мае думы няспынна:
Што табе тая прышласць тоіць?
І з дзяцінства — чародка ўспамінаў...
Як далёка было ўсё тое...

Я прытупваю на тапчане —
Скача радасць мая чапурная:
Мама лёлю пашыла мне,
Мама лёлю мне апранае...

Самы першы мой успамін:
Мне пашыла мама кашулю...
І сядзіць пасівелы сын:
Маму ў новае апранулі...

І агеньчык свечкі ў акне
Памнажаецца шыбай падвойнай...
І цяпер я памерці вольны:
Ты не ўбачыш сына ў труне.

Мне цяпер памерці не страшна:
Ты не ўбачыш смерці маёй.
І блукае мінулае наша
Над пустой, бязмэтнай зямлёй...

І ўжо свечка гарыць, ды не свеціць, —
Ноч мінае, збіраюцца людзі...
Пройдзе ўсё і паўторыцца ў свеце,
Толькі, мама, без нас тое будзе...

*1989*

* * *

У лютаўскім голлі зябне вясна,
Пясчаны грудок сіратліва жаўцее...
Над нашаю доляй была ты адна
Апошняй малітвай ад ліха і церняў.

Вяртаемся мы да пустога двара, —
Ніхто не сустрэне, ніхто не прывеціць...
Цяпер ужо, мама, і наша пара, —
Вось толькі той дзень пакуль што у сакрэце...

Дарога адкрытая, як турма,
І над крыжамі бярозы сумуюць,
І перад намі нікога няма, —
Выходзім на фінішную прамую...

*1989*

* * *

Першацвет
На праталіне чорнай,
Першы ён
І таму —
Непаўторны.

Верасовы цвет —
Зімняй поштай,
Незабыўны ён,
Бо апошні.

Цвет —
Як воля,
Як лёс без клеткі, —
Непазбыўная папараць-кветка,
Цвет жаданы
І як турма,
Бо яго
Не было
І няма.

*1989*

## Абуджэнне

Вытайвалі на ўгрэвах палявых
Падснежныя мышыныя тунелі.
Праз плесень прабівалі паплавы
Травінак першых сакавіты вэлюм.

І цёплыя вятры ўсю ноч гулі,
І дрэвы чулі птушак пералёты,
І ціхае пашорхванне галін
Ператваралася ў зялёную лістоту.

*1989*

* * *

І не ўся яшчэ праўда ў дні першым,
Калі б'юць у літаўры, вітаюць
Пераможцаў і песняй і вершам,
А пра дзень другі не пытаюць.

Дзень другі — ён цяжэйшы самы.
Хто яго перажыў і не здаўся, —
Пераможцам уласнае славы —
Салютуйце і помнікі стаўце.

*1989*

## Без жаўранка...

Вось і вясна праходзіць,
А дзе яе першы званок?
Хто песню тую пашкодзіў —
Вырак які ці ўрок?..

Дзе першы вястун праталін
З сям'ёй у шэрым быллі?
Які там птушыны Сталін
Іх выселіў з роднай зямлі?..

Дзе тая радасць дзіцячая,
Якую мы ўсю зіму
Чакалі з краёў гарачых,
Печ маючы за турму?

Дзе вырай, што наперагонкі
Мы беглі вітаць басанож?
Хто горла нябесна-звонкае
Зацята пусціў пад нож?..

Я знаю, хто вінаваты —
Мне ў полі вецер сказаў:
Гудуць у крыві хімікаты
І рэжуць вастрэй ад ляза...

На жаўранках і на дзецях
Зрываецца вышыня...
І не чуваць у леце
Шчэбету птушанят...

Пад гербецыднай «мухаю»
Таксікаманы-палі
Ужо і не помняць, аглухлыя,
Дзе ўчора гнёзды былі...

Даўжэюць, цяжэюць ночы,
А песні я так і не чуў...
...Памру — сюды хоць аднойчы
Жаўранкам прылячу.

*1989*



Калі прыйшлі на страшны суд
І мёртвых душы і жывых,
Адной — тварца людскіх пакут —
Злачынна не было між іх.

Як ні стараліся ганцы
На ўвесь эфір, на ўвесь сусвет —
Анёлы, вышуку спяцы, —
Вусаты множылі партрэт —
Нідзе не адшукалі след.

І раптам — злёту, на парог,
Адзін зваліўся, ледзь жывы,
І ўсе пачулі, чуў і Бог:
— Не там яго шукалі вы!..

І тут жа спаленым крылом:
— Яго знайшоў я! — Паказаў:
— Ён на зямлі!.. «Гаспадаром
Быў, ёсць і буду!» — мне сказаў...

*1989*

* * *

Даруйце ворагам вашым...
Я ворагам вам не быў.
І толькі сам сябе страшыў
Грэхам, што ўсіх любіў.

Што многім пыхліўцам верыў,
Як брыдкае качаня,
І ў сэрца наіўныя дзверы
Бясклопатна адчыняў.

Што злосцю нашпігаваным
Зычліўцам руку паціскаў
І сноў не бачыў паганых,
Калі стукача сустракаў.

Што шчырасцю з хітрым дарадцам
Дзяліўся хапком, напавер,
Не бачыў, як з-за дэкарацый
Драпежна выглядвае звер.

Я вып'ю горкую чашу —
Хай кара мяне не міне, —
Даруйце ворагам вашым
І не даруйце мне.

*1989*

## Гэты час...

Гэты час, гэты смог, гэты Бог —
Стылізацыя пад сталінізацыю,
Гэты прывід цяжкі перамог,
Думак шэрая стэрылізацыя.

Гэты воплескаў гераін
І герояў таўро паказальнае,
Шлях да праўды — у друзе руін
І душы мітусня вакзальная.

Гэта глуш навакольных сёл:
Гарманіст аднарукі з каханкаю —
Мой зямляк — аднакрылы анёл
Абгарэлага неба афганскага...

*1989*



Экстрасенсы зацьмілі паэтаў,
Абагналі па балах тэнараў.
Папулярнасць зоркі балетнай
Перайшла да царыцы трэнінгу.

Над няшчасцямі рукі Джуны
Узыходзяць надзеі пакровам.
Заікаюся сам, як гляджу на
Гэты профіль з падсветкай барвовай.

Чумака, як святога, вітаюць
Ля дзвярэй натоўпы знядужаных,
Ловяць подых энергіі тайнай,
Як вятроў выратоўную ружу.

Рух адзіны краіну пранізвае
І палоніць экранам плоскім:
Кашпіроўскі стаў тэлевізарам,
Тэлевізар стаў Кашпіроўскім?..

Паядналася ўсё, злілося
З гэтым голасам глухаватым.
Пісем роспачных адгалоссе
Просіць літасці ў экстрагаранта...

Я не ведаю, хто ўратуе,
Я не знаю, ці ёсць панацэя...
Век душу чалавека дратуе
Ці ўчыняе здзекі над целам?..

Боль фізічны цяжэй, чым духоўны,
Ці стагоддзе шукае веру?
Ці сакрэты Бог перахоўвае:
Замест ісціны дорыць хімеру?

Сам пытае: «Якою сілай
Гэты свет суняць разгайданы?
Дзе ты, атамнай эры Месія?
Ці ізноў пачынаць ад Адама?..»

*1989*

* * *

На беразе лютай свабоды,
Дзе смерцю віры кіпяць,
Спыніцца аднойчы народу
І роспачна запытаць:

«Якім жа сябе праклянццем,
Якою карай судзіць,
Каб у крывавай хаце
Рабамі свабоды жыць?..»

*1989*

* * *

Над жытам дамоўку нясём.
Да Бога вузее дарога...
З сабою не возьмеш нічога
І толькі пакінеш — усё.

І мне падрахунак асобы
Не зведаць... Ды маю заклён:
Забраць бы з сабою Чарнобыль
І геназнішчальны фон...

*1989*

## «Дожджык, дожджык, сыпані...»

> Дождык, дожджык, сыпані!
> Я паеду на кані...
>
> З дзіцячай заклічкі

Міні-хмарка
І міні-дождж —
Я не чуў яшчэ пра Чарнобыль, —
Шпарка
Шпарыў бы
Басанож,
Калі б гэта ў дзяцінстве магло быць!
Толькі ўзрост ужо, кажуць, не той —
З ног не скінеш часу пантоплі...
Я на працу ішоў пехатой,
З неба чыстага падалі кроплі.
Я дажджынкам твар падстаўляў,
Я не думаў іх браць на пробу,
Я не знаў, што мне ў твар страляў
Ізатопнай шрапнеллю Чарнобыль.
І ніхто мне аб тым не сказаў...
А праз некалькі сутак Мінску
Тэлевізар цвярдзіў: «Драбяза!
Трошкі атамны дожджык папырскаў...»
Зноў рэактары грозна кіпяць,
А ўваччу — жыццярадасны «тэлік»
І міністраў-монстраў арцелі
Абяцаюць дзяцей купаць
(Не сваіх!) у дняпроўскай купелі...
Мякка сцелюць,
Ды мулка спаць...

*1989*

* * *

Сцежка ласёў капытная,
Трубных рыканняў гукі.
З захаду ноч першабытная
Небу працягвае рукі.
А на рагах ласіных,
Як на антэнах сучаснасці —
Ажно трасуцца асіны! —
Цэзій чарнобыльскі шастае.
Агонь у целе бушуе
Атамнаю агоніяй
І ў белакроўным шуме
Гоніць лася пагоняю.
І ўжо не бачыць дарогі,
Прэ напралом сахаты —
Рэактар чатырохногі,
Энергаблок рагаты...
Зляканыя крышыць дрэвы,
Паветра ўдыхае прагна,
І свеціцца падчарэвак
Радыяцыйнаю багнай.
Нарэшце знямогла асядзе,
Крутыя асунуцца рогі.
І толькі пагоня ў паглядзе,
Ды тванню спутаны ногі...
І зоркі ў небе вячэрнім
На Млечным Шляху раяцца,
Як нашы бясконцыя чэргі —
Стаячыя дэманстрацыі.

*1989*

## Свята паэзіі на радзіме Аркадзя Куляшова

Дзяўчынку завуць Лена,
Мы садзім елачку з ёй.
А елачка — па калена
Напарніцы юнай маёй.

Расці, прыжывайся, елачка,
Дзяўчынку пераганяй.
Не забывайся, Леначка,
Пра гэты атамны край.

Над Бесяддзю ў Саматэвічах
Табе не хадзіць павек...
Навошта ж тут садзіць елачку
Стары дзівак-чалавек?

Навошта і ты падносіш
У звонкім вядзерцы ваду,
Калі апошнюю восень
Тут сцежкі цябе вядуць?

Навошта садзіць — калі мы
Не ўбачым яе ля аблок?..
У класе пра Хірасіму
Вучыла ты страшны ўрок.

І вось ён на лёс твой дзіцячы
Апаў, — дажджынак вада...
Перасяленкай заплачаш,
Як елачка голас падасць...

Чарнобыль урок перападзіў:
На выбух трохсот Хірасім —
І сонца, і квецень у садзе,
І песню салоўка насіў...

А недзе блукае цэзій
З нумарам сто трыццаць сем.
І што яму да паэзіі —
Ён музу выгнання нясе...

Паедзеш ты ў шлях няблізкі
Ад гэтай смяротнай зямлі,
Дзе над Куляшовым нізка
Магілёўскія хмаркі плылі...

Самотнае наша свята:
Як елачкі на ўспамін,
Як Саматэвічаў хаты
У тэрмаядзе рабін...

Вось-вось і апошняя змена
Са школьнага знікне двара...
Бяжыць да сябровак Лена,
А нам — ад'язджаць пара.

Ідзём. А елачкі — шнурам:
Як школьніцы ўсталі з-за парт...
Я Богу кажу:
— Закурым?
— Кінуў. Другі інфаркт...

*1989*

## Напамін

Нязвыклае думкі грахоўнасць,
Рашучасць вузлы развязаць,
І смеласць слупам ахоўным
У вочы праўду сказаць,

І з дамавін вертыкальных —
Недатыкальных трыбун —
Слоў не вяшчаць эпахальных
З папер, як параграф-гарбун,

І не стаяць на каленях
Перад чыноўным сталом,
І страчанаму сумленню
Не быць абярэжным крылом,

Не слыць блазнюком пры народзе —
З вярбы не страсаць ігруш,
І лобнае месца не ўзводзіць
Для ампутацыі душ...

Калі — і «Хто я?», «Дзе я?» —
Пытанні карцяць, як асцё... —
Тады яшчэ ёсць надзея,
Яшчэ не згублена ўсё.

*1989*

* * *

Гісторыі цяжкое памяло
Змятае ў небыццё манархаў прывіды, —
Здаецца, і жыцця ў нас не было,
А толькі пераходныя перыяды.

То эра — то карэнны пералом,
То вера — то бязмэтнасці сіндром,
То чыстка — то абдоймішчы з сатрапамі,
То перагібы — з новымі этапамі...

Шалёныя адлівы і прылівы —
І карабель на люкі ўсе задраены.
І толькі іншы раз даешся дзіву,
Што мы пры ўсім
і жыць яшчэ ўмудраемся...

*1989*

## Па-сяброўску...

І разжуюць, і пакладуць у рот,
І ўсё развважуць, і падкажуць дружна,
Папераджальных фраз калючы дрот
Нацягнуць на слупах ахоўнай службы.

І ўсё ім зразумела: што і як,
Куды, чаму, якую ўзяць калейку, —
Каб не папёрся здуру наўскасяк,
Алоўкам шлях накрэсляць пад лінейку.

І ладзяць па-сяброўску прыручыць
І прывучыць — за што, і з кім, і колькі,
І вырашыць: калі душа крычыць —
Ці мне крычаць, ці мне ўсміхацца толькі...

Ці гнаць бяскрыла ў глебу карані,
Ці крылы без зямлі ламаць у небе...
О Божа, ад сяброў абарані,
Ад ворагаў — я сам змагу як-небудзь...

*1989*

* * *

Адзінка часу нікчэмная —
Жыццё — ад калыскі да смерці,
Вітанне сусвету знячэўнае
У ананімным канверце.

Каму і які патрапіць?
Калі і колькі адмерана?
Не зналі — ні цар Хамурапі,
Ні ўсе прэзідэнты Амерыкі...

Няма такога відушчага.
І толькі — вечнасць на плечы:
Гэты драбочак адпушчаны
Пранесці б хоць па-чалавечы...

*1989*

## Дзеяслоў

Дзеяслоўная рыфма —
кепская рыфма.
І абознікі, і авангард
Зазубрылі:
па самых нізкіх тарыфах
Гэта рыфма ідзе —
як насмешка ці жарт...

«Сеў» і «з'еў»
альбо «выпіў» і «лыпаў»... —
Тут і ўсё. І славе каюк.
І ўжо крытык
амаль што пяском засыпаў...
Плача верш, як пабіты шчанюк...

Толькі што гэта? — гляньце! — рабы
Гнёту выпрасталі гарбы!

Нехта плача, нехта смяецца,
Нехта ў вечным каханні канае,
Нехта ў пошуках ісціны б'ецца,
Нехта ў полымі бітвы згарае... —

Гэта ён, гэта ён — дзеяслоў
Патрасае свет да асноў!

Спапяляе слова кляцьбы,
Прарастае слова сяўбы.

Дык хіба ж дзеяслоў вінаваты ў тандэце?!
Тут ні кроплі яго віны.
Рыфмаплётаў,
што словы кідаюць на вецер, —
Іх судзіце. Паглумцы — яны.

Майстар — слову дае аздобу
І каштоўнасць высокае пробы.
Помніць варта: Купалам і Пушкіным
На Парнас гэта рыфма дапушчана!

Дзеяслоў — дзея слова:
падзея, надзея, —
І душа маладзее, і голас цвярдзее.
Гэта кліч,
што паходняй у цемры успыхнуў.

Дзеяслоўная рыфма —
выдатная рыфма!

*1989*



*У вянок Міколу Гусоўскаму —*
*аўтару «Песні пра зубра»,*
*пісанай па-лацінску*

Б'ецца, пеніцца плынь гісторыі.
То выносіць наверх, то змывае.
І на слова — надзея малая.
А яно мне — адзінай апораю...

А яно, — Харона пасрэднікі
Мне сцвярджаюць, крычаць, як вароны, —
Адмірае. У Кнізе Чырвонай
Адзначай — і сялі ў запаведніку...

Як зубра — у загон... Адзінокае,
Першабытна-пругкае целам —
Хай пасецца... А дума глыбокая
Выбухае ў паглядзе здзічэлым.

А яно — па-зубрынаму ўпартае,
А яно — паміраць не хоча
І нахмураным вокам сочыць,
Хто над шатамі Пушчы каркае.

А яно — не маўчыць у агоніі,
Па вяках адступных і клятых —
У латыні, нібыта ў латах, —
Пралятае Зубрынай Пагоняю.

Старажытнай і юнай песняю
Пра Зубра прабіваецца слова, —
Нашай мовы доля зуброва.
І зубрыны шлях нам накрэслены...

На латыні — Мікола з Гусава,
Я — па кладачцы беларускай...
Гнецца, гнецца кладачка вузкая, —
Ці пяройдзем па ёй беларусамі?..

*1989*

## Атамная малітва

Я ўсім памаліўся: зямлі і небу,
Рэактару, Велехаву, «Такамаку»...
І хто з іх толькі мной не пагрэбваў!..
Ніхто не ўважыў, не даў і знаку...

Тады я ўспомніў самога Бога:
«Няўжо ты з войска не звольніш атам?!.»
Чакаю адказу. Не чуць нічога...
О Божа, і ты ўжо стаў бюракратам?..

*1989*



Я бачыў: боты беглі па бруку.
Без чалавека. Адны. Аж грымелі абцасы.
Ці ён адстаў? Ці за што неадчэпна ўхапіліся рукі?
Ці даганяць тыя боты не меў ужо часу?..

Я бачыў: з праграмы збіваліся гены —
Хто ў рост ішоў, хто сціскаўся шчыгрынавай скурай.
І мітусіліся — жанчынам ледзь-ледзь па калена —
Закаханыя карлікі з безнадзейна-мужчынскай натурай.

Я бачыў: паўзлі карані па дарогах,
Як вужакі на ўзвіжанне перад зімою, —
Уцякалі. А дрэвы нічком вужынаму Богу
Аб ратунку малітву шапталі апошняй галінкай жывою.

Я хацеў дачакацца таго, хто разуты застаўся,
Падказаць: «Вунь туды твой абутак пабег, недарэка...»
Я насустрач пайшоў... Толькі след адваротны трапляўся.
Ды яшчэ, як пісалі газеты, хтосьці снежнага бачыў тады
чалавека.

*1989*

* * *

Чытаю зорную дарогу
На схіле жнівеньскай начы...
Не, немагчыма нават Богу
Смерць аднаму перамагчы.

Хай вечнасць на плячах нясеш ты —
Ты адзінокі: пра жыццё
Ніхто не ведае. І зрэшты,
Чым лепш яно за небыццё?..

Відаць, адчуў ён лёс свой горкі,
Калі стварыць такое змог —
Той, хто не думае пра зоркі,
Ужо смяротны. І не Бог.

І ці не гэтыя сусветы,
Якім ні часу, ні канца,
Перад бяссмертнасцю бязмэтнай —
Зарука вечная тварца?..

*1989*

## Клопаты

Вось і гукнула восень
Недзе з-за жніўнай гары,
Хмарнае цераспалоссе
Носяць у небе вятры.
Бусел, цыбаты пражэрнік,
Стаў на адной назе:
Колецца пруткі іржэўнік,
Мрояцца жабы ў лазе.
Памяць жывую раскратаў:
Помніцца харч дармавы...
Дзякуй, меліяратар,
Што загубіў паплавы...
А верабей — ані дбае:
Жыць на прыклецці — лафа!
Вунь і сынок ля камбайна
Скача ўпадлёт, як блыха.
Ледзь не ў кабіну з азартам
Да камбайнёра залез.
Толькі таму не да жартаў —
Іншы карціць інтарэс:

Пытае Ілля,
ці гатова ралля,
Пытанне Успенне,
ці гатова насенне...

*1989*

## Спаленне

Патрэскваюць суха дровы —
Бяздымная абалонь.
Прымі мой дар папяровы,
Бяздумны дружа агонь.

Каб заўтра не знаць спакою,
Я песню табе аддаю.
І полымя гладжу рукою,
Як заклінальнік змяю.

*1989*

* * *

Распніце —
Крыжам —
На цвіках іржавых,
Сашліце,
Як апошнюю брыду,
Ва ўранавай капальні біць руду,
Урадавы шынок душадзяржальні
Хай лье на млын «вясёлую ваду», —
А голас мой мацнейшы за дзяржаву,
Калі я слова ісціны знайду!

*1989*

## Ля дзвярэй незбудаванай хаты

Эскімо, як эскімосачка
Ў дублёным кажушку,
Перазяблая да костачак,
Падставіла шчаку...

Ненадзейным і гарачым
Пацалункам абагрэй...
Ці смяёмся мы, ці плачам
Ля зачыненых дзвярэй?..

Ключ згубіўся. І ў юнацтва
З грэхам незамоленым,
Што ўзрывае сны знянацку,
Не вярнуцца болей нам...

Толькі на драўлянай ножачцы
Пераскоквае само
Ў вусны з вуснаў — і марозіцца,
І жартуе эскімо.

Ды наіўная, смяшлівая
Гульня за нас хітрэй...
Эскімосачка журлівая
Растане ля дзвярэй...

*1989*

* * *

Адкрыўся мне касмічны сэнс
Легенды пасівелай:
Арфей — антычны экстрасенс —
Каменне зрушваў спевам.
Ён утаймоўваць мог звяроў.
І словам, і кіфарай.
Ён ачышчаў благую кроў
І адганяў кашмары...
І сёння экстрасенс людзей
Збірае ля экрана —
Усіх пакутных, без надзей,
Гаротных, занядбаных.
І моўчкі кожнаму дае
Магчымасць на збавенне...
Паэту б здольнасці тае —
Якраз бы выйшаў геній.
А то кладзе, кладзе прараб
Паэзіі цагліны, —
Ёсць і абрысы, і маштаб,
А дом бяздушна гіне.
Шалёна раз'яднаў наш век
Энергію і слова, —
І не ўбаўляецца калек
І мерцвякоў здаровых.

*1989*

* * *

Перад харомамі храмы
Стаялі з рукой працягнутай,
У твар ім плявалі хамы,
Сусветнай валоды прагнучы.

Цяпер пад рукі выводзім
Старэнькія храмы ў людзі.
А плюне хам пры нагодзе —
Баюся: ніхто не асудзіць...

*1989*

## Перад сцюжай

Неба — плітой мегатоннай.
Морак на крылы насеў.
Горад — як шэры дальтонік —
Колеры зблытаў усе.
Студзень гуляе бясснежны,
Быццам у шорціках дзед.
І верабей незалежнасць
Славіць, як п'яны сусед.
Так разбуяніўся шэры,
Быццам вясна на двары,
І на балконныя дзверы
Плюнуў да горшай пары.
І не чакае падачкі —
Зерня ці сала скрылёк...
Браце мой, толькі з гарачкі
Не прачырыкай свой клёк.
Ці ж не табе па-мужыцку
Знаць: пасля даўкай слаты
Раптам падвей разбяжыцца,
Хруснуць марозна платы,
І затрымціш, быццам голы:
Перайка маеш — аднак
Раптам і холад і голад
Сціснуць твой лёс у кулак...
То прылятай на вячэру,
Клікні сяброў-галчанят...
Помні пра добрыя дзверы,
Помні, хто іх адчыняў...

*1989*

* * *

Вертыкальныя рэкі святла,
Ад сузор'яў — сухія Гальфстрымы.
І мая крынічка цякла
Праз мільярды гадоў нястрымна —
Покуль стала душою маёй,
Словам, песняй, трывогай, загадкай...
...Як не будзе мяне — над зямлёй
Ці пабачыце зорку, нашчадкі?..

*1989*

* * *

Ходзіць мяцеліца гулам,
Крэкча мароз-нізак...
Ды на вясну павярнула
Сонца свой ветразь няўзнак.

Хай яшчэ доўжацца ночы —
Не карацее і дзень.
І паддавацца не хоча
Сэрца халоднай нудзе.

Песні няхітрай каленца
Ціўкне сінічка з дупла...
Летам і мне дастанецца
Трошкі жывога цяпла.

*1989*

## Вогнішча. Месяц. Вечар...

З-за баравой хмурынкі выйшаў месяц,
А ўнізе — мой агеньчык, як двайнік.
І ціхі покліч еднасці узнік,
Каб адзіноту нашу перакрэсліць.

Здароў, нябёс асуджаны вандроўнік,
Па лёсе мой закляты пабрацім, —
Давай неварухліва пасядзім
І вып'ем па самнамбулічнай поўні.

Патрэскваюць паленцы сухастою,
Вярэдзячы язычніцкі мой дух.
Сяджу, замкнуты ў гэты светлы круг,
Дзе памяць грэшная і полымя святое.

Перад якім спыніўся я парогам
Тут, на зямлі, на збітых камянях?
Што там, у небе, сведчыць Млечны Шлях,
Якую абяцае мне дарогу?

Стаіць мой друг,
стаіць — не зварухнецца,
Паглядам жар варушыць у кастры
І, тоячы касмічныя вятры,
Нязбытнай песняй мне насустрач льецца.

Люблю я гэтай музыкі свячэнне,
Я ў гэтых гуках чую цішыню:
Яны ляцяць іскрынкамі агню
І тонуць у адвечнасці вячэрняй.

Мелодыя агортвае шчымліва.
І раптам тайным халадком дыхне,
І нібы перад сконам, ці то ў сне
Усё жыццё перабярэш імкліва...

Мне б у цябе вучыцца, дружа Месяц,
Не траціць час у тлумнай мітусні, —
Няўжо я свой прыход вякамі сніў,
Каб так усё бязмэтна перакрэсліць?

Не веру, хоць не ведаю, якая
Мяне планета прыме ў новы круг...
Касец у небе косіць зорны луг,
І хтосьці ў цемры жаласна гукае...

Гарыць касцёр, а музыка знікае...

*1990*

## Жэня Янішчыц.
## Апошні палёт

Балкон. Небыцця эстрада...
Сяброўскіх пагляДаў цвікі.
І побач — неба прынада:
Зоры карміць з рукі.

А ўнізе кішыць і віруе
Грахоўны Іерусалім.
І дух з кволым целам ваюе,
Як Бог з народам сваім.

Балконныя дзверы насцеж! —
Ніхто не падасць рукі.
І жудасць: «Толькі б не ўпасці!..»
І радасць: «Прастор які!..»

Бывайце, палі, разлогі, —
Я вольная, як і вы...
Іерусаліму пад ногі
Ляціць камячок жывы.

Зямля фатальна старэе
На сорак гадоў маіх.
Ніхто і ніштго не сагрэе,
Назад не паверне той міг.

Якія над райскім садам
Сусветныя скразнякі!..
А мне ўсё падаць і падаць
Знічкаю праз вякі...

*1990*



Век дваццаты, — прарок ці шулер?
Людзі ўроссып, хоць збіліся гуртам.
Цесны час, як вар'ята кашуля,
Цісне час, як абруч манкурта.

Разбягаюцца межы сусвету,
А зямля — нібы знак на скрыжалях:
Невук Мудрай Савой Саветаў
Творыць суд у крэсле дзяржаўным.

І пытае: хто «за», хто «супраць»,
Не забудзе — і «дзякуй» скажа.
Апладзіруюць — опер і супер,
Калі пункт «экстрэмістаў» спляжыць...

Дзед сівенькі, як голуб шызы,
А душою прырос да эпохі —
Аж за поўнач глядзіць тэлевізар:
«Ну й спектакля! Ну й скамарохі!..»

Я зайздрошчу табе, дзядуля,
Ты, як кажуць, дамоў сабраўся, —
Рай зямны, нібы з макам дулю,
Атрымаў, а нябесны — застаўся.

Ёсць надзея... І я таксама
Ўсё часцей пазіраю на неба, —
Толькі з думкаю: час крамсае —
Але й горкай хвілінай не грэбуй.

Гэты дар, гэты выйгрыш знячэўны
Не вымервай бядою і ліхам:
Як пакуты твой лёс не чэрняць —
А жыццё будзе светлым мігам.

Слухай: вечнасці вечную оду
Шэпча дожджык — цёплы і часты, —
І ўдыхай імгненне свабоды
На парозе смяротнага часу.

*1990*

## Маленне

Што будзе знестам часу —
Гармонія? Хаос?
Нябыт? Жыцця акраса,
Што цягне лёсу воз?

І хто нас уратуе —
Цень продкаў? Ці прарок,
Што ісціну святую
Схаваў у п'яны змрок?

Ці д'ябал, што ў руінах
Былой царквы засеў
І статкі душ казліных
На цвінтары пасе?

Ратуй нас, Божа правы,
І ўразуменне дай,
Ад левых як і правых
Уратаваць наш край —

Зямлі куточак белы
(Хоць волі не было) —
Душы прачыстай бераг
І людскасці святло.

Ён белы — значыць, вольны
Ад чорных дум і спраў,
Ён чысты, як настольнік,
Што ў гурт сям'ю сабраў.

Спагаднасць і балеснасць,
Гасціннасці парог,
Як слова і як песню, —
Ратуй, калі ты Бог.

Пакінь праменьчык веры,
Каб не чынілі зброд
Жывыя палімеры,
Дзе ўчора жыў народ.

*1990*

## Глінішча

Адно і засталося ў хмызняку:
Пячоры ды ірвы з вадою талай,
Ды пень ад елкі, што сваю руку
Разлапіў на пагорку шасціпала.

Ды часам буркне цецярук-бабыль,
Але спахопіцца, зірне злякана вокам:
Ці ж такавішча тут, калі гарбыль
Відзён, бадай, на тры вярсты навокал...

Не зарагоча з ельніка пугач:
«Ха-ха! Хвальбонцы, хахалі, ханыгі!..»
І толькі на выбоінах цягач
Раве, буксуючы, у дождж альбо ў адлігу.

Апошні выбралёўваецца лес —
Не на вянцы для зрубаў. І наўрад ці
Тут будзе хто браць гліну на замес,
Каб цэглу выпаліць і скласці печ у хаце...

Даўно ўжо не чутно і ганчароў,
І не звініць іх посуд на базарах, —
Адно на каляінах, нібы кроў,
Пражылкі гліны праступаюць зараз...

Чакае глінішча і ловіць рэдкі дым,
Што іншым часам з вёскі прылятае,
І копішчаў застылыя сляды,
Як лёгкія ў кавернах, уздымае.

Ніхто не едзе, і ніхто не йдзе:
Ні печнікоў няма, ні гаршкалепаў.
Ганчарным кругам чмель стары гудзе
Над жоўтым беспрасвеццем кураслепу.

Чакае гліна дотыку майстроў,
Руплівых пальцаў ласку трапяткую,
Як водгулле няздзейсненых кастроў,
Чырвоным полымем пад дзірваном смуткуе.

Вісіць над глінішчам маўчання страшны суд,
І дрэмле ў гліне чалавецтва драма,
Бо ёсць здагадка пэўная, што тут
Ляпіў Пан Бог прапрашчура Адама...

*1990*

* * *

Я не хачу пакрыўдзіць Бога.
Але спытаць адно карціць:
Калі прыходзіць перамога
Раней, чым бой, — навошта жыць?

*1990*

## Водгук вясны

Як парываліся, як жа імкнуліся! —
Сэрцам да сэрца — з былых берагоў...
Вось і спаткаліся — як размінуліся.
І не пазналі адно аднаго...

*1990*

## Трэцяя

Раслі на ўзлеску тры сасны,
Як сёстры на выданні.
Маліўся ім народ лясны,
І я ў іх быў як даннік.

Прыносіў думы ім свае,
Складаў ля ўзножжа песні
І залацінкі на ствале
Лічыў з сініцай весняй.

А сосны быццам неўпрыкмет
Гайдалі таямніцу,
Вечназялёнасці сусвет
Стаіўшы пад ігліцай.

Адны жылі ў іх кронах дні
І крэўна іх ядналі,
Адны паілі карані
І ў непагадзь трымалі.

І на каго з вас, тры сястры,
Клён зыркаў маладзенькі?
Перад якою дуб стары
Стаў моўчкі на календкі?

Адна аздоба і краса,
Адзін зімовы полаг...
Адна смяротная каса —
Піла. І ў снезе полаз.

Каб маладыя сасннякі
Займелі лёс таварны,
Прыйшлі аднойчы леснікі
З парубкай санітарнай...

Праз год ці больш пасля разні
Прыйшоў і я... О Бог мой:
Ад дзвюх сясцёр чарнелі пні,
А трэцяя — засохла...

*1990*

## «Запіс 1988 года...»

Ад эпох, ад сусветных сюжэтаў
Не адрокся, — былы размах:
З таго свету голас паэта
Носіць радыё па дамах.

Покуль верш мы выводзім на рынак
І духоўным рыззём трасём, —
Як анёл, над грэшнай сябрынай
Пралятае Сцяпан Гаўрусёў.

Як гукае: «Здарова, хлопцы!..
Што вы ўсё аб нікчэмных рублях?!
Не прадайцеся, хлопцы, падробцы, —
Аб сусветных дбайце баях!..»

Паўтарае радыёхваля
І радок, і паветра глыток, —
І не мы яго пахавалі —
Ён нас кліча на новы віток.

Пругка дыхае запіс на плёнцы,
То лагодна, то гнеўна гучыць:
«Абаронцы вы ці абіронцы?
Стрыжні вы ці старыя карчы?!»

Падпяразаны гнуткай пілою
З бацькам крочыць хлапчук у лес...
Як у люстра, глядзіцца ў былое
Мудрай прышласці этнагенез.

Рассыпаюцца ў тло куміры,
Пустацветных эпох бажкі.
А паэтава дума ў эфіры
Праз вякі ляціць напраскі.

Пад крылом прамільгнула Еўропа,
Вось ужо і над Афрыкай верш...
Як жывецца ў сусвеце, Сцёпа,
З кім там райскую чарку бярэш?..

*1990*

## Імправізацыя

Закаханым — чаканні, спатканні
І гуканне вясны на світанні...
Нам — змярканні, глухія расстанні
І ў вясну, як у сон, вяртанні...

Як па леташнім снезе полаз,
Успаміны вывозіць голас...

— Ой вясна-красна,
Што ты нам прынясла?
— На дзевак удобу,
На хлопцаў хваробу!..

— Лёгкі смутак з неба гляне
Залётнай аблачынкаю,
Завязалася каханне
Зялёнай асачынкаю...

— Дзеўка замуж захацела,
Сярод поля абамлела —
О-ё-ёй!..

«О-ё-ёй...» — як рэха, за сцяной
Часу, што ўжо глыбай ледзяной
Стала паміж ім і паміж ёй —
Той смяротна хвораю вясной...

І глядзіць, як няўцямная, хата:
— О, які ж ты страшны, тата...
— Гэта страшны, дзеткі, не я —
Гэта страшная смерць мая...

*1990*

* * *

Тысячагоддзе на зыходзе,
І ты, пакутная, стаіш
На горкай ростані — паміж
Чужынцаў пры сваім народзе.

Ці Бог паслаў такіх сыноў,
Што адракаюцца ад маці,
Ці д'ябал вырасціў у хаце
З сыноў лакеяў пастаноў?

Хто абароніць і ўратуе
Цябе, Радзіма, ад чумы
Бяспамяцця, якое мы
Сваім бяспамяццем рыхтуем?

І што наступны век нясе,
Якім яго прывеціш словам —
Тым, што ад продкаў, ці ўжо новым,
Што з мовай цэзія асеў?

Прымне цывілізацый прасам?
Ці выжывеш?.. Парог відзён,
І дзесяць год, як дзесяць дзён
На шалях выклятага часу.

«З якіх нап'ешся ты крыніц?» —
Дваццаты век глядзіць айчымам...
І невядомасць ёсць прычына
І прадчуванне навальніц.

*1990*

## Разняволеныя

Разняволілі селяніна:
Раскулачылі — і ў Сібір!
Годзе гнуць на палосках спіны!
Там — прастор вам, і рай, і шыр!..

Разняволілі ціхія рэкі,
Што вірыліся пад лазнякамі,—
Збеглі ў свет з-пад крынічнай апекі
Букавіны са шчупакамі...

Разняволілі родную песню,
Раскавалі вякоў абручы, —
Каб душа расквіталася з плесняй —
Да шаленства гарлай і скачы,—

Разарвалі пакутны ланцуг!..
І ў бікіні выходзіць на круг
«Лявоніха» разняволеная,
Какафоніяй разлявоненая!..

*1991*

* * *

*Зняверанаму беларусу — на выстаўцы Казіміра Малевіча*

Лёс чорны, як Малевіча квадрат,
Ды роспачы не паддавайся, брат.
У цемнату скалапсаваны свет
Не толькі ёсць мінулага партрэт,
І не адбітак смерці, і не скон —
Цяжарны новай будучыняй ён.
За мёртвай гранню чорнага капца
Зіяе не канец — канец канца.

*1991*

* * *

Хоць я не Бог, я вам даю свабоду
Ад вечнага, ганебнага ярма,
Даю вам запавет: няма народа,
Калі агню ў яго душы няма.

Калі ў сусвеце не палае зоркай
Яго прарочы геній і абы
Чужое літасці прасіць чужой гаворкай,—
Тады жывіце на зямлі, рабы!..

*1991*

* * *

З пункта А і да пункта Б —
Пяцікласнікам над задачаю —
Як вывозіць, краіна, цябе?—
Мой народ карпее няўдачнікам.

Кабінеты штогод і штодня
Абяцаюць стабілізацыю.
А за ёй — як на фота радня:
Выглядае сталінізацыя.

Бо ўжо так павялося здавён:
Над народам павінны быць сталінцы,
І глядзіць на сталіцу ён,
Нібы двоечнік на настаўніцу.

І нядбайнік ён, і гультай,
Ды яшчэ і гарэлкай разбэшчаны.
З-за яго і дзяржаўная сталь
І грамадства дае наша трэшчыну...

Хоць не пляскае ў ладкі свет —
Пацяшаецца нашай абноваю
І цікуе, ці вывезе з бед
Perestrojka каўчэгам ноевым...

З пункта А і да пункта Б —
Над задачаю пяцікласнікам —
Колькі ж будзе народ гарбець,
Колькі ж мы яму будзем клясціся?..

Стыне кроў... З натхнёных арбіт
Сэрца падае, нібы жаўранак,
Разбіваецца аб граніт —
Камяні панура-дзяржаўныя...

*1991*

* * *

Вы хочаце мёртвай прасторы,
Пустой, адлучонай ад сілы
Тых душ, што былі нам апорай,
Сусвету разгортвалі крылы?

А я — да магілы схілюся —
І чую дыханне Бога.
І ў небе — душа Беларусі.
І болей — няма нікога.

*1991*

* * *

— А што ў цябе, бяроза, на сняданак?
— Самотны ранак, ветрам разгайданы.
— Тады заходзь, папі са мною чаю:
Ён ад адчаю часам выручае...

— А што ў цябе, бяроза, на абед?
— Усё, што выставіў Чарнобыль на загнет.
— Тады заходзь, глыні са мною кроплю:
У белай, кажуць, чорная патопне...

— А што ў цябе, бяроза, на вячэру?
— Чарнобыль зноў і той жа смутак шэры.

— Тады і я цябе не пагукаю,
Бо сам, здаецца, толькі гэта й маю...

*1991*

* * *

Танцаваў залаты журавель
У праменні сонца вячэрняга
І ўяўляў, як з вакольных зямель
Выступаюць жураўкі чэргамі —

Да яго, да яго, да яго:
Выбірай! — ідуць на агледзіны...—
Гэтак мроіў стары ветрагон:
Безліч іх — і ён пасярэдзіне!

А сярэдзіна — гэта ставок
Пад імшарнаю купкай лазоваю.
І ці ў той, і ці ў гэты бок —
Толькі пустка — асушанай зонаю...

Так скакаў журавель і скакаў,
Як заведзены туга спружынаю,
Покуль я неўспадзеў наблукаў
На яго донкіхоцтва птушынае.

Супыніўся і ён неўспадзеў.
Журавінавым вокам з пагрозаю
На мяне паглядзеў — і ўзляцеў,
Як прамовіў: «Ходзяць тут розныя...»

*1991*

* * *

На полі, як сусвет, —
жытнёвы плёс.
Дарог няма тут, як і не было.
Віецца толькі, як загадка-лёс,
Узмежкам сцежка ў роднае сяло.

Тут сцішыла грымотны свой сувой,
Схаваўшыся за ўзгоркамі, шаша,
І васілёк — нябесны цёзка мой —
Глядзіць, нібы наіўная душа...

Я тут не сеяў і не буду жаць,
Я тут бяздомак, хоць і не чужы.
Вунь пад бярозамі дзяды мае ляжаць, —
Ратуй іх, Божа, і аберажы.

Ратуй ад нашых помыслаў зямных,
Аберажы ад промыслаў быцця,
Якімі сон штодня трывожу іх —
Падкінутае ў свет вякоў дзіцця.

Адкуль, сцяжынка, і куды вядзеш —
Ніхто не знае і не скажа мне...
І поле мудра прамаўчыць — але ж
Апошнім суцяшэннем не міне:

Хай я памру,
Ды вечна будзе жыць
Вось гэты васілёчак на мяжы.

*1991*

* * *

Хлапчук маленькі нацянькі
Бяжыць праз поплаў ад ракі
І маму радасна гукае.

Ці гэта ты?
Ці гэта я?
Ці гэта смерць бяжыць мая?.. —
Хоць знаю ўсё, але пытаю...

*1991*

* * *

Я слухаю моўчкі зямлю
І з небам вяду гаворку:
Якую ў сусвеце люблю
Высокую самую зорку.

Не бачаць людзі яе,
І Богу яна невядома,
А мы з ёй даўно свае,
Яна ў маім сэрцы, як дома.

І сніцца, і мроіцца мне
Планіда маёй Беларусі...
Я сам не знайшоў яе — не,
Але і згубіць баюся.

*1991*

* * *

Якім ён будзе, новы наш каўчэг
Таго — радыяцыйнага — патопу?
Прамень? Крышталік генны, як арэх
З ядром Амерык, Азіі, Еўропы?

Ці слова, што наш дух перанясе
Да новых зорак і напоўніць плошчу?
Ці вогненны — у казачнай красе —
Конь-гарбунок з маланкавай аброццю?

Ці карабель, падобны нашым снам?..
Але — якім ён, той каўчэг, ні будзе —
Бог не паможа ратавацца нам, —
Будуйце, грэшнікі,
будуйце самі, людзі.

*1991*

* * *

У свеце ўсё было, і ўсё прайшло.
Які там круг, якая там арбіта —
Апошняя ці першая адкрыта?
Мінулае яшчэ не прарасло.
А будучае ўсё — даўно забыта.

*1991*

* * *

Людзі будуюць вечнасць,
Ды боскай гліны не маюць
І ў слепаце чалавечай
Руйнуюць, а не ствараюць.

Людзі шукаюць вечнасць,
Ды адрасу людзі не знаюць,
Бягуць, а шляхам сустрэчным
Вечнасць іх абмінае.

Людзі купляюць вечнасць,
Ставяць жывым манументы,
Ды славе згінаюць плечы
Нясплачаныя працэнты.

Людзі прымерваюць вечнасць
Перад люстэркам часу,
А вечнасць, як недарэчнасць,
Стаіць з сабою сам-насам.

*1991*

## Сутнасць

Не я прадаваўся за форму
І словы прыдумаў не я, —
Тут сэнс, быццам Бог, — непаўторны:
Жыта, жанчына, жняя.

*1991*

* * *

Апроч мора няма глыбіні?
То тады — у нябёсы зірні.
Апроч неба няма вышыні?
Божа мой, мне душу барані...

*1991*

* * *

За мяне схавацца немагчыма
Тым, хто здрадзіў маці і Айчыне,

Хто змяняць душу яе і мову
На карону царскую гатовы.

Я не з вамі, хто ў любві клянецца,
А назаўтра д'яблу прадаецца.

Я не з вамі, хто, як на рулетку,
Ставіць свой рыштунак партбілетны.

Я не з вамі, хто мяне наважыў
На пайкі чыноўныя разважыць.

Я не з вамі, хто вучыць народы
Прэ нахабна, — я не з той пароды.

І не стойце хіжа за плячыма:
За мяне схавацца немагчыма.

*1991*

## Аптымістычная песенька

Чорна-белыя крыжы
Кнігавак над лугам...
Успамін стары бяжыць
Баразной за плугам.

А раллю, дзе быў пакос,
Чэша грэблі грэбень,
І канава, нібы трос,
Цягне вёску ў неба.

Быццам Богу напаказ —
У спадніччы-міні, —
Як русалку, што якраз
Тут жыла пры млыне.

Патанулі паплаўкі,
Зарасло мачыла,
Што мяне на сажанкі
Выплываць вучыла.

Дзе вадзілі гусакі
Па муравах статкі,
Буракі, як бурсакі
Ў трапезнай, на градках.

Дзе гулялі шчупакі,
Віравалі ў нераст,
Дзеляць кільку мужыкі
Пад змутнелы «херас».

І ніхто не ўспамяне,
Што было над Начай,
І ніхто не пракляне
Гэты рай жабрачы.

І ніхто не праміне
Тут прагрэс пабачыць,
І за ўсё надзейней мне,
Што ніхто не плача.

*1991*

## Фантазія

Стракозы з вачыма касмічнымі,
Вялікімі, як ліхтары,
З надкрыллямі феерычнымі, —
Заглядваюць злёту ў віры.

Што бачыцца ў цёмных завоінах,
Што мроіцца ім з вышыні —
Такой не далёкай ад здвоенай
І страшнай, як ноч, глыбіні?

Садзяцца на лісце гарлачыкаў, —
Гайдаецца касмадром
І студзіць ім лапкі гарачыя
Сусветным зялёным святлом.

І мрояцца ім абяцаныя
Касмічныя гарады,
Падвойным адлюстраваныя
Адбіткам нябёс і вады.

Снуюць чаўнакамі караблікі
У сонечным ззянні арбіт,
І крылцы над станікам зграбненькім
Трапечуцца згадкай планід.

І шэпчуць мне штосьці крэўнае
Наборамі храмасом,
І з глыбіні падкарэннае
Мой лёс выплывае, як сом.

*1991*

* * *

Прыйшла беларусізацыя —
Другая на нашым вяку.
І круціцца на языку:
Што гэта: рэанімацыя,
Ці абуджэнне нацыі,
Ці толькі ўсяго эксгумацыя
На нейкім касмічным вітку?..

*1991*

* * *

Колькі войнаў, страт і нягод,
Анямення ў паклонстве пахілым,
Што на ўвесь чалавечы род
Да скanання свету хапіла б.

Топча зграя прыблудных сяброў,
Топчуць родныя дзеці —
Нібы ў жылах чужацкая кроў,
Нібы памяць развеяў вецер.

Прышлай песні і слова рабы —
Здрадай плацім Айчыне
І зракаемся мовы, абы
Нас за нас не лічылі.

І мой крык — мой апошні крок
І нікчэмная перасцярога.
Як бяздомны, бязмоўны прарок
Я стаю перад Богам:

Ці твая блаславіляе рука,
Ці нас д'ябал збівае з кроку:
На гісторыі бальшаках
Пагібець толькі збоку прыпёку?..

Ты навошта паклікаў нас
І стварыў гэты люд, о Божа,
Калі ў смерцю азначаны час
Ты ачнуцца яму не паможаш?!

*1991*

* * *

«Пахне, пахне — чалавечым духам», —
Захлынаўся злосцю дух нячысты.
«Пахне чалавечынай», — і нюхам
Кат барвяніў ноздры лапушыста.

Вечна побач, у хаўрусе вечным —
З чалавецтвам у любві злюцелай:
Той — каб у жывых душу нявечыць,
Гэты — адсякаць душу ад цела.

І не збочыць нам, і не вярнуцца,
Не знайсці інакшае дарогі...
Крыж Хрыста і попел рэвалюцый, —
Знакі перамогі ці знямогі?..

*1992*

* * *

Як гэта музыка без слоў,
Што ападае з клёнаў долу,
У сэрцы неба прарасло
Тугой аб шчасці невядомым.
Аб шчасці тым, што не было,
І быць, здаецца, не павінна,
Якое Бог табе пакінуў, —
Ды, пэўна, весткі не дайшло...

*1992*

* * *

Разарвуцца сутак абручы,
Знікне чорна-белае мільганне,
І не выйдзеш з гуслямі ўначы
Абудзіць магільнае курганне.
Не замкнецца небам далягляд,
Сонцам не абрынецца дарога... —
Толькі стылай вечнасці парад
І тупой бясконцасці знямога.
Ды кашчэем космас у сяўбе
Рассыпае і збірае зоры...
Вось тады і праклянеш сябе
Воляю — без часу і прасторы.

*1992*

* * *

Адабраны мой край,
Край, стаптаны бязроднаю паствай,
Анямелы мой край,
У якую патрапіў ты пастку?
Хто наставіў яе
І сыноў тваіх зманнаю сілай
Мусіў збэсціць свае
Карані, і шляхі, і магілы?
Хто завабіў і чым
Ад цябе адракацца самохаць?
Хто забіць і забыць навучыў
Слова роднае імем эпохі?..
Адабраны мой край,
Занядбаны, — далёка хаўрусаў
Ты зламысных сваіх не шукай, —
Гэта мы, гэта мы — беларусы...

*1992*



Са мной заўжды таварышы мае —
Вось гэта поле, гэты лес і неба.
І толькі песні жніўнай не стае, —
Згубілася? Ці ў ёй няма патрэбы?..
Сышла ў нябыт, як спрацаваны серп,
Са жнеямі палегла пад крыжамі...
І збродлівы магнітафонны сверб,
Нібы кароста, душы паражае.
Нібы ўладарыць не́жаць на жніве
І не́кась на лугах стаіць нямая, —
Дзе тая песня? Ці яшчэ жыве,
Ці мёртвая — а ўсё мяне гукае?..
Мне боязна, таварышы мае,
За вас мне страшна: я сыду, смяротны, —
А як жа вы без песні?!. Без яе —
Няўжо і вы знямелі беззваротна?..

*1992*

* * *

Лістапад-прадзімнік,
Жоўты калаўрот,
Снегу прывязі мне,
Санкам дай разлёт.

Цохкія падковы,
Полаз, як агонь, —
Па дарозе новай
Ты скачы, мой конь!

Мне не для пацехі —
Каб ажыць ізноў:
Трэба так праехаць,
Як даўным-даўно.

На пралётных санках,
На кані гнядым —
Заінелым ранкам —
З татам маладым.

А як я праеду —
Дні перагартай, —
Не пакінь і следу,
Сцежкі замятай.

Мне цяпер даволі —
Аж да скону дзён —
Волі той у полі,
Што звініць, як звон.

Лістапад-прадзімнік,
Дзякуй за хаўрус,
Снежаньскі сцялі мне
На Дзяды абрус.

*1992*

# Пераможца

Як вось зямлі, цяжкая кавяла, —
Рыпіць, але на свята прывяла,
І хто — планета з [redacted] ці радавы? —
«Кру-гом!» — артыкул круцяць страявы?..

Ваяка баявы, павіслы вус, —
Як успамінаў адламаны кус:
Удовам дахі правіў і платы, —
Па вёсцы ўсёй кугакалі браты.

І ці не ў кожнай хаце сёння свой
Ён з чаркай самагоннай, франтавой.
Адно што і самому ўжо няўцям:
Дзе ўнук бяжыць, дзе простае дзіця...

Але на свяце — зноў па чыне чын —
Праменіцца ў бывалым-кірзачы
Усё, што вынес з праведных баёў:
Адна нага і дзесяць медалёў.

*1992*

* * *

Дзе разнатраўя шугалі рэкі,
І неба ў плыні гайдала сувой,
Дзе перакаты «з вараг у грэкі»
Ішлі праз памяць легендай сівой,

Дзе пчолы неслі ў сотаў сусекі
З лугоў квяцістых узятак свой,
І навальніца — як райскія лекі —
Варыла ў сто вясёлак напой, —

Там сухаполля шэрыя здзекі
Ўзышлі калючаю трын-травой,
І недастойныя чалавекі
Трымаюць німбы над галавой...

*1992*

## Прадвесне

Вясна ўсё чутней і прыкметней:
Сумёт на сугрэве ажух,
І кот валачэ на штыкетнік
Праветрыць зляжалы кажух.

Развешвае ў садзе сініца
На голлі ільдзінкі-званкі,
І грак-халасцяк ажаніцца
Намерыўся — раз на вякі!

*1992*

* * *

Амфітэатра кола,
Круглая гаварыльня, —
Вясёлых падманаў школа,
Мудрасці зубадрабільня.

Колькі прайшло партакратаў,
Дробненькіх і вялікіх,
Колькі прыйшло дэмакратаў, —
Людзі ўжо збіліся з ліку.

А манументальная зала
Помніць з архіўным стажам,
Што ўлада старая казала,
І знае, што новая скажа.

Усё ад імя народа
І ўсё — у імя народа, —
Такая ўжо тут на сходах
Народалюбцаў парода!..

У клятвах заломваюць рукі,
Гатовы сканаць за эпоху...
То, можа б, ад гэтай мукі
Іх ратаваць патроху?

Ці нейкі настой адваротны
Прыпісваць для ахалоды,
Бо ад любові смяротнай
Няма куды дзецца народу...

*1992*

## «1999—2000»

Надпіс на межавым знаку

Сплывае век дваццаты грэшнікам,
А дваццаць першы зззяе грыўнай,
Ідзе са світаю пацешнаю
І ў твар людзям глядзіць наіўна.

Як афрыканец, у якога
Язык у роце не ўмяшчаецца
І вусны з рупара пустога
Паганскім смехам прычашчаюцца;

Як ты, двайнік мой, калі неруш
Мне аддаеш з перасцярогай, —
І я дзіўлюся: мне ты верыш,
А лепш было б — паверыць Богу...

Паверыць маці-адзігітрыі
З уратавальнікам на ўлонні,
Калі абраз выносяць хітрыя,
Каб зноўку працякоў палоніць...

...Апошні зуб адзінкі тоненькай
Тапырыцца з цынготным досціпам,
І тры дзевяткі-апалонікі
Вось-вось свае адкінуць хвосцікі.

Надзьмуцца і, як перад згубаю,
На раздарожжа веку выскачаць —
І ўжо, нібы раты бяззубыя,
Нулямі пракрычаць: 2000!..

І новы век старому веку
На мытні часу сплаціць пошліну,
Дзе ў снах, як у пустых засеках,
Я зерні вымятаў апошнія...

*1992*

* * *

Паэзіі штучная глеба...
Бяссонна, тайком ад людзей
Яе пасылаеш у неба,
Каб вырасціць жменьку надзей.

Паэзіі вечны астрожнік,
Кілзаеш ілюзій нулі, —
І штучны ляціць спадарожнік
Вакол адзінокай зямлі...

*1992*

## Хлопчыку, якому споўнілася тры гады

Твая душа святая —
Смяешся ты ці плачаш —
Прыносіць вестку рая
Нам, грэшным і лядачым.

Прыносіць нам збавенне
Ад помыслаў бязбожных
Твой дух — як дзень тварэння, —
Ахоўны і трывожны.

І сэрца маладзее
На нейкую хвіліну,
Якую безнадзейным
Твой добры Бог пакінуў.

*1992*



Вачыма памяці глядзім,
Дзядоў склікаем на вячэру,
П'ём чарку, і куццю ядзім,
І п'ём — яшчэ раз і яшчэ раз...

Усё, што маем, стол сабраў,
Хоць і не поўны круг у нечым:
Каб на Дзяды дванаццаць страў
Было — і з холаду, і з печы...

Ні шынкі і ні кіндзючка,
Што летам на гарышчы высмяг...
Ды так не толькі ў мінчука, —
То не ўзніміце нас на высмех...

Усім «жыцця гаспадары»
Такую зладзілі вось казку...
Таму да лепшае пары
Прабачце, госці, калі ласка...

Каб і ў сяўбе, і ў малацьбе
Быў лад і плён, дзядоў мы просім, —
Як бы прыгадваем сябе
Цераз стагоддзяў шматгалоссе:

Якімі мы тады былі,
Жылі ў прапрашчураўскіх мроях,
Якімі будзем на зямлі,
Калі адыдзем у былое...

І ў хаце погалас адзін:
Дзядоў склікаем на вячэру —
Вачыма вечнасці глядзім
І крышачку ў бяссмерце верым...

*1992*

* * *

Душа заснула і маўчыць,
Як вір пад снежнай стромай,
А хтосьці з глыбіні крычыць —
Даўным-даўно вядомы.

Я засланю рукамі слых:
Каго там пахавалі?
Ды страшна вабіць ускалых
Застылай, цёмнай хвалі, —

Як весні водбліск на крыле
З халоднага нябыту,
Як воблік зваблівы — але
Даўным-даўно забыты...

*1992*

* * *

Жыццё — загадка, жыццё — іспыт:
Над прорвай звабнай прайсці па дроце.
А мы — бяжым, аж звініць капыт
На кожным д'ябальскім павароце.

То рэвалюцыя, то застой,
То Юр'еў дзень, то аседласці рыса, —
Заўсёды мы перад зманнай вярстой:
І ў пекле — райскія ёсць абрысы.

Каму цукерка, каму бізун —
А кожны з лужыны пнецца ў мора,
І чэснасць лічым за драбязу,
І выкідаем на сметнік гонар.

Хто вераломствам, а хто маной
Збіваем прагна спакусы яблык —
Абы з наварам — любой цаной, —
І спавядацца бяжым да д'ябла...

*1992*

* * *

Згублены арыенціры,
Зруйнованы ідэалы:
Гандляр прымярае парфіру,
Паэт — штаны чынадрала.

Такая ў нас песня зараз:
У душах — навар ды прыбытак,
У сэрцах — нахабства базару,
У зрэнках — рахункаў адбітак.

На голую ўсё патрэбу —
На продаж: і шчырасць, і ласкі.
Ні вечнай красы пад небам,
Ні... камуністычнай казкі...

І новым асвечана санам
У новым чыноўным крузе:
Каму праспяваць асану,
Якой пакланіцца музе.

Вылазіць на сцэну з падполля
Прадажнае закулісе...
Адно суцяшае: ніколі
Я гэтым багам не маліўся...

*1992*

## Вестка

Усё ў заснежаным здранцвенні,
Усё ў закутай цішыні,
Забыліся галінак цені,
Што ёсць на свеце карані.

Сінее інею ігліца,
Імгліцца сонечны скрылёк,
Ды ў зябкім голасе сініцы
Трапеча сіні васілёк.

*1992*

* * *

Перапёлка ў жыце,
Волкая расінка,
Я аддам сто жыццяў
За тваю слязінку.

Я аддам сто жыццяў,
А з табой вярнуся, —
Перапёлка ў жыце,
Знічка Беларусі.

*1992*

* * *

Анёлаў бяскрылых стрэс —
Бяскроўны плач немаўлятак:
«Людзі, вярніцеся ў лес
І праклініце атам...»

*1992*

* * *

Кажуць, на развітанне з мінулым
Чалавецтва рагоча з яго:
Адсякаюць агулам тым гулам,
Што было — ад чарцей і Багоў...

Смех з карэннем дзядоў вытрасае, —
Чалавецтва смяецца ўсмак.
Над знямелымі галасамі
Смех цвіце, як чырвоны мак.

Смех — з мінулым каб расквітацца —
Чалавецтва абрала цаной, —
Так смялей. Як смялей кітайцам
За Вялікай кітайскай сцяной.

Як смялей смельчаку, што спявае,
Уначы ля магіл ідучы.
Як смялей, калі зычна гукаюць,
Сальта круцячы, цыркачы...

Усясмейны страх, усясветны...
А страшней: між д'ябальскіх труб
Раптам — з будучыні ракетнай —
Развітальна, як з апраметнай,
Засмяецца апошні труп...

*1992*

## А мог бы...

Якая няўмольная сіла
Вядзе, каб ты ў бунце аслеп;
Якая рука замясіла
Змагарны і горкі твой хлеб?

У багне канверсій, інверсій,
Дзе смягне партыйная рацць,
Чаму ты ў віцці ірвешся?
А мог бы — кахаць ды спяваць!..

*1992*

## Дарога

Ад парога — сцяжынкай праз двор,
У траве-мураве цераз поле, —
Як устане, дастане да зор,
Ды ні слова не скажа аб долі.

Вы навошта, адкуль і куды, —
Не спытае ніколі ні ў кога.
Хто прайшоў, хто пакінуў сляды, —
Раўнадушша не знае дарога.

Быць удачы ці чорнай бядзе?.. —
Гэта ў нас памаліцца зазвычай...
А яна ўсё вядзе і вядзе
І ўсё некага кліча і кліча...

*1992*

* * *

Мала яшчэ памерці,
Гэта яшчэ паўбяды —
Схопяць анёлы ці чэрці
Душы тваёй горкі дым.

А беды пачнуцца потым —
Заблытацца можа сам Бог:
Якія аформіць «пачоты»,
Каму падпісаць некралог...

Колькі абраць прамоўцаў,
І вызначыць, на якой
Ідэалагічнай вяроўцы
Труну апусціць на спакой...

І па якому разраду,
І побач з кім пахаваць...

Паслухайце, хлопцы, параду:
Лепей не паміраць!

*1992*

## Сорак дзён...

Пэўна ж нейкі дапёк свінтос
Ці абрыдла дарэшты зямля ўся:
Сорак дзён у пустыні Хрыстос
Ад людзей і ад свету хаваўся.

Адпусціў на пашу асла,
Адмяніў візіты, круізы,
Не прымаў ні цара, ні пасла,
Сорак дзён не глядзеў тэлевізар.

(Свісне дока: «Адкуль жа ён
Нашу тэхніку браў, панове?» —
Адкажу: «Бог ёсць Бог, — з нашых дзён
Напракат мог усё замовіць!..»)

Значыць, так: тэлік Бог адключыў,
Даў адгул усім чыста радыстам
І каб спаць спакойна ўначы,
Гвазданула аб камень транзістар.

Як адсек: «У меню — ні на грам
Тэле-радыё-пацярухі!..»
Сорак дзён Хрыстос з-за «бугра»
Айзенштат Галіну не слухаў.

І не чуў — крычы не крычы,
Хоць сабе налажы галавою, —
Як жыццю беларусаў вучыў —
Сам з Нью-Ёрку — Сокалаў-Воюш...

Сорак дзён — ні кіно, ні шоў,
Джаз-бандыт увушшу не ляскаў,
Ні жанок, ні мужчын-галышоў, —
Сорак дзён жыў Хрыстос па-райску...

І на сорак першы сказаў
Уладыку-айцу Саваофу:
«Вось цяпер я жыццё спазнаў!
Зараз — можна і на Галгофу...»

І пайшоў — крыж прыняць за нас,
Ценем шлях ахіналі алівы...
Сорак дзён — найнікчэмнейшы час —
Але быў жа пакутнік шчаслівы!..

*1992*

# Мелодыя
# бульбянай баразны

Ад золкага ветру пальцы пакрэплі,
Ім бы нырнуць у дупло рукавічкі,
Як гэта робяць праныры-сінічкі,
Калі заснежыцца хмар атрэп'е
І гусі-бежанцы нікнуць, як знічкі.

А бульба зябка бялее ў барознах
На чорным загоне — як вокам акінуць,
І ў нізкім паклоне гнуцца жанчыны —
У шэрых ватоўках ніцыя лозы,
І пырхаюць пальцы, як над піяніна...

Бягуць баразной, як шукаючы песню,
Што весні жаўрук перанёс сюды з неба,
Схаваўшы пад сэрцам у цёплае глебы, —
І колькі ў пошуку launch пeратрэсці
Барознаў трэба — за грэбнем грэбень...

Асеннім эцюдам дзень вечарэе, —
І хто пачуе мелодыю тую,
І хто вас, пальчыкі, пацалуе,
І хто дыханнем сваім абагрэе, —
Хаця б тады, як са свечкай скрыжуюць...

*1992*

* * *

З лесам, як і з гарамі,
Быць чалавскам мала.
Лес ад іскрынкі згарае,
Каменьчык нясе абвалы.

Іскрынка ў сухую ігліцу
Ўпадзе светлячком нявінным —
І выбухне навальніца
І ў корані, і ў верхавінах.

Каменьчык звонам пчаліным
Змушае нямыя горы
Азеўрыць ратоў цясніны
На ўсё каменнае горла.

А чалавек? Чалавеку
Суджана быць душою,
Суджана быць апекай
Лясных і горных устояў.

Аддайце ж, і лес, і горы,
Усе вашы крыўды і гора,
А мне наўзамен, недарэку,
Скажыце: як быць з чалавекам?

*1992*

* * *

У тое лета чад гарачыні
І лёсы, і нябёсы затуманьваў,
І спусташэнні на зямлі чыніў,
І смажыў карасёў у тлустай твані.

У тое лета я за крокам крок
Сваё жыццё былое перакрэсліў.
У тое лета я даваў зарок
На д'ябальскі кірмаш не лезці з песняй.

Натоўпам, звар'яцелым ад бяды,
Пабанкаваць — ніжэйшая з амбіцый, —
Лепш паднясі сасмягламу вады
І дай травінцы высахлай напіцца.

*1992*

## Запіс у кнігу водгукаў масандраўскага віназбору ў Крыме

Бутэлек чорныя тамы —
Масандры вінатэка:
Упокат — горныя грамы
І сонечныя рэкі.

Вось гэткую спадобіў цар,
А ў гэтай князь купаўся...
І толькі той не бачу ў твар,
З якой народ змагаўся.

Славутых марак, як парод,
На шыльдачках найменні.
Але шкада: на сотні год
Бутэлькі анямелі.

Дзе гáласу згубіўся ключ?
Насухамá трымае,
Як у намордніках, сургуч
Пародзістую зграю.

Маўчаць скляпенні камяніц,
У скронях — звон цвярозы.
А ў думках — зваба шаляніц,
Брэх дварнякоў пагрозны:

«Сучок», «бландзінка», «каленвал»,
«Мярзотнічак», «кустоўка»...
Тут вам не сонечны абвал,
А галаваразломка!..

Калі такая вось гайня
Прычэпіцца навальна,
То не ўратуюць ні радня,
Ні кодэкс крымінальны.

Штаны спускае на шматкі,
Кішэні прагрызае.
Ды ў рай затое напрасткі
Дарогу праразае.

Бунтуй, задзірысты народ,
Душы разломвай краты!..
А тут — бязмоўных ценяў сход,
Тут спяць арыстакраты...

*1992*

* * *

Публіцысты лірыкаў, як заедзь,
Як машка таежная, сякуць...
Пад кустом лірычным, нібы заяц,
Верш мой рыфмай бумкае ў шчаку:

«Тэмпы, бітвы, мітынгі, пачыны, —
Не бяжы за фактамі наўспрыцць:
Праўда голая — як голая жанчына, —
Хочацца хоць чым-небудзь прыкрыць».

*1992*

* * *

Былое — не бывае,
Мінуламу няўцям:
Атака лабавая —
Закон і сэнс жыцця.

Не знае адступленняў
Касмічны той разгон.
І першы дзень тварэння, —
Мабыць, апошні ён?

Не павярнуць з былога
Ні лёсаў, ні дарог.
І ў будучым — нічога
Адкрыць не можа Бог.

*1992*

* * *

Сядзіць у касцях — як закон:
«Штодня і да́лей, і вы́шай», —
Сацыялізму плён
І камунізму дышаль.

Вяршыні штодня штурмаваць
Вучыся і ў песні, і ў працы!
Каб хібы штодня выпраўляць,
Вучыся штодня памыляцца.

І сёння, і заўтра — штодня...
А жыць калі ўрэшце будзем?
Чыя мы ўрэшце радня —
Якога свету прыблуддзе?

Пхнецца гадоў арба, —
Зазначылі класікі слушна, —
І выціскаць раба
Трэба па кроплі з душаў.

Энтузіязму гарляк
Заціснуць, каб не ўлюлюкаў.
Альбо — абнашчыўшы гляк —
Слухаць мелодыю Глюка.

*1992*

* * *

Калі дзень першы тварэння
Кранаецца душ чалавечых, —
«Прыйдзі, беларускі геній!» —
Я заклінаю праз вечнасць.

Прыйдзі, каб узняць з каленяў
Бяспамяцтвам затаптаных,
Прыйдзі, беларускі геній, —
Бяда нараджае тытанаў!..

Калі між Багоў пачнуцца
Вялікія перадзелы
Іменем рэвалюцый,
Сцягоў, ад крыві зрудзелых, —

Скажы ім: «Дзей землятрусных
Не ладзьце, багі-алімпійцы:
Аддайце Расію рускім,
А нам — Беларусь пакіньце».

*1992*

## Няўжо...

І сёння над пакутнаю зямлёю
Свабоды неба вараннём кішыць,
І сёння Каліноўскага пятлёю
Нас Мураўёвы хочуць задушыць?..

І Паўлюка Багрыма жырандолі,
Як свечкі памінальныя, няўжо
Гараць і сёння над тваёю доляй,
Радзіма на бяспамяцці крыжоў?

І сёння нашы стомленыя хаты
Няўжо не дапытаюцца асноў?
Няўжо ж парог бацькоўскі вінаваты,
Што кліча — не даклічацца сыноў?..

Няўжо не быў народ пасіянарным,
Калі меў лёс страшней за эшафот,
І сёння, перакручаны пачварна,
Няўжо душой не ўзвесніцца народ?

Ці будуць зноў, Радзіма дарагая,
Бунтоўны рус і апраметны лях
Святлом штыкоў, шпіцрутэнаў, нагаек
Табе ў наступнасць выпраменьваць шлях?..

*1992*

* * *

То балет класічны, то сімфонія,
То спявае сам Лучана Павароцці:
Ці памёр з правадыроў хто сёння,
Ці чарговы путч пераваротны?..

Аб надвор'і палітычным тэлерадыё
Выдае музычныя прагнозы.
Што ні дзень, то новы курс урадавы:
Як нам выйсці ў авангард з абозу.

Дакляруе на ўвесь свет віція ўспенены,
Як абуць і накарміць краіну,
Учарашні бос мардуе Леніна
Іменем святым Айца і Сына!

Хрысцяцца ў «хадэкі» камуністыя,
Голяць Маркса і мяняюць маркіроўку.
Дыяматчык «на пазіцыях» не выстаяў:
Прадае кароўку і вяроўку.

І экран на ўсе тэлеабдоймішчы
Прэ ў народ і ўзахліпкі гайдарыцца.
А ў народа — сталае відовішча:
У чарзе, як у пятлі, гайдаецца.

*1992*

* * *

Хто мы і дзе мы — без мовы і маці?
Б'е інтэрдэман у грудзі эпох.
Бог наш у блудзе, Бог наш растраціў
Болей, чым мог...

Душы злінялыя брагай палошчам,
Век свой аўраламі цела гняцём
І звар'яцела даводзім на плошчах:
Што ёсць жыццё?

Роднiць нас крэслы халоднай крывёю,
Розуму крэсы крамсаем — абы
Шлункі акрэслілі норму спакою, —
Рыбы, рабы!..

*1992*



Дагарае на ветры мая залатая дуброва,
І Паўночная зорка адзіны кірунак дае:
Ён туды, дзе завея насупіла снежныя бровы, —
І ніхто не суцішыць халодную песню яе.

Будзе ўсё, як было, — замятаецца сцежка зямная,
І ніхто не заўважыць, як ты ў гэтай стыні згарыш.
Ды пачуе віну, што камусьці яшчэ замінае,
І драўлянай рукой сам сабе пераксціцца твой крыж...

*1992*

* * *

Я здрадных не баюся нератоў,
Даверлівасць была маёй бранёю,
Да хітрасці не засылаў censored сватоў
І з подласці — смяюся дабрынёю.

Ды ворагу не раю вызначаць,
Чыя труна дзе, а чыя калыска.
І бачу злосць у ворага ў вачах, —
А гэта значыць: перамога блізка!

*1992*

## Калі гукне...

Калі гукне старая на мяжу —
На тую, што ў нябёсы будзе стартам,
Як ліст асенні, я не задрыжу,
Мая пагарда стане, нібы варта, —
Нахабства набяруся і скажу:
— Сыдзі з вачэй, са мной благія жарты, —
І на парог — не дзеля куражу,
А як мудрэц — спакойна пакажу:
— Я не бяссмерця вымагаю ўпарта, —
Але я той, каго чапаць не варта!..

*1992*

* * *

Ці ёсць і ці водзяцца ў нас філосафы?
Дайце хоць з кім-небудзь пагаварыць!..
Ці душа беларуская злегла без просыпу
І адно спажывае, што скажуць «бугры»?

Тыя, талмуднікі «Курса кароткага»,
Па сумяшчэнні прарабы навук,
Тыя, сексотамі і сексоткамі
Што прыбіралі студэнтаў да рук...

Ці ж не было ў нас калісьці Лышчынскага,
Што за ідэю згарэў на кастры?
Ці гэткі лёс — што дзяржаўнай ляйчынаю
Розум нам вечна будуць вастрыць?..

Дзе ты зашылася, думка ваяцкая?
Хопіць трымаць дыямата аршын!..
Хоць аднаго — з ідэяй «вар'яцкаю» —
Дайце філосафа — дзеля душы!..

*1992*

## Калядны эцюд

То натоўп, то чарга маўзалейная
Ля дзвярэй магазінных таўчэцца...
Ні сняжынкі... Макроцце залеўнае
Прарастае на лужынах шчэццю.

Восень, як закансерваваная,
Прастаяла аж да Калядаў.
І прыходзяць ціхай нірванаю
Толькі ў памяці снегапады.

Толькі помніцца, як сумётамі
Цераз тын беглі зайцы да яблынь,
Як ганялі снежнымі мётламі
Пазаўголлю вядзьмарак д'яблы.

Як гукаў на куццю багатую
Маразоў у застолле тата...
І глядзіш — як цяпер, зіркатыя,
Тэлецені плішчацца ў хату.

Як прагуцца віцці экранныя
Нам шляхі абазначыць у прышласць,
Раскаціць абрусы самабраныя
І спяваць, што ніхто ў нас не лішні...

І спажыву даць папяровую —
Кінуць лозунгі ў масу народа,
І павысіць магутнасць бровараў —
Абаронных нашых заводаў...

*1992*

* * *

Праз ноч — без адзінае лямпы —
Імчаўся сляпы цягнік,
Хапаліся круглыя лапы
За рэек жалезны цалік...

Часовае зборышча лёсаў,
Дарог выпадковы хаўрус, —
І глуха ляцеў пад адкосы
Трывог і надзей землятрус.

*1992*

* * *

Якая таемная музыка:
З-пад лёду звонкім струменьчыкам
Крынічка ў спаднічцы вузенькай
Бяжыць па марозных каменьчыках.

Якая шчымліва-гаротная
Былінка трымціць над мелодыяй, —
Якая надзея смяротная,
Што будзе вясна ўзнагародаю.

І, пэўна ж, не размарожу я
Ды і суцешыць не ўмею.
Толькі — сляды мае пожняю,
Толькі — маўкліва нямею...

Схілюся, як перад Айчынаю,
Гляну ў крынiччыны вочы:
Усе гаварыць навучыліся,
Слухаць ніхто не хоча...

*1993*

## Раней і цяпер

Як раней былі ў нас начальнікі:
То маўчальнікі, то велічальнікі,
То маленькіх людзей павучальнікі,
То вялікіх ідэй вызначальнікі...

А цяпер пайшлі ўсё начальнікі —
Дэмакраты выручальнікі,
Партакраты вымятальнікі,
За саміх сябе паручальнікі,
Для сябе прывілеяў вяртальнікі,
Самі самасабевяшчальнікі,
За народ — мікрафонаў глытальнікі...

*1993*

## Барацьба

Была барацьба класавая,
Цяпер — барацьба касавая.

Адна касою касіла
Буржуяў нячыстую сілу.

Другая косіцца вокам
На касу буржуяў далёкіх —
На амерыканскага спонсара,
На бізнес-гейшу японскую...

Перад сусветнаю касаю
З працягнутаю рукою
Стаіць барацьба класавая...

Вечнага ёй супакою...

*1993*

* * *

Дэмакраты — эпохі дамкраты —
Падстаўляюць плячо пад гісторыю,
Сцелюць славу на шлях, як вату,
І на слова хранічна хворыя.

Думу думаюць аб народзе
Думакраты — трыбун аратыя:
Не аб хлебе, а ўсё аб свабодзе,
Азірнуцца — а дума за кратамі...

І няўцям, што сабе вяшчуюць
Пахавальнае слова пахвальнае,
Што і слухаюць іх і чуюць
Толькі сцены і дурні банальныя.

І чакае прарока Айчына, —
Прыйдзе ён, народам пакліканы,
Каб на тле, дзе маною лячылі,
Узрастала праўда вялікая.

*1993*

## Зона

Аралі эпоху нарогамі
Насілля,
ратуючы свет:
Зона рэжыму строгага —
Найпершы быў запавет.

Усё азначалася зонамі:
Зона працоўнага дня,
І адпачынку сезоннага,
І зона: чым дыша радня...

З'явілася ў нас і асобая —
Няхай пазайздросціць зямля! —
Чорная зона Чарнобыля,
Плён інтэлектабылля...

А сёння, на выдумку скорыя,
Мы новы агорваем плён:
Сёння растуць мухаморамі
Фундатары новых зон.

З учэпістай хваткай нязменнаю
Ашчадцы партыйных кас
Паходжваюць бізнесменамі
На фоне жабрацкіх мас.

Партбосы і кадэбэшнікі,
Былыя ахоўнікі зон —
Сённяшнія «падсябешнікі» —
Бяруць камерцыйны разгон.

Былыя «святыні» аплёўваюць,
Даляры ў кішэню грабуць
І едуць у зону рублёвую,
Імперскую ўзняўшы трубу.

Зона свабоднага бізнесу,
Зона свабодных муз,
З культурай — у зоне зблізімся,
А зона — Савецкі Саюз.

І зона дзірак азонавых
З міжзор'яў касмічных Крамля...

Калі ж перастанеш быць зонаю,
Пакутная наша зямля?..

*1993*

## Мяккі знак

Людзі заўважалі тую сілу:
На пажары баба
ратаваць
З лямантам цягнула матавіла,
Кубел з пражай кінуўшы згараць.

Супраць бабы не скажу нічога,
Толькі неадступна, як на грэх,
Увушшу свіргоча д'яблаў рогат:
«Як пісаць вам слова: «снег» ці «сьнег»?»

Ну а мы, каб напісаць — дый годзе:
«Сьнег» ды «сьмех»... — давай дыскутаваць
Пры глухім, зняверанным народзе:
Мяккі знак вяртаць ці не вяртаць...

На вучоных зборышчах двайную
Норму акадэмікі даюць...
Можа, мяккі знак і адваюем,
Ды і той зладзеі адбяруць —

Разам з мовай... А ўзамен — нямому
Гэты цёмны і бяздомны зброд
Паднясе дзяржаўны дар двухмоўя:
Быў народ — а будзе паліглот!..

І над мовай дзьмухаюць кадзілам,
Правяць пахавальную імшу,
Ну а мы — выносім матавіла,
Калі трэба ратаваць душу.

*1993*

* * *

Хутка восень: зоры буйнеюць,
І драбнеюць дажджы, і туман
Все тлом... Ды не верыцца неяк,
Што і лета было як абман...

Што дарма красаваліся кветкі,
Што бязмэтна ліўні гулі,
І што лёс — безнадзейна і рэдка —
Светлы быў на гэтай зямлі...

Не згаджаецца сэрца з тугою,
Не прымае астыласці знак,
Яшчэ сонца адною нагою
Дзесьці ў ліпені, можа, — аднак...

Можна выкрасліць дзень заімглёны,
Ды з якіх гэта, браце, прычын
Разгараюцца барвы на клёнах
І згасаюць усмешкі жанчын?..

*1993*

* * *

І ніхто не ўгадае,
якім яно будзе, жыццё,
І ніхто не прадбачыць,
якою аб'явіцца смерць:
Вы, хто ў мяккіх пуховіках
ноч лежыцё
І хто кідае плоць
на бетонную цвердзь...

Кажуць, толькі аднойчы
святло адкрыцця
Азарае душу —
небыццём назаўжды:
праз вякі —
Знай усё! —
Ды тады ўжо не будзе жыцця, —
Хто гатовы зрабіцца празорцам такім?

*1993*



Дзе жаўранак — песня нагорная,
Дзе ластаўка — птушка саборная, —
Там побач, амаль што надворная,
Варона — прарочыца чорная.

Дзе неба — азёрнаю казкаю,
Дзе травы — зялёнаю ласкаю, —
Там хмара — прыблуда нянаская —
Пакровам смяротным запляскала.

Дзе поле — як Біблія вечная
Быцця і жыцця чалавечага, —
Там шэпча дарога сустрэчная
Замову апошняга вечара.

Дзе пушчы адорвалі сілаю,
Дзе ветры займаліся крыламі, —
Там сёння над роднай магілаю
Душа мая кружыць астылая.

*1993*

## Шлях

Як дыханне — удых і выдых,
Так жыццё — нараджэнне і смерць.
І ні будняў, ні святаў абрыдлых:
Над імгненнем — нябыту смерч.

І нікому з жывых не дачуцца,
Што свабода вышэй быцця.
І што шлях ад жыцця прачнуцца —
Гэта шлях пайсці ад жыцця.

Шлях туды, дзе раскутыя сілы
Ад пакутнай ляцяць зямлі...
...Вы ж пайшлі ад свежай магілы,
Як ад смерці сваёй уцяклі...

*1993*

## Па-беларуску

Дагэтуль носім той ганебны комплекс,
Гняце непаўнацэннасці сіндром:
Маскоўскі градус і разліў маскоўскі —
Ад космасу да нарыхтоўкі дроў...

Не з Белай вежы, а з Крамлёўскай вежы
Глядзець на свет прывучаныя мы.
Трымаемся адно маскоўскіх сцежак,
А ад сваіх бяжым, як ад чумы.

Блукаем па гісторыі няўцямна:
Ліцвіны, зрэшты, мы ці маскалі?
І плачам: ці не іншапланецяне
Падладзілі нам смехам Віскулі?..

Нібы з Масквою, з вёскаю пушчанскай
Аднойчы сам Нью-Йорк загаварыў,
І нам на галаву, як на няшчасце,
Упалі незалежнасці дары...

Што з ёй рабіць нам на дарозе коўзкай,
Дзе мусіш сам апірышча шукаць?
І зноў сіндром загаварыў маскоўскі:
Куды мы ў свет? Давай Маскву гукаць!

Партыйны комплекс і ваенны комплекс...
І ўжо не знаеш: свой альбо не свой
Ну гэны самы, твой, мужчынскі, компас, —
Усё скамплексавалася з Масквой...

Зноў бюракрат з маскоўскаю начынкай
Даводзіць, як схавацца за Крамлём,
І талерантна на сваю Айчыну
Па-беларуску дружна мы плюём!..

*1993*

* * *

Ці сэрцам нелюдзею,
Ці старасць на плячы
Сядзіць ахаладзела,
Як жаба на карчы.

Ні жарты, ні суцешкі,
Што ісціна ў віне,
Ні веснавыя ўсмешкі
Не радуюць мяне.

Ды на салоўкі пошчак
Суцеха ёсць адна:
Шчаслівым не зайздрошчу —
Дапіце ўсё да дна!

Душу вам не заснежу
Самотаю сваёй.
І што вясне належыць —
Хай застаецца ёй!

А мне — цяпер — не потым —
Ад вашых пірагоў
Кавалак адзіноты
Адрэжце — і ўсяго...

*1993*

## Апошні расстрэл

Трапічныя кветкі,
трагічныя кветкі,
Падаюць на тратуар, —
Натоўпік рэдкі,
дзве-тры суседкі,
І ў неба твар —
камісар.

Тумба —
дзве даты —
прозвішча ката, —
І грозна праносіць рука
Палец гарбаты,
у мёртвага зняты
Са спускавога кручка...

*1993*

* * *

Развіжанасць і размеранасць,
Музычная стройнасць формул —
Ды салаўінае: «Верую»
Ўзрывае мёртвыя нормы!

Так чыстага розуму досведы
Граняцца на зломах вар'яцтва, —
Як цьмяна вястуе досвітак,
Што ў промні сусветы раяцца.

*1993*

## Тэлебіржа

Экранныя, убогія,
Душою даўганогія,
А целам звар'яцелыя
Мадэлі распацелыя
Тавар свой прапануюць.

Пакупнікі лінуюць
На клетачкі паперу
(Нібы рыхтуюць краты),
Каб выставіць дзяўчатам
Адзнакі за манеры,
За бюст і за натуру,
За міні-фурнітуру...

І з мляўкаю гарчынкай
Смакуюць секс-начынку
Футбольныя балельшчыкі
Ад Нарачы да Лельчыцаў.
І з масаю крытычнаю
Напору эратычнага
Рагоча бравы прапаршчык —
Прыпаршчык душ салдацкіх:
— На пляц такія б «лапушкі» —
Маршыравалі б хвацка!..

*1993*

* * *

З нікчэмнасці ці з велічы сваёй —
Хто асудзіць, хто ўзважыць мае права?! —
Узводжу свет над гэтаю зямлёй, —
Тут *я* царую, тут *мая* дзяржава!

Я выклікаю словы з небыцця, —
І раптам, і адкуль яны бяруцца?
І гэтых помыслаў, і гэтага жыцця
Стварыць не могуць сотні рэвалюцый!..

*1993*

## «Ойча наш...»

Мама «Ойча наш...» прамаўляла
І вучыла ксціцца мяне, —
Больш малітваў мама не знала, —
З той, адной, быць і мне ў труне.

Слоў для Бога не трэба многа,
З Богам лепш не крычаць — памаўчаць.
«Ойча наш...» — мая засцярога,
Калі д'яблы ўвушшу верашчаць.

«Ойча наш...» — ці ў грымотах дарога,
Ці ў чарнобыльскай мляўкай цішы, —
«Ойча наш...» — я прашу толькі ў Бога
Хлеба і ўратавання душы.

Я ў сваіх універсітэтах
Не спазнаў да неба шляхоў, —
Ды здагадку меў, што ў сусветах
«Ойча наш...» — мой надзейны схоў.

«Ойча наш...» — тыя вочы-пытанні,
Што на покуці ў нас жылі,
Мне і сёння адказ патайны
Абяцаюць, ды не на зямлі...

*1993*

## Валуны

Дзеці жвірыстых выдмаў —
Валуны і каменне, —
Ледавік вас раскідваў
Падталаю жменяй.

Цар над мацерыкамі,
Тут ён гнёт супакоіў,
Бо зямля ў нас такая
І сонца такое.

Там, дзе ляда і поле, —
Гор крамяністы высеў, —
Як нядоля і доля,
Вы з намі зрасліся.

У лясах воі з коп'ямі
Вам таемна маліліся.
Вас клялі і выкопвалі,
Дзе нарогі тупіліся.

Вас кувалдамі сваталі,
Вас цягалі да крушняў,
Вы ў падмурках пад хатамі
Лежыцё непарушна.

Клалі вас у аснову
І да злыдняў прылічвалі, —
Валуны — нашай мовы
Зацвярдзелыя зычныя.

Кунакі вы Эльбрусу,
Хоць з паўночнае пашы, —
Вы душой — беларусы,
Вы з характарам нашым!

*1993*

## Квадракола

Пастаўлю шклянку на Каран
З цукроваю, застойнай, —
Ратуй мяне, Алах, ад ран
З падмогаю Хрыстовай.

Ад ран, што ныюць у душы,
Бязвер'ем раскрамсанай, —
Я п'ю з шайтанам барышы
І з д'яблам — гэтаксама.

Ды хоць пазнаю ўсё да дна,
А тайна застаецца:
Хто і навошта раз'яднаў
Дарогі чалавецтва?

І што лічыць мне дарагім
Ці рассмяяцца толькі,
Калі Усход іграе гімн,
А Захад скача польку?

Як спалучыць з квадратам круг,
Каб везла квадракола
Зямной фурманкі вечны дух
І мой дагмат вясёлы?..

З чужых літанняў п'ю «ярша»
На д'ябальскім Сінаі,
А ці прададзена душа —
Яшчэ ніхто не знае!

Каран і Біблію прашу
Аб новым Зеставанні:
Не разрывайце мне душу,
Пакутную ў нязнанні.

Хоць абіваюць мой парог
З усёй зямлі хімеры:
Адзін сусвет, адзін і Бог —
Я толькі ў гэта веру.

*1993*

## І не развіталіся...

Лецейка шырокае,
Высокае сонейка,
Дзе вы адгалёкалі,
За якім сасоннікам?
За якую пушчу вы
З'ехалі-схаваліся
На вятрах раз'юшаных —
І не развіталіся?..

*1993*

## Госці-ўспаміны...

— Як вы кахаецеся? — спыталі ў вясковага хлопца.
— Пашэпчам, пашэпчам ды засмяёмся...

З прачыстым снегам, з празрыстым смехам
Да зыркай печы ляцела снягуркай.
Марозны вечар на месяцы ехаў:
«Снягурка, снягурка, згуляем у жмуркі!..»

Калядная казка, зорная ласка:
У пацалунку з небам зліёмся...
На белым пагорачку — весняя краска, —
Пашэпчам, пашэпчам ды засмяёмся...

Вечар зімовы, снягоў замовы:
«Мароз, мароз, хадзі куццю есці!..»
Трашчаць не ў печы — на холадзе дровы,
І светлае полымя згубілася дзесьці...

А на парозе ў стылай знямозе —
Госці-ўспаміны, — пагрэцца, няйначай?..
Жар снегірыны на белай бярозе...
Памаўчым, памаўчым — і заплачам...

*1993*

* * *

Калі ўжо апраўдаць сваю прысутнасць
На гэтым свеце не змагу нічым:
Ні песняй, ні каханнем, —
хоць на суткі
Я ў Бога ўкраду ад жыцця ключы.

Ён не пакрыўдзіцца, ён зразумее, пэўна, —
Я не таму, каб ратавацца, — не:
Мне трэба толькі там пабыць — у спеўнай,
Прыпацкай — не прымацкай — старане.

Я столькі ўзяў і з той зямлі, і з неба,
Што трэба мне, каб не параніць іх,
Вярнуць усё: аддаць назад ім трэба
Маё дыханне, памяць, зрок і слых...

*1993*

## Можа...

Мала мазоліцца
Думак падзоліцай,
Мала няволіцца:
Мала ўсё, мала ўсё, —

Можа, маленечкай хопіць дэталі:
Каб у вачах па смяшынцы купалася
І каб за пазухай птушкі спявалі?..

*1993*

# Змест

**Зуёнак В.**

З-93 Выбраныя творы: У 2 т. Т. 1. Гронка цішыні: Выбр. вершы / Прадм. Р. Барадуліна. — Мн.: Маст. літ., 1996. — 446 с., 1 л. партр.

ISBN 985-02-0103-7 (т. 1.).

У кнізе выбраных вершаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Зуёнка жывае кардыяграма пачуццяў і дум чалавека, сэрца якога засведчыла парыванні, узлёты і падзенні, цішыню і землятрусы нашага часу.

З $\frac{8820600000 - 061}{М\ 302(03) - 96}$ 92—95 ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

Зуёнак
Васіль Васільевіч

Выбраныя творы ў двух тамах

Том 1
ГРОНКА ЦІШЫНІ
Выбраныя вершы

Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар А. І. Цароў
Тэхнічныя рэдактары Г. П. Тарасевіч, М. Ц. Папкова
Карэктар Я. Ф. Харко

Здадзена ў набор 11.09.96. Падп. да друку 31.10.96. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 23,52+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 24,31. Ул.-выд. арк. 15,02. Тыраж 3000 экз. Зак. 1296.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.